# Змест

# Ад рэдактараў

Гэта кніга — зборнік матэрыялаў міжнароднай канферэнцыі «Бунт у імя свабоды: забыты ген беларусаў?», якая адбылася 8–10 сакавіка 2013 года ў Варшаве. Гэта ўжо пятая канферэнцыя такога тыпу, арганізаваная Інстытутам грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі пры Універсітэце Лазарскага. Яе натхняльнікам і ідэйным патронам быў прафесар Джарджтаўнскага ўніверсітэта (ЗША) Анджэй С. Камінскі, заснавальнік Інстытута і нястомны прамоўтар «беларускай справы». Канферэнцыя была арганізаваная пад кіраўніцтвам выканаўчага дырэктара Эўлаліі Лазарскай і дзякуючы фінансавай падтрымцы Нацыянальнага фонду ў падтрымку дэмакратыі і Фонду Конрада Адэнаўэра.

Гэты праект дазволіў стварыць форум абмену думкамі, платформу для шырокіх дыскусій і, безумоўна, пасеяў зерне новых ідэй у беларускай інтэлектуальнай думцы. «Бунт у імя свабоды» глыбока ўкаранёны ў гісторыю Беларусі, хоць у перыяд расійскай і савецкай акупацыяў быў прыглушаны. Гэта пацвярджаюць шматлікія прыклады супраціву беларускіх гарадоў і мястэчак, славутыя паўстанні XIX ст., розныя формы пратэсту ў культуры. Дэмакратыя і грамадзянская супольнасць у выпадку Беларусі з'яўляюцца не прапановай звонку, а выцякаюць з беларускага гістарычнага досведу.

У першай частцы кнігі «Гісторыя — настаўніца жыцця ў свабодзе» размешчаны тэксты шэрагу беларускіх гісторыкаў, якія крытычна асэнсавалі важныя факты нацыянальнай гісторыі праз прызму ацэнкі поспехаў і няўдач у адстойванні «свабодніцкага ладу жыцця». Прафесар Антон Мірановіч аналізуе феномен мірнага суіснавання розных рэлігійных і культурных традыцый у Вялікім Княстве Літоўскім. У процівагу яму прафесар Захар Шыбека звяртае ўвагу на няпростыя, часам напружаныя, адносіны паміж беларусамі і габрэямі ў царскай Расіі. Пра тое, у якой ступені жыхары беларускіх вёсак і мястэчак былі прывязаныя да страчанай свабоды, распавядае Іна Соркіна, засяроджваючыся перадусім на раннім перыядзе расійскай акупацыі (канец XVIII — пачатак XIX стст.). Анатоль Трафімчык паказвае спецыфіку беларускага супраціву асіміляцыйнай палітыцы II Рэчы Паспалітай. Абшар савецкага панавання — аб'ект даследаванняў Уладзіміра Ляхоўскага і Алега Дзярновіча. Першы разглядае асаблівасці «Слуцкага паўстання», другі — тэндэнцыі да інтэлектуальнай незалежнасці беларускіх гуманітарыяў у пасляваеннай БССР.

Аналізу розных культурных феноменаў прысвечана другая частка

зборніка «Культура смяецца з палітыкі». Асаблівай увагі заслугоўвае тэкст культуролага і кінакрытыка Андрэя Расінскага. Аўтар вылучыў і ахарактарызаваў два тыпы карнавалу ў Беларусі: 1) які смяецца з аўтарытарызму (Бахцінаўскі карнавал) і 2) «аўтарытарны» — цынічны смех гвалтаўніка, які топча чалавечыя каштоўнасці. Уладзімір Валодзін закранае тэму, якая рэдка трапляе пад увагу гісторыкаў, але якая павінна з'явіцца ў кантэксце рэфлексій над «беларускім бунтам»: хіпі ў Савецкай Беларусі. Паэтка Валярына Кустава ў вольнай манеры разважае пра сучасную беларускую літаратуру, акрэсленую станам «посттутэйшасці». Артыкул Пятра Рудкоўскага прысвечаны апісанню форм удзелу Касцёла ў грамадска-культурным жыцці Беларусі і абазначэнню яго праблемных пунктаў.

Абмеркаванне «бунту ў імя свабоды» не магло абмінуць пытанне значэння нацыянальнай ідэі і еўрапейскай арыентацыі. Дагэтуль у Беларусі няма кансэнсусу наконт таго, чым з'яўляюцца «нацыянальны выбар» і «еўрапейскі выбар» — узаемадапаўняльнымі ці ўзаемавыключальнымі опцыямі. Артыкулы шведа Пэра Андэрса Рудлінга, беларуса Аляксея Ластоўскага і венгра Андраша Раца закранаюць розныя аспекты гэтай дылемы. Шведскі даследчык апісвае асаблівасці стварэння беларускай нацыі. Беларускі — прэзентуе генеалогію нацыянальнай дзяржаўнасці ў гістарычнай памяці беларусаў. А венгерскі — аналізуе практычныя аспекты «еўрапеізацыі Беларусі». У іншым ключы напісаны тэкст Ірыны Кашталян, прысвечаны ролі рэлігіі і рэлігійнай абраднасці ў штодзённым жыцці беларусаў.

Публікацыя зборніка не была б магчымай без дапамогі, працы і парад многіх людзей. Рэдактары выказваюць падзяку старшаму дырэктару еўрапейскіх праграм Нацыянальнага фонду ў падтрымку дэмакратыі Роджэру Патоцкаму і старшыні Беларускага офіса Фонду Конрада Адэнаўэра Аляксандру Бракелю за зацікаўленасць праектам і яго фінансавую падтрымку. Дырэктару Інстытута грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі пры Універсітэце Лазарскага суддзі Ежы Стэмпню — за патранат, парады і неверагодную атмасферу. Асаблівую ўдзячнасць хацелі б выказаць грамадскай кампаніі «Будзьма» за арганізацыю практычных майстэрняў. Нашаму медыя-партнёру газеце «Новы час» — за інфармацыйную падтрымку. Былым стыпендыстам Інстытута, якія падзяліліся сваім досведам, дзякуем за карысныя парады. А таксама валанцёрам і працаўнікам Універсітэта Лазарскага за руплівую і крэатыўную працу, удзельнікам, слухачам, гасцям і ўсім тым, хто падтрымліваў, ствараў непаўторную атмасферу і ўсяляк дапамагаў у арганізацыі канферэнцыі і падрыхтоўцы да публікацыі яе матэрыялаў.

Пётр РУДКОЎСКІ, Кацярына КОЛБ

# Уступ.

# Разважанні пра самакіраванне і грамадзянскасць

**Анджэй С. КАМІНСКІ,** Джорджтаўнскі ўніверсітэт, ЗША

Ці пазбегне Беларусь лёсу Брэтані? І калі змаганне за мову з суседкай-імперыяй будзе прайгранае (як гэта было ў Ірландыі), то ці пойдзе Беларусь у барацьбе за суверэннасць і грамадзянскія свабоды шляхам ірландцаў, а не брэтонцаў? І нават больш: ці можна спадзявацца, што Беларусь не стане расійскай Брэтанню? Цяперашнія ўлады, а перадусім Аляксандр Лукашэнка, відаць, больш прывязаныя да мовы ўсходніх суседзяў, чым да сваёй уласнай. Адасабленне ад Еўропы і цесныя сувязі з Расіяй падводзяць да не вельмі аптымістычнага адказу на толькі што пастаўленыя пытанні. Праціўнікі Лукашэнкі — справа, злева і з ліберальна-дэмакратычнага цэнтру, кожны па-свойму, — імкнуцца стрымліваць працэсы «брэтанізацыі». Для адных барацьба за мову з'яўляецца інтэгральнай часткай барацьбы за суверэннасць, для іншых моўнае пытанне не з'яўляецца такім важным. Аднак усё большая частка апазіцыі, а таксама і цяперашняга электарату Лукашэнкі, пачынаюць разумець аддаленыя наступствы палітыкі «зачыненых дзвярэй», якія аддзяляюць Менск ад Еўропы.

Цікава і карысна паглядзець на мапы, якія адлюстроўваюць змены ў Еўропе на працягу двух тысячагоддзяў, карыстаючыся наборам мапаў не толькі дзяржаўных межаў, але таксама рэлігіяў, моваў і народнас-

цяў праз кожныя 500 або 300 гадоў. Здзіўляе адсутнасць стабільнасці, знікненне шматвяковых запісаў і з'яўленне не вядомых раней назваў. Здзівіць нас можа і адыход у нябыт моваў высокай літаратуры, такіх, як правансальская або старабеларуская, не кажучы ўжо пра лаціну, без якой увогуле не было б еўрапейскай цывілізацыі. Здзівіла б нас таксама знікненне і раптоўнае ўваскрэсенне этнонімаў. І сапраўды, народы, якія на працягу доўгіх стагоддзяў як быццам знаходзіліся ў стане зімовай спячкі, даволі хутка абудзіліся і пачалі самі вырашаць свой лёс — так было ў выпадку славакаў, славенцаў, латышоў і эстонцаў.

У сучасных дэмакратычных дзяржавах нацыянальныя рухі далей выступаюць з патрабаваннем пашырэння аўтаноміі і самакіравання: баскі, шатландцы, у меншай ступені валійцы і нямецкія аўтахтоны на Апольшчыне [Opolszczyzna, Польшча — рэд.].

Расія і Кітай — шматнацыянальныя імперыі з арбітральным спосабам кіравання — з'яўляюцца майстрамі ў вырашэнні гэтых спраў. Іх кіраўнікі добра разумеюць: гэта бомба, якая выбухае, звычайна, у часы наймацнейшага крызісу, што знясільвае дзяржаву. Узгаданыя імперыі з'яўляюцца прафесіяналамі ў запуску аб'яднальных, злучальных і асіміляцыйных працэсаў. Узорам для іх служыць, з аднаго боку, міжнародны «кацёл» — ЗША, а з другога — Брытанія. Пры тым, аднак, ні кітайцы, ні рускія не могуць змірыцца са стратай этнічнага дамінавання, таму іх манеўры а-ля ЗША даволі абмежаваныя.

Вось ужо некалькі стагоддзяў Крэмль вядзе барацьбу за падпарадкаванне земляў і народаў, якія калісьці ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі. Ваенная агрэсія заўсёды суправаджалася змаганнем за сімвалы і гісторыю. Не хацелася б тут развіваць гэтую тэму, але варта прыгадаць некаторыя аповеды. З аднаго боку, пра Белага Каўпака — перанос сімвалу праўдзівай веры з Рыму ў Візантыю, а затым — у Ноўгарад. З другога — тэорыю Трэцяга Рыму, лакалізаванага ў Маскве. Калі ідэя Трэцяга Рыму апраўдвала дамінаванне маскоўскай Царквы ў праваслаўі, то больш позні вобраз трох дружных сясцёр (Расія, Малая Русь, Беларусь) абгрунтоўваў уключэнне ў склад і падпарадкаванне старэйшай сястры — Маскве. Пад канец XVIII стагоддзя, пасля захопу большасці тэрыторыяў Русі, афіцыйны Санкт-Пецярбург узмацніў рыторыку абаронцы і пратэктара ўсяго славянскага і праваслаўнага свету. Не дзіўна, што выхаваная ў лютэранстве і асвечаная вальтэрыянствам, паўночная Семіраміда з такой зацятасцю пераследавала грэка-каталікоў на землях, якія былі захопленыя падчас падзелаў Рэчы Паспалітай. Уладарам Расіі, як раней, так і сёння, было больш выгадна, каб большасць славянскіх народаў уваходзіла ў абшар праваслаўя і прыслухоўвалася да рэкамен-

дацый Рускай Праваслаўнай Царквы. Гэты аспект духоўнай залежнасці можна прасачыць як у гісторыі, так і ў сённяшняй палітыцы.

Праваслаўе, непасрэдна падпарадкаванае свецкай уладзе з часоў Пятра I, выконвала функцыю абароннага шчыта Расіі перад «чужынскімі ўплывамі» і дапамагала абгрунтоўваць пашырэнне дзяржавы на захад і поўдзень. Наступ у паўднёвым напрамку паказваўся як «вызваленне» праваслаўных з атаманскай няволі. Агрэсія на захад называлася «вяртаннем» праўдзівай праваслаўнай веры беларусам і ўкраінцам. Адрозненне Расіі ад Захаду падкрэслівалася з дапамогай рэлігійна-этычнай тэрміналогіі. Тут была праўдзівая вера і чыстае сэрца, там — сапсаваная суверэнная царква і маральная дэградацыя. Апошнім часам выбар паміж Расіяй і Еўропай стаў асабліва актуальным для ўсіх народаў, вызваленых у 1989 або 1991 годзе ад савецкай імперыі.

Этнічная Польшча, якая ў X стагоддзі прыняла хрысціянства ў рымскім абрадзе, успрымалася як траянскі конь у славянскім моры, як еўрапейская краіна, якая ўводзіла «ворага Расіі» — еўрапейскасць — на землі беларускай і ўкраінскай славяншчыны. Калі глянуць на мапу Еўропы XIX стагоддзя, то можна налічыць як мінімум 20 народнасцяў, якім вялікія дзяржавы наканавалі лёс брэтонцаў. Аднак ужо ў 1918 годзе большасць з іх выбіла сабе незалежнасць. Іншыя далучыліся да іх у 1989–1991 гадах. Але, назіраючы за дзеяннямі Крамля і цэнтралісцкай палітыкай Брусэля, пагроза паўторнай «брэтанізацыі» падаецца дагэтуль актуальнай і на дадзены момант найбольш пагражае Беларусі і Украіне.

Украінцы, абараняючыся, зноў выходзяць на Майдан і стараюцца не дазволіць адасаблення ад Еўропы і ўзмацнення залежнасці ад Расіі. Ці атрымаецца ў іх, пакуль што не вядома, але напэўна варта імі захапляцца. Яны крычаць на Майдане, што з'яўляюцца еўрапейскай краінай і не будуць станавіцца на калені перад Пуціным. Януковіч, аднак, ужо стаіць на каленях, а суседзі ўкраінцаў, напрыклад, Польшча, як быццам няздатныя (з-за страху?) на грузінскі жэст святой памяці Леха Качыньскага. Заўважым, аднак, што з часоў Багдана Хмяльніцкага ўкраінскія падзеі досыць моцна ўплывалі на Беларусь. Ці і гэтым разам так будзе? Хочацца ў гэта верыць, бо кожны масавы грамадзянскі супраціў стрымлівае працэсы брэтанізацыі. Ён страсае маладое пакаленне, ачышчае ад закасцянелага бруду саветызацыі.

Мае беларускія сябры кажуць, зыходзячы са статыстычных дадзеных, што сённяшняя школьная моладзь ужо не залічае да ліку пяці найвялікшых герояў Беларусі імператрыцу Кацярыну, званую Вялікай, Пятра I, Суворава, як гэта было ў 1993 годзе. Гэта, канешне, добрая наві-

на, якая сведчыць пра эфектыўную барацьбу настаўнікаў і прафесійных гісторыкаў за права на ўласную гісторыю. Але ці дае падставы для аптымізму афіцыйная і выкладзеная ў падручніках і медыях ацэнка Другой сусветнай вайны? У якой ступені маладыя беларусы ангажуюцца ў змаганне за ўласную грамадзянскую, а разам з гэтым і суверэнную Беларусь? Можна разгледзець гэтую з'яву праз мікраскапічную прызму Універсітэта ім. Рышарда Лазарскага ў Варшаве.

Вось ужо 7 гадоў там існуе Цэнтр беларускіх даследаванняў і ладзяцца міжнародныя канферэнцыі, якія збіраюць разам прадстаўнікоў апазіцыйнай эліты Беларусі, а таксама беларускіх і замежных гісторыкаў, сацыёлагаў і экспертаў у розных галінах. Ва Універсітэце Лазарскага навучаюцца больш за 200 студэнтаў з Беларусі, але ў ліфтах, на калідорах і ў сталоўках гучыць руская мова. Апрача таго, беларускія студэнты вельмі рэдка цікавяцца Беларускім цэнтрам і нячаста бяруць удзел у яго ініцыятывах, хоць, праўда, апошнім часам сітуацыя паляпшаецца. Найбольш здзіўляе адсутнасць зацікаўленасці ў альтэрнатыве для цяперашняга status quo. Ці прычына гэтаму — не вельмі тыповы для маладых людзей, маладушны эгаістычны прагматызм, ці нейкая духоўная несумяшчальнасць моладзі з прысутнымі на канферэнцыях прадстаўнікамі апазіцыі? Варта таксама паставіць пытанне, чаму ў лепшым выпадку 10% студэнтаў з Беларусі наведваюць і ўдзельнічаюць у працы Беларускага цэнтра. Адначасова трэба заўважыць, што большасць з іх вельмі хутка асвойваюць польскую і англійскую мовы, а найбольш энергічныя пасля атрымання дыплому едуць далей на Захад. Выбар Польшчы як месца атрымання адукацыі сведчыць пра тое, што калі не самі маладыя людзі, то іх бацькі свядома зрабілі стаўку на еўрапейскі выбар, а не на «правільную», дамашнюю, лукашэнкаўскую адукацыю. Калі так, дык адкуль бярэцца моладзевая пасіўнасць? З чым звязана іх нешматлікасць на нашых канферэнцыях? З тым, што так многа часу прысвячаюць вучобе? Ці, можа, таму, што не толькі Лукашэнка, але і апазіцыя не мае для іх ніякай вартай увагі прапановы? Ці канфлікт Лукашэнкі з палітычна разрозненай апазіцыяй успрымаецца толькі як барацьба за ўладу, замену эліты, а не перадача краіны ў рукі самасвядомых грамадзян?

Беларускія сацыёлагі, якія шмат гадоў даследуюць і аналізуюць змены ў поглядах беларускага насельніцтва, маюць розныя меркаванні на гэты конт. Некаторыя адказы можна знайсці ў афіцыйнай прэсе, але большасць з іх з'яўляецца ў недзяржаўных медыях. Трэба звярнуць увагу, галоўным чынам, на наступствы цэнтралізаванага кіравання палітычнымі партыямі для грамадзянскай прасторы праз прызму до-

сведу польскай, чэхаславацкай і венгерскай апазіцыі. Непасрэдна перад падзеннем камунізму паасобныя групы актыўных апазіцыянераў на тэрыторыі Польшчы, Чэхаславакіі і Венгрыі ўзаемадзейнічалі ў рамках агульнанацыянальных грамадзянскіх камітэтаў. Пасля падзення камунізму на месцы камітэтаў з'явіліся партыі, якія ледзь не ваявалі адна з адной і прапаноўвалі розныя палітычныя, грамадскія і культурныя праграмы. Грамадзяне мелі права свабоднага выбару, якое выкарысталі падчас дэмакратычных выбараў. Выбарчая яўка, аднак, вельмі хутка пачала падаць і зараз рэдка ўжо перавышае 60%. Усе партыі пераконвалі ў слушнасці сваіх праграмаў, абяцалі іх рэалізаваць, але ці якая-небудзь з гэтых партыяў дзялілася сваёй уладай з грамадзянамі? Ці якая-небудзь палітычная партыя можа адмовіцца ад цэнтралізаванага кіравання? Ці якая-небудзь партыя ўводзіла на доўгі час прынцып дэмакратычнага выбару партыйных уладаў? І ўрэшце, якая з вялікіх партый увяла прававыя і інстытуцыйна-сістэмныя гарантыі вяршэнства грамадзян над выканаўчай уладай? Амаль усе ліберальна-дэмакратычныя партыі абяцалі ўвесці сапраўднае самакіраванне, а таксама мажарытарныя выбары ў парламент. Але ў Польшчы дагэтуль няма мажарытарных выбараў, а ў прапарцыйных выбарчых акругах людзі галасуюць па спісах, якія складаюцца кіраўніцтвам партыі. Людзі становяцца дэпутатамі толькі па той прычыне, што з'явіліся ў спісе па волі Дональда Туска або Яраслава Качыньскага. Такая ж сітуацыя і ў посткамуністычнай партыі Лешка Мілера. Паўтараецца сітуацыя з апошняга перыяду Рэчы Паспалітай, калі «паводле рэкамендацыі і просьбы да паноў-братоў», скіраванай Радзівілам, Патоцкім ці Сапегам, абіраліся паслы ў Сойм. У тыя часы ў гарадах, мястэчках і паветах дзейнічала мясцовае самакіраванне, прадстаўнікі якога зацята змагаліся за свае правы і прывілеі. Сёння мясцовае кіраванне — кузня грамадзянскага духу і актыўнасці — усё яшчэ вельмі абмежаванае. Чым меншы доступ і ўдзел грамадзян у прыняцці рашэнняў на мясцовым узроўні, тым слабейшы грамадзянскі этас і тым большая верагоднасць пераўтварэння грамадзян у вернападданых і палітычна пасіўных нахлебнікаў.

Вядома, што апазіцыйныя партыі ў Беларусі стараюцца быць як мага бліжэй да сваіх суайчыннікаў і браць удзел у вырашэнні іх штодзённых праблемаў. Ведаю, што яны стараюцца ўдзельнічаць у мясцовых выбарах, але не ведаю, у якой ступені пры фармуляванні сваіх прапаноў яны спасылаюцца на прыклады з беларускай гісторыі. А спасылка на гэтыя ўзоры дазволіла б ясна паказаць, у якой ступені быў парушаны баланс паміж самакіраваннем і цэнтральнай уладай, у якой ступені ў колішняй грамадзянскай прасторы разраслося пустазелле вернападданства.

Беларусь мае багатую і прыгожую традыцыю гарадской і павятовай грамадзянскасці, якая каранямі сягае ў часы Рэчы Паспалітай. Мае таксама слаўныя старонкі барацьбы за адбудову суверэннасці або прынамсі аднаўлення грамадзянскага духу і культуры першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Мае векапомную драматычную гісторыю заходнебеларускай вёскі, якая старалася абараняцца і пераЖЫЦЬ жахлівы час, калі на ўсход маршыраваў нацызм, а на захад — камунізм, знішчаючы яе дашчэнту. У 1991 г. новая суверэнная ўлада не прысвяціла «калхознаму» вясковаму насельніцтву належнай увагі. Такім чынам, вёска засталася па-за абшарам дэмакратычных пераТварэнняў. Такі падыход у Польшчы прывёў да з'яўлення на палітычнай сцэне А. Лепера, а ў Беларусі — спрасціў палітычную кар'еру Лукашэнку.

Усе палітычныя партыі заўсёды заяўлялі, што маюць адзіна правільныя праграмы і заклікалі электарат іх падтрымаць. Але мы, звычайныя людзі, рэдка атаясамліваем нашы погляды з ідэямі, сфармуляванымі ў іх праграмах. Часам, магчыма, хацелася б размеркаваць нашу падтрымку: тут — 65 %, там — 25 %, яшчэ дзе — 10 %. Нават у ЗША, якія ад пачатку XX стагоддзя знаходзяцца пад уладай адной з дзвюх партыяў («рэспубліканцаў» або «дэмакратаў»), стоадсоткавая падтрымка для адной партыі — рэдкасць. Бывае, што людзі, якія звычайна галасуюць за дэмакратаў, падчас прэзідэнцкіх выбараў аддаюць голас за кандыдата-рэспубліканца. Такая зменлівасць назіраецца і ў выпадку губернатарскіх выбараў. Шматпартыйныя палітычныя арганізацыі прадстаўляюць непараўнальна больш дыферэнцаваныя і дэталізаваныя праграмы, але выбарцы рэдка схільныя на 100 % падтрымаць тыя ці іншыя прапановы. Мяркуючы, аднак, з майго досведу жыцця ў ЗША, ніводны грамадзянін так хутка не адмовіцца ад удзелу ў выбарах мэра, шэрыфа або, што вельмі важна для многіх бацькоў, павятовага ці гарадскога шэфа адукацыі. Змаганне за сапраўднае самакіраванне магло б стаць асноўным лозунгам усіх партыяў, якія сапраўды з'яўляюцца дэмакратычнымі. Мясцовыя органы кіравання ў Чэхіі, Славакіі і Венгрыі вядуць барацьбу з кожным урадам за пашырэнне іх рэальных правоў. Яны ўсё яшчэ маюць менш улады і грамадзянскай вагі, чым іх адпаведнікі ў Швейцарыі, Англіі ці ЗША. Адначасова гэта кузня грамадзянскага духу і грамадзянскага modus operandi. Не забывайма, што грамадзяне нараджаюцца ў змаганні за свае штодзённыя фундаментальныя правы і правы сваіх дзяцей, за магчымасць прымаць рашэнні, якія тычацца вуліцы, квартала, вёскі або мястэчка. Памятаючы пра гэта, мы маем шанец скараціць дыстанцыю паміж дэмакратычнай апазіцыяй і экскалгаснікамі, паміж грамадскімі дзеячамі і «студэнтамі Лазарскага».

# Рэлігійная талерантнасць на польска-беларускім памежжы

**Антон МІРАНОВІЧ,** Беластоцкі ўніверсітэт

Рэлігійная талерантнасць у Рэчы Паспалітай належала да нашмат шырэйшай праблематыкі, чым суіснаванне розных рэлігій. Свабоднае публічнае выкананне культу і прапаганда сваёй веры паўплывалі на іншыя сферы грамадскага і прыватнага жыцця. Рэлігійная талерантнасць давала падставы да адкрытасці польскага і рускага грамадстваў на замежныя навінкі. На ўсходнія землі гэтыя інавацыі прыходзілі з захаду, усходу і поўдня. Нельга забыцца пра істотную ролю візантыйскай і іншых усходніх культураў, шырока ўспрынятых сармацкай культурай. Разам з рэлігійнай адкрытасцю змяняліся звычаі і культура грамадства на культурным пагранiччы. Гэта відаць у літаратуры, мастацтве, палітычных паводзінах, ментальнасці новых пакаленняў.

## 1.

Праваслаўная і часткова ўніяцкая супольнасці сталі спадкаемцамі візантыйскай цывілізацыі, узбагачаючы культурную і духоўную спадчыну ўсёй Рэчы Паспалітай. Вялікія заслугі перад польскай дзяржавай і ўсталяваннем рэлігійнай талерантнасці маюць праваслаўныя роды: Бучацкіх, Хадкевічаў, Чартарыйскіх, Сангушкаў, Сапегаў, Сямашкаў, Слуцкіх, Саламярэцкіх, Тышкевічаў, Масальскіх, Алелькавічаў, Пацаў, Пузыняў, Вішнявецкіх, Заслаўскіх,

Збаражскіх і многіх іншых. Гэта па іх ініцыятыве Швайпольт Фіёль стварыў у 1491 г. у Кракаве кірылічную друкарню для патрэбаў праваслаўнай царквы. Ягоныя творы можна было спаткаць у рэзідэнцыі прадстаўнікоў беларускай магнатэрыі Сапегаў у Боцьках і Кодне. Справу Фіёля працягнуў ураджэнец Полацка беларускі гуманіст Францішак Скарына, які ў 1517–1519 гг. выдаў у Празе першую Біблію на старабеларускай мове. Апека выбітнага праваслаўнага магната Рыгора Хадкевіча дапамагла стварыць у яго сямейнай рэзідэнцыі ў Заблудаве рускую друкарню. Два друкары Пётр Мсціславец і Іван Фёдараў выдалі ў 1569 г. «Евангелле Вучыцельнае» — зборнік дапаможных рэлігійных навук для пазнавання біблейскіх тэкстаў. Заблудаўскае евангелле — адпаведнік каталіцкіх і пратэстанцкіх Postyli — выйшла праз 12 гадоў пасля Postyli Мікалая Рэя (1505–1569) і на чатыры гады раней за Postyli Якуба Вуйка (1541–1597)[1]. Найлепшым паказчыкам ролі Праваслаўнай царквы ў грамадстве Рэчы Паспалітай з’яўляецца факт распаўсюджання пісьменніцтва сярод вызнаўцаў «грэцкай веры». Пісьменнасць была амаль паўсюднай сярод рускіх магнатаў, баяраў і месцічаў[2]. Найвялікшыя дасягненні юрыдычнай думкі змешчаныя ў дасканала распрацаваных і выдрукаваных Літоўскіх статутах (1529, 1566, 1588). Гэты кадыфікаваны збор звычаёвага права ўтрымлівае шмат элементаў царкоўнага правазнаўства. Статуты былі вынікам распаўсюджання сярод русінаў рэнесанснай ідэалогіі. Названыя культурныя дасягненні былі магчымыя толькі дзякуючы праваслаўнай царкве. Пад яе ўплывам развівалася сакральная архітэктура, іканапіс, песнапенні і пісьменніцтва. Ролю рускіх хронік і летапісаў зразумеў Мацей Стрыйкоўскі, напісаўшы ў «Хроніцы польскай»: «*Таму, брат ліцвін, не забывай таксама русі, бо не менш слаўныя, кожны мусіць прызнаць, без іх ты парадку сваіх спраў не можаш ведаць, бо рускія ў сваіх дзяржавах здаўна прывыклі сядзець, маюць старэйшыя дасведчанні: Літва ж з іх расла*»[3].

1 Mironowicz A., *Powstanie zabłudowskiej oficyny wydawniczej na tle sytuacji wyznaniowej w Wielkim Księstwie Litewskim,* «Acta Baltico-Slavica», t. XIX, Warszawa 1990, s. 245–264; Jaroszewicz-Pieresławcew Z., Druki cyrylickie z oficyn Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI-XVIII wieku, Olsztyn 2003, s. 17–46.

2 Kłoczowski J., *Cywilizacja bizantyjsko-słowiańska* // Chrześcijaństwo na Rusi Kijowskiej, Białorusi, Ukrainy i Rosji (X–XVII w), Kraków 1997, s. 95.

3 Stryjkowski M., *Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi Kijowskiej, Moskiewskiej, Siewierskiej, Wołyńskiej i Podolskiej...,* t. I, Warszawa 1846, s. 219.

**2.**

Стан згоднага поліканфесійнага і шматкультурнага сужыцця быў парушаны Берасцейскай уніяй (1596 г.). Яна закранула галоўны падмурак рускай культуры — духоўную еднасць з Візантыяй. Да існуючага каталіцка-праваслаўнага ўкладу далучыўся яшчэ адзін апасродкаваны элемент, падвешаны паміж дзвюма традыцыямі. Ініцыятары ўніі памылкова лічылі, што яе прывабнасць выкліча адыход русінаў ад праваслаўя. Аднак гэтая тэндэнцыя не прывяла да ўпадку праваслаўнай культуры, наадварот, падштурхнула яе да развіцця ў новых формах, больш дапасаваных да рэалій XVII ст.

Берасцейская ўнія была скіравана не супраць праваслаўя ўвогуле, а супраць праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. Яна прынесла невялікія выгоды Каталіцкаму касцёлу, але не вырашыла ніводнай унутранай праблемы краіны. У Польшчы павялічылася дыстанцыя каталіцкіх элітаў да рускай культуры і праваслаўя. Для католікаў быў бліжэйшым пратэстант, выхаваны ў заходняй культуры, чым русін, верны візантыйскім традыцыям, але ўсё больш звязаны з польскай культурай[4]. Гэтая акалічнасць для праваслаўнай супольнасці мела і станоўчыя наступствы. Праваслаўныя эліты праходзілі эвалюцыю ў сваіх культурных установах. Націск уніятаў і рыма-каталікоў спарадзіў мабілізацыю царкоўных асяродкаў. Працы Станіслава Хозія, Бенядзікта Хэрбста, Пятра Скаргі ці Іпація Пацея выклікалі дыскусію на тэмы догмаў, права і абраднасці. Палеміка з уніятамі дапамагла праваслаўным выпрацаваць выразны выклад сваёй рэлігійнай дактрыны і крышталізаваць сваю культурную тоеснасць. Уніяцкі варыянт рускай культуры паўплываў на фармаванне абарончых механізмаў праваслаўнай культуры Рэчы Паспалітай. Культура і асвета праваслаўя, з аднаго боку, сталі больш ангажаваныя ў рэлігійную палеміку, з другога — усё часцей звярталіся да лацінскіх узораў.

Развіццё праваслаўнай асветы і культуры ажывілася, калі мітрапалітам стаў Пётр Магіла. Цікава, што гэтае ажыўленне наступіла, калі галоўнае месца ў кіеўскай мітраполіі заняў не русін, а прадстаўнік паланізаванага малдаўскага роду. Па ініцыятыве мітрапаліта Магілы паўстала слынная Кіева-Магілянская акадэмія — перадавая школа на ўзор езуіцкіх калегіяў. Дзеянні Магілы выклікалі абурэнне праваслаўнага духавенства, якое не хацела прымаць лацінскія ўзоры. Вакол Пятра Магілы ўзнікла г.

4 Naumow A., *Wiara i historia,* Krakyw 1996, s. 30.

зв. «Магілянская акадэмія», якая згуртавала выбітных гуманістаў[5]. Варта падкрэсліць, што праваслаўныя іерархі былі моцна звязаныя з польскай культурай па прычыне атрыманай адукацыі. Дзейнасць мітрапаліта Пятра Магілы і яго наступнікаў пацвярджаюць функцыянаванне на землях Рэчы Паспалітай асобнай праваслаўнай культуры, якая фармавалася ў сітуацыі пагрозы існаванню рускай царквы. Новыя ўмовы прывялі да разрыву з поствізантыйскім і маскоўскім ізаляцыянізмам і адкрылі рускую супольнасць да засваення дасягненняў заходняй культуры. У выніку абарона праваслаўя праходзіла праз выкарыстанне элементаў лацінскай культуры, але заўсёды з захаваннем уласнай рэлігійнай традыцыі. Уключэнне лацінскай мовы і звычаяў у праваслаўную культуру было формай абароны перад выцясненнем яе на ўзбярэжжа культурнага і палітычнага жыцця. Рэформы Пятра Магілы дадалі дынамікі духоўнаму жыццю і значна ўзбагацілі праваслаўную культуру ў другой палове XVII ст.

## 3.

Рэч Паспалітая была стабільнай краінай, калі ў ёй існавала адносная рэлігійная талерантнасць, а русіны, літвіны, жамойты і палякі мелі роўныя правы. Тады Рэч Паспалітая была моцнай еўрапейскай дзяржавай. Адыход ад гэтай традыцыі, сфармаванай у сістэме шляхецкай дэмакратыі, а асабліва ад прынцыпу роўнасці шляхецкага народу без розніцы веравызнання, мусіў давесці да ўнутраных падзелаў і падзення дзяржавы. Вельмі характэрны лёс запарожскіх казакоў, якія былі верныя Рэчы Паспалітай да часу, пакуль не ўсвядомілі, што не ўдасца пагадзіць між сабой праваслаўе і польскую ўсходнюю палітыку. У выніку яны сталі падданымі маскоўскіх уладароў. Казакі пільнавалі паўднёва-ўсходнія межы дзяржавы. Большую частку войска, якое бараніла Хоцімскі замак у 1621 г., складалі казакі на чале з гетманам Пятром Канашэвічам Сагайдачным. Рэч Паспалітая замест павелічэння колькасці рэестравых казакоў і вяртання прывілеяў праваслаўнай царквы прыступіла да ліквідацыі казацкіх правоў. Палітыка Жыгімонта III Вазы ў выніку прывяла да таго, што казакі сталі абаронцамі праваслаўя. Каралеўская ўлада, якая ўсё больш паддавалася ўплывам

5 Chynczewska-Hennel T., *Akademia Kijowsko-Mohylańska* // Szkolnictwo prawosławne w Rzeczypospolitej, Białystok 2002, s. 40–54; Jabłonowski A., *Akademia Kijowsko-Mohylańska. Zarys historyczny na tle rozwoju ogólnego cywilizacji zachodniej na Rusi,* Kraków 1899–1900; Łużny R., *Pisarze kręgu Akademii Kijowsko-Mohylańskiej a literatura polska. Z dziejów kulturalnych polsko-wschodniosłowiańskich w XVII–XVIII wieku,* Kraków 1966; Kłoczowski J., Młodsza Europa, Warszawa 1998, s. 337–338; Mironowicz A., *Prawosławne szkolnictwo teologiczne na terenie Rzeczypospolitej* // Od Kijowa do Rzymu. Z dziejów stosunków Rzeczypospolitej ze Stolicą Apostolską i Ukrainą, Białystok 2012, s. 863–880.

папскіх нунцыяў, згубіла перакананне ў тым, што гарантыя правоў праваслаўных — гэта рацыя стану і стратэгічны інтарэс дзяржавы. Разуменне гэтай акалічнасці Уладзіславам IV прывяло да аднаўлення афіцыйных структураў праваслаўнай царквы. На жаль, гэтая палітыка скончылася разам са смерцю караля, а паўстанне Багдана Хмяльніцкага на першы план вывела праблему раўнапраўнасці праваслаўнай царквы. Гэтая праблема стала ўжо не толькі ўнутранай справай Рэчы Паспалітай. У абарону правоў іншаверцаў выступіла не толькі Расія, але і Швецыя, і Сяміграддзе, і нават Англія. Нічога дзіўнага, што ашуканыя нявыкананымі абяцаннямі Рэчы Паспалітай казакі перайшлі ў 1654 г. пад пратэктарат Масквы. Для Польшчы гэта азначала не толькі вайну з усходнім суседам, але і паглыбленне палітычных падзелаў сярод праваслаўнага насельніцтва.

Апошнім шанцам спынення сепаратысцкіх тэндэнцый сярод вернікаў праваслаўнай царквы была Гадзяцкая дамова. Паразуменне з Рэччу Паспалітай, выпрацаванае ў 1658 г. казацкім гетманам Іванам Выгоўскім і рускім магнатам Юрым Нямірычам, прадугледжвала стварэнне трэцяга элементу дзяржавы — Русі, а таксама выключнае прызначэнне праваслаўных на пасады ў Кіеўскім, Браслаўскім і Падольскім ваяводствах, а таксама ўваход уладыкаў у сенат. Пад ціскам папскіх нунцыяў і ўніятаў Гадзяцкая дамова не была ў поўным аб'ёме ратыфікаваная сеймам. Не быў зацверджаны пункт па ліквідацыі царкоўнай уніі — «*крыніцы нязгоды паміж грэкамі і лаціннікамі*». Такім чынам, быў страчаны шанец інтэграцыі праваслаўнага насельніцтва ў Рэчы Паспалітай[6].

Талерантная грамадская мадэль на ўсходніх землях, якая фармавалася стагоддзямі, была парушаная ў эпоху контррэфармацыі, войнаў, якія Рэч Паспалітая вяла з праваслаўнай Масквой, магаметанскай Турцыяй, пратэстанцкай Швецыяй ці шматканфесійным Сяміграддзем. Тады сфармаваўся стэрэатып паляка-каталіка і міф пра «падмурак хрысціянства»[7]. На шчасце, гэтыя негатыўныя тэндэнцыі зніклі ў эпоху Асветніцтва. Рэч Паспалітая ў гэтую эпоху была, як у даўнейшыя часы, поліканфесійнай дзяржавай. Шматэтнічная і поліканфесійная структура выступала галоўным чынам ва ўсходніх ваяводствах. Калі ў 1789 г. ва ўжо акроенай першым падзелам Рэчы Паспалітай жыло 53% рыма-каталікоў, 30% грэка-каталікоў, 10,5% іудзеяў, 3,5% праваслаўных і 1,5% евангелікаў,

6 Mironowicz A., *Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza,* s. 149–189; tenże, Projekty unijne wobec Cerkwi prawosławnej w dobie ugody hadziackiej // Unia brzeska z perspektywy czterech stuleci, Lublin 1998, s. 95–122; tenże, Piotr Mohyła a idea unii kościelnej, «Studia Podlaskie», t. XI, Białystok 2001, s. 25–33.

7 Tazbir J., *Polskie przedmurze chrześcijańskiej Europy. Mity a rzeczywistość historyczna,* Warszawa 1987.

то ва ўсходніх ваяводствах дамінавалі ўніяты і праваслаўныя. На той жа тэрыторыі найбольш было іншых, пераважна невялікіх, рэлігійных супольнасцяў: караімаў, мусульман і вернікаў армянскай царквы[8].

У часы чатырохгадовага сейму была зроблена спроба ўнармавання прававой сітуацыі ўніятаў, праваслаўных, пратэстантаў і іудзеяў. Упершыню ўніяцкі мітрапаліт атрымаў месца ў Сенаце, а габрэі трапілі пад абарону права. 21 траўня 1792 г. сейм прыняў канстытуцыю, у якой пацвярджаліся пастановы Пінскай кангрэгацыі з 1791 г. Праваслаўная царква атрымала адпаведны праўны статус і незалежную арганізацыйную структуру. Праваслаўныя набылі роўныя правы з іншымі грамадзянамі Рэчы Паспалітай. Гэта было вынікам разумення таго факту, што занадта моцная фаварызацыя каталіцкага веравызнання прывяла да неталерантных дзеянняў адносна пратэстантаў, праваслаўных і вернікаў нехрысціянскіх канфесій.

Варта прывесці ацэнкі пастаноў Пінскай кангрэгацыі з 1791 г., якія рэгулявалі статус праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. Прыхільнікі рэформаў у духу канстытуцыі 3 траўня прызналі яе *«вельмі рацыянальнай і ні ў нічым, ані пануючай рэлігіі, ані законам краіны не супярэчнай»*. «Нацыянальная і замежная газета» пісала:

«*Калі б Рэч Паспалітая даўней гэтаксама з тым людам чыніла, калі б замест праследу і ўціску той люд знаходзіў ва ўрадзе апеку сваёй уласнасці і абрадаў, то поўныя нівы Украіны і Падолля не былі б так палітыя нашай кроўю, ані чужая інтрыга не знайшла б так лёгкага доступу да сэрцаў прывязаных да сваёй айчыны і ў ёй шчаслівых*»[9].

Пры нагодзе ацэнкі пінскіх рашэнняў частка публіцыстаў пацвярджала з дапамогай гістарычных прыкладаў, што ўсе паразы, якія перажыла Рэч Паспалітая, выклікаными рэлігійнай нецярпімасцю і былі карай за праслед *неўніятаў і дысідэнтаў*. Змена палітыкі Рэчы Паспалітай адносна іншаверцаў была вынікам тагачаснай міжнароднай сітуацыі і спробай выпраўлення дзяржаўнага ладу. Тады быў усвядомлены поліканфесійны і шматнацыянальны характар Рэчы Паспалітай, для якой фаварызацыя адной пануючай рэлігіі мела згубныя наступствы. Аднак высновы з той палітыкі былі зробленыя занадта позна, каб яны прынеслі адчувальныя вынікі[10].

8 Litak S., *Od Reformacji do Oświecenia. Kościół katolicki w Polsce nowożytnej,* Lublin 1994, s. 133–134.

9 «Gazeta Narodowa i Obca», z dnia 16 lipca 1791 r.

10 Sakowicz E., *Kościół prawosławny w Polsce w epoce Sejmu Wielkiego 1788–1792,* Warszawa 1935; Deruga A., *Walka z rusyfikacją Kościoła prawosławnego w Polsce w epoce Sejmu Wielkiego (1788–1792),* «Ateneum Wileńskie», t. XI, 1936, s. 2–32; Mironowicz A., *Cerkiew prawosławna na terenie Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1772–1795 // Ziemie Północne Rzeczypospolitej Polsko-Litewskiej w dobie rozbiorowej 1772–1815,* Warszawa-Toruń 1996, s. 81–94; tenże, Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej, s. 255–267.

**4.**

Спецыфічная рэлігійная талерантнасць, што ўсталёўвалася стагоддзямі ва ўсходніх ваяводствах Рэчы Паспалітай, паўплывала на паводзіны тамтэйшых насельнікаў у XIX і XX ст. Прынятая там мадэль суіснавання іншаверцаў, часта парушаная знешнімі ўплывамі з Варшавы ці Пецярбурга, дазволіла мясцоваму грамадству перажыць самыя цяжкія гістарычныя моманты. Сімбіёз культураў і вераў фармаваў аблічча памежнага грамадства. З аднаго боку, яно было настроена патрыятычна, але адначасова акумулявала культурныя элементы іншых народаў.

Нямецкі гісторык прафесар Ян Родэ звяртаў увагу на ўплыў рэлігійнай талерантнасці на паводзіны насельніцтва даўніх усходніх крэсаў у часы Паўстання 1864 г.: «*У Еўропе не было краінаў, якія ў XVI і першай палове XVII ст. практыкавалі такую талерантнасць у рэлігійных і этнічна-нацыянальных справах, як Польска-Літоўская Унія. Яна прызнавала афіцыйнымі шэсць моваў, а чатыры веравызнанні давалі прыклад амаль ідэальнага суіснавання з іудзействам і ісламам, пакуль контррэфармацыя не распачала барацьбу з пратэстантызмам і праваслаўем. Памяць пра тое мірнае суіснаванне была жывая яшчэ ў часы расейскага панавання ў XIX ст.*»[11]. Напэўна, па гэтай прычыне польскія незалежніцкія паўстанні былі падтрыманыя мясцовым насельніцтвам на беларускіх і літоўскіх землях.

Паводле многіх даследчыкаў культурнага памежжа, вялікасць Адама Міцкевіча, Марка Шагала, Станіслава Манюшкі або Тадэвуша Касцюшкі вырасла са спецыфічнай рэлігійна-нацыянальнай талерантнасці на даўніх усходніх крэсах. Для тых вялікіх постацяў крэсы заставаліся малой айчынай, творчым натхненнем, сэнсам палітычнай барацьбы. Тут варта ўспомніць словы эміграніцкага міцкевічазнаўцы Сымона Брагі, які ў 1955 г. напісаў: *«Беларускія элементы ў творчасці Міцкевіча — то не толькі нейкая павярхоўная афарбоўка. Гэта тое, што арганічна з ёй зраслося і ад яе неадлучнае, нешта тое, што знаходзіцца ў самых яе каранях. Гаворка тут пра самы натуральны факт для таго, хто, як Міцкевіч, нарадзіўся і вырас у Беларусі пад непасрэдным уплывам таго, што складалася на побыт і культуру тамтэйшага сялянства і дробнай шляхты».* І далей: *«(…) то не край Віслы і Варты, а Нёмана і*

11 Cyt. za Okulicz K., *Białorusini, Litwini i Polacy w powstaniu styczniowym na Litwie Historycznej,* «Zeszyty Historyczne» t. VII, Paryż 1964, s. 19.

*Вільны аказаўся прыроднай невычарпальнай крыніцай міцкевічаўскага паэтычнага таленту і натхнення»*[12].

Найбольш выразна сваю прывязанасць да талерантнасці і крэсаў Адам Міцкевіч выказаў не толькі як паэт. Адной з найцікавейшых ідэяў ягонага выкладання на кафедры College de France было паказанне драматычнага працэсу выцяснення з усходніх земляў беларушчыны польскай мовай.

*«Доля пальшчызны да XVI ст.* — заўважыў Міцкевіч, — *была вельмі смутнай і як далёка ў тыле яна заставалася за рушчызнай, якая была мовай двара і войска, мова, на якой пісаліся законы і ствараліся статуты! Калі яна ўжо пасунулася наперад у сваім развіцці, польскі дыялект, хоць шырока раскінуты аж да Сілезіі, не меў афіцыйнага і праўнага быту: касцёл яго адпіхнуў, не быў дапушчаны да правадаўства. Здараліся напісаныя па-польску статуты і правінцыйныя прывілеі, але ўвогуле кананічныя і дзяржаўныя правы пісаліся на латыні». «Неўзабаве ролі памяняліся: што за сіла,* — пытаўся Міцкевіч, — *страсянула польскую народнасць і папіхнула яе на рускія землі, выцясняючы рускую народнасць і мову аж за Днепр?»* І адказвае: *«Гэтая сіла не вырасла на польскай глебе, яна выплывала здалёк, была вынікам збегу выпадкаў, якія не мелі відочнай сувязі з гісторыяй Польшчы: то касцёл узяў на сябе справу шырокага распаўсюджвання польскай мовы, якую да гэтага сам доўгі час прыціскаў»*[13].

Ускраінная талерантнасць сфармавала шмат палітыкаў. Юзаф Пілсудскі, звяртаючыся да беларусаў у Мінску 19 верасня 1919 г., падкрэсліў, што ён — *«сын гэтай зямлі, таксама як тыя, хто тут сабраўся, таму можа лепей зразумець і адчуць усе беды і няшчасці, якія былі яе ўдзелам»*[14]. Улюбёны ў крэсы, больш сучасны нам пісьменнік Тадэвуш Канвіцкі з сантыментам пісаў пра Беларусь: «*Ты павінна называцца Дабрарусь, павінна называцца Добрай зямлёй Добрых Людзей. (…) Не адабрала другім свабоды, не рабавала чужую зямлю, не забівала з-за суседскай мяжы. Мела для чужых павагу і гасцінны абаранак, мела для рабаўнікоў астатнюю карову і астатні акрайчык сытнага хлеба са знакам крыжа, мела для няшчасных шчымлівае сэрца і нязбэшчанае*

---

12 Mickiewicz A., *Dzieła,* t. IX, Warszawa 1955; Braga S., Mickiewicz i biełaruskaja płyń polskaje literatury // Z historyjaj na «wy». Artykuły, dakumenty, uspaminy, Mińsk 1994, s. 293–294; Mironowicz A., Andrzej Kempfi w kręgu Mickiewiczowskich alborutheników // Wilno i Ziemia Mickiewiczowskiej Pamięci. Materiały III Międzynarodowej Konferencji w Białymstoku, t. I., W kręgu spraw historycznych, Białystok 2000, s. 377–385.

13 Mickiewicz A., *Dzieła,* t. IX, Warszawa 1955.

14 Brandys M., *Strażnik Królewskiego Grobu,* Warszawa 1984, s. 5.

*жыццё ў падарунак. (…) Калі прыпомню беларускае слова, калі павее ветрык з паўночнага ўсходу, калі ўбачу палатняную кашулю з сумотнай вышыванкай, калі пачую крык болю без скаргі, заўсёды жывей заб'ецца сэрца, заўсёды аднекуль выскачыць салодкая туга, заўсёды павее раптоўным халадком неакрэсленых згрызотаў сумлення, адчуванне віны і сораму*»[15].

Спецыфіку талерантнасці на польска-беларускім памежжы фармавала не элітарная польская культура, а беларуская народная традыцыя, значна больш адкрытая, чым культура заходніх славян. Гэтай культуры, акрамя адкрытасці, заўсёды была ўласцівая схільнасць засвойваць знешнія ўплывы: візантыйскія, арыентальныя, лацінскія. Культура на польска-беларускім памежжы, якая вырасла з традыцыі даўняй Рэчы Паспалітай, мела багатае эстэтычнае жыццё і была ў прынцыпе больш талерантнай. Спецыфіка рэлігійнай талерантнасці на тых абшарах палягала ў прыняцці іншаверцаў і павагі да іх культурных традыцый. Эліты беларускага грамадства, паддаючыся паланізацыі, давалі імпульс іншым грамадскім групам да талерантнасці адносна розных вераў і культураў. Нянавісць да габрэяў ці палякаў, выразна бачная ў часы паўстанняў, мела хутчэй падтэкст палітычны, чым рэлігійны. Дэстабілізацыя традыцыйнай талерантнасці заўсёды наступала пад уплывам знешніх чыннікаў.

Беларускія палітычныя эліты слаба выражалі свае імкненні да нацыянальнай незалежнасці. Грамадства польска-беларускага памежжа ў XIX ст. больш захоўвала архаічныя традыцыі, чым дэкларавала ідэю ўтварэння незалежнай дзяржавы. На думку жыхароў памежжа, нацыянальныя ідэалогіі парушалі гістарычную традыцыю і былі трактаваныя як чужародны элемент, які нішчыць ранейшыя грамадскія ўклады.

У такім разнародным этнічным арэале цяжка было зашчапіць нацыянальныя пастулаты, тоесныя з адной дамінуючай царквой. Нават сярод адной этнічнай групы выбар веры і нацыі часта быў розны. Род Шаптыцкіх, заслужаны для польскай і ўкраінскай нацыянальнай ідэі, — найлепшы таму прыклад. Гэтак было з прадстаўнікамі роду Іваноўскіх, якія адыгралі істотную ролю ў беларускім, літоўскім і польскім нацыянальных рухах.

15 Konwicki T., Kalendarz i klepsydra, Warszawa 1977, s. 115.

Вельмі драматычным бываў палітычны выбар эліты тагачаснага крэсовага грамадства. Яе прадстаўнік — Браніслаў Тарашкевіч, выхаваны ў полікультурным асяроддзі, аўтар першай беларускай граматыкі, перакладчык на беларускую мову міцкевічаўскага *«Пана Тадэвуша»,* сябра беларускіх і польскіх нацыянальных арганізацый, дэпутат польскага сейму, вязень у Польшчы за беларускі нацыяналізм, быў забіты ў Савецкім Саюзе па той самай прычыне[16]. Такія ўнутраныя падзелы ў міжваенны перыяд прывялі да таго, што частка крэсовай інтэлігенцыі аддала перавагу грамадзянству Вялікага Княства Літоўскага, а не якойнебудзь нацыянальнай ідэі[17].

* * *

Суіснаванне многіх народнасцяў і польска-беларускіх рэлігій прывяло да выпрацоўкі спецыфічнай культурнай традыцыі, сфармаванай пад уплывам дзвюх буйных цывілізацый: усходняй (візантыйска-рускай) і заходняй (лацінскай). Абшары польска-беларускага пагранічча для многіх народаў былі месцам кшталтавання іх культурнай тоеснасці, а талерантнасць была адным з яе асноўных элементаў. Культура, сфармаваная пад уплывам рэлігійных і нацыянальных адрозненняў, укаранілася ва ўсіх формах побыту мясцовага насельніцтва і паўплывала на культурнае аблічча сучасных жыхароў Беласточчыны, Гродзеншчыны ці Віленшчыны. Падобныя адносіны да рэлігійных правоў, з характэрнай адкрытасцю і талерантнасцю, паўплывалі на захаванне сучасных беларусаў і палякаў па абодвух баках дзяржаўнай мяжы. Адсутнасць выразных рэлігійных канфліктаў, як тое здараецца ў іншых рэгіёнах Цэнтральна-Усходняй Еўропы, не толькі ўтварае спецыфіку польска-беларускага памежжа, але падае добры прыклад жывой традыцыі даўняй Рэчы Паспалітай — айчыны многіх народаў і веравызнанняў[18].

16 Bergman A., Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej, Warszawa 1984, s. 142–165.
17 Mironowicz A., *Specyfika tolerancji wyznaniowej na kresach wschodnich Rzeczypospolitej* // Pogranicza etniczne w Europie. Harmonia i konflikty, Białystok 2001, s. 163–173.
18 *Obraz wielowyznaniowej Rzeczypospolitej ostatnio przedstawił Andrzej Sulima Kamiński w pracy Historia Rzeczypospolitej Wielu Narodów 1505–1795,* Lublin 2000.

# Бунты ў імя свабоды: змаганне жыхароў беларускіх мястэчак за страчаную свабоду і зямлю ў XVIII–XIX стст.

**Іна СОРКІНА,** Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы

Пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі і скасавання магдэбургскага права жыхары мястэчак, якія раней знаходзіліся на становішчы «местаў», а ў Расіі не атрымалі гарадскіх правоў, страцілі статус мяшчан і былі пераведзеныя ў катэгорыю прыгонных сялян — памешчыцкіх, калі мястэчка было прыватнаўласніцкім, і дзяржаўных, калі траплялі ў скарб. Гэта выклікала працяглую барацьбу местачкоўцаў за вяртанне ім ранейшых правоў, пад якімі разумелася права асабістай свабоды (вызваленне ад прыгоннай залежнасці і вяртанне мяшчанскага статусу) і права на зямлю (у часы Вялікага Княства Літоўскага мястэчкі атрымалі ад дзяржавы пэўную колькасць зямлі, якую мяшчане лічылі сваёй уласнасцю). Агульнай асаблівасцю гэтага руху былі спасылкі жыхароў мястэчак у прашэннях у розныя інстанцыі на прывілеі манархаў Рэчы Паспалітай з поўнай упэўненасцю ў юрыдычнай сіле дадзеных крыніц права.

Пра некаторыя прыклады гэтага пісалі ў сваіх даследаваннях Мікола Улашчык[1], Віталь Карнялюк[2], Сяргей Токць[3]. У дадзеным артыкуле

1 Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. — Минск, 1965.
2 Карнялюк, В. З гісторыі барацьбы жыхароў мястэчка Крынкі за свае правы ў першай палове XIX ст. // «Герольд Litherland» — Гродна, 2004. — № 1–2 (13–14). — С. 29–34.
3 Токць, С. Скідзель у складзе Расійскай імперыі (1795 –1915). // Скідзель. 500 год гісторыі — Гродна, 2008. — С. 39–40.

падаюцца новыя матэрыялы па гэтай праблеме, выяўленыя ў архівах Беларусі, Польшчы, Літвы, Расіі і Украіны.

## ЛАКАЛІЗАЦЫЯ, ФОРМЫ І ВЫНІКІ ЗМАГАННЯ

Барацьба былых мяшчан за волю і зямлю ў канцы XVIII–XIX стст. была досыць пашыранай з'явай. Змаганне пачалося на рубяжы XVIII–XIX стст. (Гарадзец[4] і Янішкі[5] Віленскай губерні; Маркава, Мядзель, Гайна, Перабраддзе, Парэчча, Гародна, Лагішын, Пагост, Парычы Мінскай губерні[6]). Так, жыхары м. Гайна ў 1793 г. звярнуліся да мінскага губернатара з просьбаю вызваліць іх ад паншчыны і іншых работ на карысць уладальніка, паколькі іх мястэчка «каралеўскае» і заселена вольнымі людзьмі. Губернатар распарадзіўся адмяніць адпрацовачныя павіннасці і пакінуць толькі чынш[7].

Прывілеі аб гарадскіх правах прадставілі на разгляд новых уладаў мяшчане Лагішына, Гарадной, Пагоста і Нобеля[8]. Пэўных змен на сваю карысць дамагліся жыхары м. Гарадная: у 1803 г. рашэннем Пінскага суда яны былі пераведзеныя ў разрад дзяржаўных сялян[9]. Жыхары м. Лагішын пачалі барацьбу за свае правы ў 1794 г.[10] Указам Сената яны ў 1808 г. былі вызвалены ад улады памешчыка і пакінутыя ў мяшчанскім званні[11]. Суседнія памешчыкі спрабавалі адсудзіць землі лагішынскіх мяшчан, але Сенат у 1828 г. зноў захаваў за імі іх правы.

Гісторыя барацьбы жыхароў Лагішына за зямлю і мяшчанскі статус мела працяг і ў парэформенны перыяд. У 1870 г. улады перавялі лагішынцаў у дзяржаўныя сяляне, канфіскаваўшы 2133 дзесяцін зямлі, якія на льготных умовах набыў мінскі губернатар Уладзімір Токараў за «бездакорную службу», у прыватнасці за поспехі ў «абрусенні» Мінскай губерні. Пратэст жыхароў мястэчка ўвайшоў у гісторыю як Лагішынскае выступленне мяшчан 1874 г., яно з'яўлялася адным з найбуйнейшых у Беларусі другой паловы XIX ст. А жорсткая расправа над жыхарамі

4 Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas (LVIA) — Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 378, агульны аддзел, 1802 г., адз. зах. 2, арк. 4.
5 Biblioteka Jagiellońska, Dział Rękopisów — Ягелонская бібліятэка, аддзел рукапісаў, адз. зах. 6322, арк. 84–87.
6 Российский государственный архив древних актов (РГАДА) — Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 16, воп. 1, адз. зах. 758, арк. 507 адв., 513 адв., 516 адв., 522 адв., 531 адв.; Центральний державний історичний архів України (ЦДІАК України — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 533, воп. 1, адз. зах. 1600; адз. зах. 1652; адз. зах. 1676, арк. 28, 31 адв.
7 Сборник документов, касающихся административного устройства северо-западного края при императрице Екатерине II. 1792–1796. — Вильна, 1903. — № 59, II. — С. 165–166.
8 РГАДА, ф. 16, оп. 1, д.758, л. 531 об.
9 Памяць: Гіст.-дакументальн. хроніка Столінскага р-на. — Мінск, 2003. — С. 74
10 Biblioteka Polskiej Akademii Umiętności i Polskiej Akademii nauk w Krakowie, Dział Rękopisów, адз. зах. 5760, арк. 21–71.
11 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ) у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1355, арк. 204.

мястэчка выклікала пратэст у дэмакратычнай грамадскасці краіны. Рэвалюцыянер-анархіст Пётр Крапоткін назваў Лагішынскую справу адной з самых абуральных у гісторыі Расіі. Жыхары працягвалі дамагацца справядлівасці ў вышэйшых інстанцыях. У 1876 г. улады вярнулі мяшчанам адабраную зямлю[12].

Значную актывізацыю барацьбы за вяртанне правоў мяшчанства ў канцы першай чвэрці XIX ст. гродзенскі губернатар у рапарце ў Сенат тлумачыў «*дазволам Найвышэйшым указам ад 23 сакавіка 1818 г. кожнаму адшукваць асабістую свабоду і наданых прывілеяў*»[13]. Напрыклад, жыхары м. Дывін, патрабуючы пераводу ў мяшчане, указвалі, што падчас правядзення валочнай памеры ў 1566 г. Дывіну было выдзелена 53 валокі зямлі (каля 1060 дзесяцінаў), прадставілі прывілеі, паводле якіх жыхары Дывіна лічыліся мяшчанамі, а зямля была аддадзена ім у вечнае валоданне[14]. Улады рабілі захады, каб забраць арыгіналы прывілеяў у местачкоўцаў. Жыхары Дывіна скардзіліся, што кобрынская паліцыя *«затрымала ў сябе арыгінал прывілея і іншыя дакументы Дывінскіх мяшчан»*[15]. Арыгіналы каралеўскіх прывілеяў захоўвалі і выкарыстоўвалі ў барацьбе за мяшчанскія правы і жыхары Камянца[16].

Губернскае начальства канстатавала, што *«дух, які дзейнічае над жыхарамі Дывіна, ёсць агульным і для іншых суседніх сялян — а менавіта мястэчак Гарадца, Мальчы, Лагішына і іншых, што ў наваколлі знаходзяцца»*[17]. Выклікае павагу рашучасць і адзінства местачкоўцаў. Напрыклад, калі ў Мальчы былі арыштаваныя 8 «падбурхтоўшчыкаў», то местачкоўцы *«сабраліся ўсёй грамадою, мужчынскага і жаночага полу, разламалі дзверы ў доме, дзе ўтрымліваліся арыштаваныя, адбілі іх у паліцыянтаў»*[18]. Пры разглядзе гэтых спраў чыноўнікі не аднойчы падкрэслівалі, што жыхары дзейнічаюць *«усёй грамадою адзінагалосна»,* у сувязі з чым пад падазрэнні ў падбухторванні траплялі святары местачковых прыходаў.

Неаднойчы, пачынаючы з 1834 г., уздымалі пытанне пра аднаўленне сваіх гарадскіх правоў жыхары м. Крэва. У чарговым прашэнні 1844 г. гаварылася, што яны да 1816 г. утрымлівалі мяшчанскае званне, нада-

12 Крук, У. Лагішынскае выступленне мяшчан 1874 г. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. — Т. 4. — Мінск, 1997. — С. 326.
13 Российский государственный исторический архив (РГИА), ф. 1286, оп. 2, д. 254, л. 5 об.
14 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1355, арк. 5, 6, 8, 11, 12, 14.
15 Тамсама, арк. 69 адв.
16 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1381, арк. 11–12.
17 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1355, арк. 46.
18 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1360, арк. 324 адв.

дзенае ім прывілеямі польскіх каралёў, а пазней былі пераведзеныя ў сялянскае саслоўе. Сянат адхіліў гэтую просьбу[19]. Аднак жыхары Крэва ўсё роўна працягвалі лічыць і адчуваць сябе менавіта мяшчанамі. Гэта добра адлюстравана ў гісторыка-этнаграфічным нарысе «Крэва», напісаным у 1871 г. мясцовым святаром Дзяменціем Плаўскім[20]. Ён сведчыў, што жыхары мястэчка захавалі гонар за былую славу свайго паселішча і па-ранейшаму называлі яго «местам», сябе яны лічылі мяшчанамі і ўсяляк намагаліся адрозніваццa ад сялян наваколля, пераўзысці іх па знешнім выглядзе. Мужчыны галілі бароды, пакідаючы невялікія вусы і бакенбарды. Для дзён святочных многія мелі сурдуты, камізэлькі, манішкі, каптаны. У адрозненне ад шэрай сялянскай вопраткі, местачкоўцы фарбавалі сваё адзенне ў чорны колер. Жанчыны мелі стракатыя паркалёвыя і шаўковыя сукенкі, капоты з тонкага чорнага сукна, прыгожа аздобленыя светлымі гузічкамі, белыя кажушкі і стракатыя шарсцяныя хусткі. Местачкоўцы, адчуваючы сваю значнасць, любілі паказаць сябе перад вяскоўцамі гараджанамі. Сяляне ставіліся да іх з належнай пашанай, але за вочы — пасмейваліся.

Пакаранні, што выносілі суды, былі дастаткова жорсткія. Напрыклад, па Мальчанскай справе 7 чалавек прыгаварылі да ссылкі на катаржную работу, астатніх да публічных цялесных пакаранняў (ад 15 да 100 удараў)[21]. Жорстка помсціў арганізатарам «бунту» за свабоду ў Дывіне памешчык Павел Ягмін: адабраў у пaverанага дывінскіх жыхароў Люльковіча ўсе прывілеі, на падставе якіх мяшчане змагаліся за свабоду, а самога пaveранага аддаў у салдаты; шэсць чалавек утрымліваліся 10 дзён пад арыштам, закаваныя ў кайданкі, а пазней былі адасланыя ў гарадзенскі астрог; пяць актыўных прадстаўнікоў дывінскай грамады былі сасланыя ў Сібір; усе гаспадары, хто адмаўляўся выконваць павіннасці, атрымлівалі па 50 і болей удараў розгамі[22]. Цялеснымі пакараннямі скончылася безвыніковае змаганне за свабоду ад валодання памешчыкам Пушчыным жыхароў м. Парычы (збітыя розгамі былі Лаўрэнцій Сцяпанаў і Фёдар Цыбульскі)[23]. Пастановай Ашмянскага земскага суда ад 31 жніўня 1836 г. былі пакараныя розгамі (па 50 удараў) 21 жыхар м. Гальшаны[24].

19 Городские поселения Российской империи. — Т. 1. — СПб., 1860. — С. 188.
20 Плавский, Д. Местечко Крево. Историко-этнографический очерк. — Вильно, 1871.
21 Тамсама, арк. 425–426.
22 LVIA, ф. 378, агульны аддзел, 1835 г., адз. зах. 278, арк. 73, 74, 104.
23 ЦДІАК України, ф. 533, воп. 1, адз. зах. 1652, арк. 25.
24 LVIA, ф. 378, агульны аддзел, 1835 г., адз. зах. 417, арк. 46 адв., 49, 52 адв.

Расійскія ўлады часцей за ўсё адмаўлялі местачкоўцам у пацвярджэнні іх ранейшых правоў. У справах па мястэчках Дывін, Мальча, Мілейчыцы, Масты, Крэва ў якасці падставы для такой адмовы паслужыў факт скасавання гарадскіх правоў у 1776 г.: *«Прывілеі польскімі каралямі наданыя як ліквідаваныя канстытуцыяй 1776 г. у цяперашні час не могуць мець ніякага дзеяння»*[25]. Рашэнне Сената ад 28 сакавіка 1824 г., што датычыла м. Масты, мела і агульнае значэнне[26]. Сенат спаслаўся на «Даравальную грамату дваранству» 1785 г. Менавіта гэты заканадаўчы дакумент, а не прывілеі манархаў Рэчы Паспалітай, выступіў для расійскіх уладаў у ролі крыніцы права ў дадзенай сітуацыі. Гэты ўказ Сената, нягледзячы на некаторыя агаворкі (права адшукваць свабоду), фактычна скасоўваў усе ранейшыя прывілеі мяшчан, ператвараў іх у прыгонных сялян.

У выніку ўпартай барацьбы жыхары некаторых мястэчак здолелі вярнуць правы мяшчанства. Указам Сената ў 1831 г. былі прызнаныя мяшчанамі жыхары м. Глуск: 312 душ мужчынскага полу былі выключаныя з ліку сялян памешчыка Івана Юдзіцкага і залічаныя ў мяшчане. Ім дазволілі выбіраць войта, якога зацвярджаў Бабруйскі магістрат. Акрамя таго, Сенат вызначыў, што мяшчане Глуска абавязаныя плаціць уладальніку чынш за зямлю ў памеры, які існаваў да 1793 г., і забараніў павялічваць яго[27]. У 1836 г. былі вызвалены з прыгоннай залежнасці і пераведзеныя ў мяшчане жыхары Давыд-Гарадка. У 1848 г. дамагліся вяртання мяшчанскага статусу жыхары м. Петрыкава[28]. Аднак у большасці выпадкаў падобныя прашэнні местачкоўцаў не задавальняліся.

## БУНТАРСКІ КАПЫЛЬ

Найбольш дэталёва крыніцы дазволілі зрабіць рэканструкцыю змагання за страчаныя правы мяшчан Капыля. Пачатак змагання капылян за вяртанне мяшчанства датуецца 4 сакавіка 1809 г., калі павераныя капыльскай грамады напісалі прашэнне на імя імператара Аляксандра I, у якім адзначалі, што *«продкі нашыя здаўна па нададзеных Слуцку і Капылю прывілеях, лістах, зацверджаных Канстытуцыямі, карысталіся вольнасцю і свабодаю…, і мы, нашчадкі, да ўступлення Расіі ў тутэйшы край мелі вольнасць і свабоду… Невядома чаму ў 1795 г. падчас*

25 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1355, арк. 86; Адз. зах. 1884, арк. 252.
26 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1884, арк. 253.
27 НГАБ, ф. 299, воп. 2, адз. зах. 872, арк. 3–6.
28 Городские поселения… — Т.3. — СПб., 1863. — С. 135, 137.

*рэвізіі мы былі запісаныя ў сяляне за памешчыкам князем Радзівілам»*[29]. Просьба заключалася ў выключэнні капылян з сялянскіх рэвізскіх сказак і аднясенні да мяшчан.

У 1810 г. капыляне ініцыявалі пачатак судовай цяжбы з князямі Радзівіламі ў Слуцкім земскім судзе і дабіліся пастановы гэтага суда аб прадстаўленні Радзівіламі неабходных для разгляду справы дакументаў. Чарговае прашэнне капыльскіх мяшчан на імя імператара было складзенае ў 1814 г.[30] У 1818 г. капыльскія мяшчане падалі прашэнне ў камісію для ўпарадкавання справаў князёў Радзівілаў[31]. Гэтая камісія была спецыяльнай судовай установай, і з гэтага часу да 1833 г. менавіта тут вырашаўся лёс капыльскіх мяшчан.

Аб дастаткова высокай самаарганізацыі капылян у справе барацьбы за свае правы сведчаць тыя факты, што, як выявілі следчыя ў 1818 г., на працягу 10 год збіраліся складкі (2–3 разы на год): ад 1 да 10 злотых (у залежнасці ад маёмаснага стану мяшчан). Гэтыя сродкі ішлі на пакрыццё падацей, а таксама на выдаткі паверaных у справе цяжбы з Радзівіламі. Рэгістры складак вёў пісар. Пры неабходнасці супольнай нарады мяшчане збіраліся ў карчме[32]. Паверaных абіралі шляхам афармлення даверанасці: напрыклад, у 1809 г. даверанасць Дзям'яну Татаржыцкаму і Фадзею Манкевічу падпісалі (паставіўшы крыжыкі) 56 мяшчан Капыля. У 1832 г. склалі даверанасць на Фёдара Жылуновіча, Міхайлу Зарамбоўскага і Яна Чарнушэвіча, падпісалі яе 49 капыльскіх мяшчан[33]. За час судовага разбіральніцтва ў Радзівілаўскай камісіі па справе капыльскіх мяшчан змяніліся тры адвакаты.

З восені 1833 г. пачынаецца другі этап барацьбы мяшчан Капыля, асноўнай мэтай якой было дамагчыся права ўласнасці на свае пляцы і землі. Капыляне падалі апеляцыйную скаргу ў Сенат. Паралельна яны дабіваліся справядлівасці ў Мінскага губернскага пракурора.

У 1852 г. мясцовыя чыноўнікі ўжо вялі следства па справе аб *«буйстве и самоволии копыльских мещан противу владельца князя Витгенштейна»,* якое распачалося пасля скаргі паверaнага князя Вітгенштэйна на самавольныя парубкі капыльскімі мяшчанамі ў лясах, а таксама на гвалтоўнае адабранне імі ў сялян князя Вітгенштэйна агародаў, палёў

29 LVIA, ф. 459, воп. 1, адз. зах. 4035 (Матэрыялы аб судовым працэсе паміж Радзівілаўскай масай і жыхарамі мястэчка Капыль), арк. 435.
30 Тамсама, арк. 479.
31 Тамсама, арк. 5 адв.
32 Тамсама, арк. 129–136 адв.
33 Тамсама, арк. 281–282.

і сенакосаў. Зачыншчыкаў (сярод якіх найбольш актыўным быў Павел Дземідовіч) перадалі ў Слуцкі гарадавы магістрат, аднак там прынялі рашэнне аб іх вызваленні, пакінуўшы пад наглядам паліцыі, і тым далі магчымасць, як адзначана ў чыноўніцкай перапісцы па гэтай справе, *«возвратясь на место жительства, вновь водворить беспорядки между копыльскими мещанами, которые уклоняются от платежа оброчной платы за земли»*[34].

Спрэчная справа капыльскіх мяшчан з князем Вітгенштэйнам аб зямлі зноў разглядалася ў Сенаце, дзе была канчаткова вырашана адпаведным указам у 1858 г.: права поўнай уласнасці на землі, якія знаходзяцца ў карыстанні мяшчан (за што яны павінны плаціць аброк па 90 кап. за сажань), прызнанае за Вітгенштэйнам. Мяшчане адмовіліся ад заключэння ўмоваў з Вітгенштэйнам і звярталіся з новымі скаргамі ў розныя інстанцыі (у Камісію прашэнняў, Сенат, да галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю, мінскага губернатара, віленскага генерал-губернатара).

Губернскае начальства звярнулася ў Сенат з пытаннем пра магчымае высяленне мяшчан з Капыля. Сенат перадаў гэта на разгляд міністра ўнутраных справаў[35]. Такім чынам, канчаткова (як здавалася) вырашаная справа зноў аказалася нявырашанай. Мяшчане то працягвалі самавольна карыстацца ворыўнымі і сядзібнымі землямі і лугамі, прапаноўваючы за гэта чынш у памеры 90 кап, то адмаўляліся ад ворыва і лугоў, карысталіся толькі сядзібнымі пляцамі і нічога не плацілі. Паліцэйскія меры былі безвыніковымі. Капыляне ўпарта не згаджаліся падпісваць умовы землекарыстання з памешчыкам. Былі спадзяванні на станоўчае вырашэнне іх прашэнняў і скаргаў.

Даволі трагічна развіваліся падзеі ў 1869 г. У паліцэйскім упраўленні была прынятая пастанова аб вопісу маёмасці мяшчан для пакрыцця стратаў эканоміі князя Вітгенштэйна і недазволе карыстацца з самавольна засеяных палёў і агародаў. У Капыль для апісання маёмасці мяшчан прыбыў Шацінскі, які пазней быў ахарактарызаваны ў чыноўніцкай перапісцы як «*недастаткова цвярозы і добранамераны, пры гэтым неабачлівы і даволі грубага характару*», а дзеянні яго па выкананні вышэй прыведзенай паліцэйскай пастановы былі *«неабачлівымі, нетактоўнымі і з відавочнымі адступленнямі ад парадку, прапісанага*

34 НГАБ, ф.175, воп. 1, адз. зах. 163 (Перапіска па справе капыльскіх мяшчан-хрысціян з князем Вітгенштэйнам аб землях), арк. 7, 16–19.
35 НГАБ, ф. 295, воп. 1, адз. зах. 2025 (Справа аб непаслушэнстве капыльскіх мяшчан Слуцкага ўезда ўладам пры спагнанні з іх чыншу за землі князя Вітгенштэйна), арк. 7 адв.–8.

*ў законе»*[36]. Пры апісанні маёмасці капылян адбыліся бойкі паміж мяшчанамі ды гусарамі і казакамі. Шацінскага з Капыля адклікалі. Вопіс маёмасці мяшчан даручылі станавому прыставу, які без садзеяння гусараў і казакоў апісаў маёмасць у 184 чалавек і па ўказанні мяшчан аддаў апісаную маёмасць на захаванне тром дваранам.

На чарзе было выкананне прадпісання паліцэйскага ўпраўлення не дазваляць мяшчанам збору хлеба з палёў, гародніны з агародаў. Мяшчанам было абвешчана, што ўраджай з самавольна засеяных земляў будзе сабраны адміністрацыяй князя Вітгенштэйна пад кантролем паліцыі. Мяшчане заявілі, што яны гэтага не дапусцяць[37]. 25 ліпеня 1869 г. на палетку, што знаходзіўся на Нясвіжскім тракце «за крыжамі», адбылася бойка паміж мяшчанамі, з аднаго боку, і прыставам, панятымі, казакамі, з другога боку. У Капыль з дазволу віленскага генерал-губернатара былі накіраваныя дзве сотні Данскога казацкага палка. Два месяцы працавала следчая камісія па справе «*аб буйствах капыльскіх мяшчан*». Пастановай гэтай камісіі да зняволення ў слуцкім турэмным замку былі прыгавораныя шэсць мяшчан. Меней вінаватымі былі прызнаныя 29 мяшчан, якія абвінавачваліся ў невыкананні прадпісанняў начальства і трапляли пад нагляд паліцыі[38].

Надзвычай цікавую характарыстыку мяшчанам Капыля даў у рапарце мінскаму губернатару Касакоўскі. Паводле яго меркавання, толькі меншая частка капылян добрасумленныя і сціплыя людзі, астатнія ж — шалёныя, дамагальныя, хітрыя… Гэтую бальшыню чыноўнік падзяліў на тры часткі: *хадакі, запявалы і натоўп*. Хадакі непасрэдна былі занятыя справамі вырашэння шматгадовай спрэчкі паміж мяшчанамі і памешчыкам. Запявалы — пасярэднікі паміж хадакамі і натоўпам. Хадакі і запявалы знаходзіліся на поўным забеспячэнні грамады. Асобы, якія былі згодныя падпарадкавацца начальству, не адважваліся выступіць адкрыта супраць агульнай стратэгіі і тактыкі, бо баяліся аддачы ў рэкруты[39]. Прыведзеныя Касакоўскім факты сведчаць пра высокую ступень самаарганізацыі мяшчанскай грамады Капыля.

Чарговы раз падзеі змагання капылян за зямлю адлюстраваліся ў чыноўніцкай перапісцы ў 1878 г. Слуцкі спраўнік дакладваў мінскаму губернатару пра чарговую сутычку ў Капылі паміж мяшчанамі ды судовым і паліцэйскім прыставамі. Апісанне такіх жа гвалтоўных

36 Тамсама, арк. 92 адв.
37 Тамсама, арк. 96 адв.
38 Тамсама, арк. 53–54.
39 Тамсама, арк. 88–92.

дзеянняў капылян сустракаецца і ў рапарце слуцкага спраўніка ў 1892 г. Аднак бясконцая барацьба капылян не дасягала сваёй мэты. Між тым надыходзіў канец XIX стагоддзя. Наперадзе было значна больш драматычнае XX стагоддзе…

## ВЫСНОВЫ

Барацьба за свабоду запрыгоненых мяшчан мястэчак, якія не трапілі ў лік новастворaных расійскімі ўладамі гарадоў, насіла вельмі ўпарты і дастаткова масавы характар. Асабліва актыўнымі былі жыхары мястэчак заходняга і цэнтральнага рэгіёну Беларусі. Былі выкарыстаныя ўсе магчымыя формы змагання — шматлікія скаргі, звароты ў розныя судовыя інстанцыі, адмова ад выканання павіннасцей, гвалтоўныя дзеянні, накіраваныя супраць прадстаўнікоў адміністрацыі памешчыка, дзяржаўных чыноўнікаў і паліцыі. Інстытутам самаарганізацыі і самакіравання, з дапамогай якога людзі мэтанакіравана і ўпарта баранілі свае правы і адстойвалі ўласныя інтарэсы, выступала сфарміраваная самімі мяшчанамі абшчына (грамада). Выяўленыя намі дакументы не раскрываюць шырока ўсе яе функцыі і паўнамоцтвы, але дазваляюць зрабіць выснову аб яе значнай ролі ў жыцці тагачаснага мястэчка.

«Бунты» жыхароў мястэчак у імя свабоды сведчаць, што местачкоўцы не былі ціхімі і пакорлівымі, не толькі марылі пра былую вольнасць, але і актыўна за яе змагаліся. Яны добра ведалі сваю гісторыю (найперш тую яе частку, якая датычыла іх правоў), старанна захоўвалі прывілеі, выдадзеныя іх продкам каралямі польскімі і вялікімі князямі літоўскімі, і выкарыстоўвалі іх у змаганні за асабістую свабоду і зямлю. Гэта была адна з самых значных праяваў антыпрыгонніцкага руху ў Беларусі. І гэтым мястэчкі і іх жыхары зрабілі свой унёсак у прыспешванне адмены прыгоннага права.

# Габрэі і беларусы ў змаганні за свабоды ў царскай Расіі (1795–1904)

**Захар ШЫБЕКА,** Тэль-Авіўскі ўніверсітэт

Змаганне беларусаў за свабоды ў царскай Расіі адбывалася ў непасрэдным суседстве з габрэямі. Але да гэтага часу застаецца невысветленым, які ўклад унеслі габрэі ў вызваленне Беларусі з-пад царскага ярма і наколькі іх інтарэсы і мэты ў барацьбе з царызмам супадалі з беларускімі?

Пакуль не вядома, каб сярод сучасных спецыялістаў у беларускай іудаістыцы хтосьці спецыяльна займаўся вывучэннем сумеснай барацьбы габрэяў і беларусаў за дэмакратызацыю Расіі і за свае правы. Калі ў даследаваннях аб гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы рабочых часам ідзе гаворка аб сумесных габрэйска-беларускіх выступах, то ў працах аб сялянскім руху гэты рух падаецца цалкам ізалявана ад габрэйскіх уплываў. Другі аспект праблемы (суадносіны метадаў барацьбы) у гістарычнай навуцы Беларусі вывучаны недастаткова і без уліку габрэйскага рэвалюцыйнага руху.

Але і барацьба габрэйскага народа за раўнапраўе і нацыянальную суверэннасць вывучаецца габрэйскімі гісторыкамі пераважна ў маштабах царскай Расіі[1]. У выніку губляюцца многія рэгіянальныя асаблівасці

1 Гл.: Дейч, Л.Г. Роль евреев в русском революционном движении. — Берлин, 1923; Гринбаум, И. Развитие сионистского движения (Иврит). — Т.1–4. — Иерусалим, 1942; Ицхак, М. Еврейский вопрос в русском либеральном и революционном движении, 1890–1944 гг. — Иерусалим, 1964; Гончарок, М. Век воли. Русский анархизм и евреи (XIX–XX вв.). — Иерусалим, 1996.

і падрабязнасці гэтай барацьбы. Пытанне пра ўплыў беларусаў на выніковасць грамадска-палітычнай дзейнасці габрэйскага народа нават не ўздымаецца.

У прапанаваным артыкуле толькі ставіцца праблема і робяцца спробы пошуку канкрэтных прыкладаў дзейнасці габрэйскіх рэвалюцыянераў сярод беларусаў, а таксама прыкладаў сумесных выступаў габрэяў і беларусаў за свае правы. А ў сувязі з гэтым высвятляюцца, якімі метадамі барацьбы карысталіся прадстаўнікі двух народаў і наколькі характэрным для іх быў дух бунтоўніцтва. Даследаванне даводзіцца да 1905 г., бо масавая барацьба ў рэвалюцыі 1905–1907 гг. патрабуе спецыяльнага вывучэння.

## У БАРАЦЬБЕ ЗА АДРАДЖЭННЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ. 1795–1863

Большая частка габрэяў і амаль усе беларусы апынуліся пасля разбораў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. у складзе Расіі, якая належала да тыпу дзяржаў азіяцкага дэспатызму. Становішча жыхароў беларускіх зямель у цэлым пагоршылася[2].

У авангардзе барацьбы супраць царскага ярма стаяла ваеннае саслоўе шляхты, якое складала каля 12% усяго насельніцтва Беларусі, ды яшчэ каталіцкае духавенства. Першая няўдалая спроба шляхты падняць народ на паўстанне адносіцца да 1796–1797 гг. Пасля беспаспяховых перамоваў беларускіх магнатаў з Аляксандрам I (гады панавання: 1801–1825) аб аднаўленні Вялікага Княства Літоўскага (далей — ВКЛ), шляхта ў французска-рускай вайне 1812 г. стала на бок Напалеона. І нарэшце, шляхецкі гонар, рост патрыятычных пачуццяў і прыклад рэвалюцыйнай Еўропы (асабліва Францыі і Італіі) двойчы ўздымалі першае саслоўе на антыцарскія паўстанні ў 1830–1831 гг. і ў 1863 г.

У 1796–1797 гг. сялянства таксама адказвала на ўзрослы ў складзе Расіі эканамічны прыгнёт антыпамешчыцкімі бунтамі. Палітыка гвалтоўнага пераводу ўніятаў у праваслаўную веру выклікала масавыя сялянскія выступленні на чале з духавенствам (асабліва на Беласточчыне)[3]. Выступленні сялян накіроўваліся, як правіла, супраць памешчыкаў, але такім чынам яны змагаліся за свабоднае жыццё без прыгону. У галодны 1822 год каля 1/3 віцебскіх сялян уцяклі ад сваіх гаспадароў на поўдзень Украіны і ў мясцовыя пушчы, дзе жылі ваўкалакамі, але да прыгоннікаў не

2 Шыбека, З. Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002). — Мінск, 2003. — С. 17–21. У далейшым усё факты барацьбы супраць царызму, прыведзеныя ў тэксце без спасылак, трэба лічыць узятымі з гэтай працы.

3 Гл.: Dyląowa H., *Historia Polski*. 1795–1990, Lublin 2000.

вярталіся. Пад уплывам чутак, што за ўдзел у будаўніцтве Пецярбургскай чыгункі сялянам будзе падаравана свабода, тысячы прыгонных поўначы Беларусі здымаліся з месцаў і натоўпамі ішлі да расійскай сталіцы. Урад вымушаны быў ужыць войска. У 1859–1860 гг. беларускія сяляне адмаўляліся набываць памешчыцкую гарэлку ў корчмах, якія звычайна арандаваліся габрэямі. Рух за цвярозасць ахапіў заходнюю Беларусь і кіраваўся ксяндзамі. Незадаволенасць аграрнай рэформай 1861 г. зноў выклікала масавыя пратэсты беларускага сялянства ў 1861–1862 гг.

Беларускія мяшчане сустракалі ў 1812 г. Напалеона як вызваліцеля. А мяшчане мястэчак, пераведзеныя царскім урадам у сялянскае саслоўе, дзесяцігоддзямі судзіліся з уладамі за вяртанне ім мяшчанскага статусу. У асобных месцах справа даходзіла да сутычак з паліцыяй. У мястэчку Масты Гродзенскай губерні падбухторшчыкамі выступалі Якімчык і габрэй Мордух Гецаліовіч[4].

Габрэйскія грамады (кагалы) не дэманстравалі такога адкрытага і ваяўнічага пратэсту. Габрэі не ведалі прыгону, былі свабоднымі людзьмі. Сярод іх давер да ўладаў і лаяльнае стаўленне да іх былі агульнапрызнанай традыцыяй[5]. Гэта дыктавалася неабходнасцю выжывання. Павышэнне падаткаў успрымалася кагаламі як звычайная справа. Габрэйскія абшчыны захоўвалі надзеі на суіснаванне з кіраўніцтвам новай дзяржавы, дапамагалі расійскай арміі ў вайне з Францыяй. Іудзеі-артадоксы лічылі Напалеона, які ўраўняў у правах габрэяў з іншымі грамадзянамі імперыі, разбуральнікам габрэйскіх традыцый. На гэта накладалася тая акалічнасць, што кіраўніцтва створанага Напалеонам Варшаўскага герцагства праводзіла варожую да габрэяў палітыку[6]. У антыцарскіх паўстаннях практычна ўсе габрэі прытрымліваліся нейтралітэту. Калі шляхта пачынала ваяваць з царызмам, ніхто не ведаў, хто пераможа, і было небяспечна прымаць той ці іншы бок.

Гэта не азначала, што ў габрэйскім асяроддзі не было незадаволенасці. Рабіны (духоўныя кіраўнікі габрэйскіх грамадаў) лічылі недапушчальным умяшанне ўладаў ва ўнутраныя справы габрэяў. Грамады хасідаў[7]

---

4 Соркіна, І. Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. — Вільня, 2010. — С. 80–87. Сумнавядомыя «часовыя правілы» 1882 г., якія забаранялі габрэям жыць у сельскай мясцовасці, звялі намаганні беларускіх мяшчан на нішто. Узнікшая ў гарадах сітуацыя надзвычайнай перанаселенасці прымусіла іх дзесьці ў канцы 1880 — пачатку 1890 гг. перасяліцца ў буйныя гарадскія цэнтры ўнутранай Расіі і нават у бліжэйшыя вёскі. Беларусы трацілі грамадска актыўную групу насельніцтва (Шыбека, З. Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзяў). — Мінск, 1997. — С. 146–147).

5 Этингер, Ш. Россия и евреи. Сборник статей. — Иерусалим, 1993. — С. 242.

6 Гинзбург, С.М. Отечественная война 1812 года и русские евреи. — СПб., 1912. — С. 48–53.

7 Хасідызм — шырока распаўсюджаны народны рэлігійны рух, які ўзнік ва ўсходнееўрапейскім іудаізме ў другой чвэрці XVIII ст. і існуе да гэтага часу.

і двары хасідскіх цадзікаў (святых) сталі агменямі апазіцыі ўладам[8]. На прыгнёт з боку царскага ўрада габрэйская грамада адказвала скаргамі ў імперскія інстанцыі. Яна змагалася супраць асімілятарскіх захадаў Мікалая I (гады панавання: 1825–1855) (русіфікацыі, рэкруцкай павіннасці, ліквідацыі кагалаў, навязвання рускамоўнай свецкай адукацыі) шляхам маўклівага байкоту. Бацькі не аддавалі дзяцей у рускія школы, юнакі ўхіляліся ад рэкрутчыны. Кагалы, якія былі ліквідаваны ў 1844 г., існавалі фактычна ў кожным мястэчку і горадзе ў асобе духоўнага равіна і некалькіх ганаровых габрэяў, якія ўтваралі духоўнае праўленне пры малітоўных дамах і сінагогах[9].

Габрэі часам дэманстравалі зайздросную ўпартасць у абароне сваіх правоў. У канцы 1843 г. у Мсціславе на базары адбылося сутыкненне габрэяў з салдатамі пры канфіскацыі кантрабанднага тавару. Магілёўскі губернатар убачыў у гэтай звычайнай бойцы габрэйскі бунт і прыняў супраць усёй габрэйскай грамады Мсціслава жорсткія меры: забараніў выязджаць з горада, арыштаваў кіраўніцтва кагала, распачаў масавую рэкрутацыю. У адказ габрэі абвясцілі пост і тры дні бесперапынна правялі на могілках у малітвах. Толькі дзякуючы прадпрымальніку і мецэнату Ісааку Залікіну, якому ўдалося перадаць скаргу высокаму саноўніку ў Пецярбургу, справа аб «Мсціслаўскім бунце» была спыненая[10].

У выніку царскіх рэпрэсіяў дробная шляхта, з яе рыцарскімі традыцыямі, была часткова знішчана, а часткова рассеяная па ўсёй імперыі. Яна губляла ўплыў і ў выніку эканамічнага банкруцтва. А гэта прывяло да таго, што шляхецкае саслоўе перастала быць авангардам у барацьбе з царскім самаўладдзем. Бунты і паўстанні не перараслі ва ўсенароднае паўстанне. Кожнае саслоўе змагалася за захаванне сваіх правоў, прывілеяў. Саслоўны эгаізм не быў пераадолены. Фальварковая шляхта і пасля паўстанняў імкнулася заставацца першым саслоўем.

Сумесных выступаў габрэяў і беларусаў за свае правы не назіралася. Яшчэ існаваў моцны ўзаемны недавер паміж рэлігійнымі габрэямі і праваслаўнымі беларусамі. Але паколькі беларускія мяшчане і сяляне звычайна ва ўсім раіліся з габрэямі, якія жылі ў шматлікіх мястэчках і вёсках, то будзе лагічна дапусціць, што габрэйскія дарадчыкі аказвалі на бунтарскія настроі беларусаў пэўны ўплыў. У расійскай дзяржаве, з яе паліцэйскім наглядам, цэнзурай, адсутнасцю грамадзянскіх свабод,

8 Этингер, Ш. Россия и евреи... — С. 242.
9 Цыпин, В. Евреи в Мстиславле. Материалы к истории города. — Иерусалим, 2006. — С. 52.
10 Цыпин, В. Евреи в Мстиславле... — С. 75–81; Нацыянальны архіў габрэйскага народа. RU 678.

сустрэчы ў корчмах за куфлем піва і шклянкай гарэлкі былі часам адзінай магчымасцю абмяняцца навінамі і думкамі прадстаўнікам розных канфесій.

## ДАЛУЧЭННЕ ДА АГУЛЬНАРАСІЙСКАГА НАРОДНІЦКАГА РУХУ. 1863–1881

Пасля паўстання 1863 г. царызму ўдалося прыдушыць антыцарскі рух у Беларусі. Ініцыятыва яго адраджэння і арганізацыі на новых пачатках перайшла да расійскай інтэлігенцыі, якая рэкрутавалася з розных саслоўяў і розных народаў краіны. У Беларусі на месца шляхціца-рыцара прыйшоў шляхціц-інтэлектуал. У габрэяў — маскілім.

Тады ж, у другой палове XIX ст., адбывалася палітычная пераарыентацыя мясцовых палітычных сіл з Польшчы на Расію. Гэтаму садзейнічаў шэраг фактараў: безвыніковасць паўстанняў, ініцыяваных мясцовай шляхтай; перамяшчэнне эканамічных інтарэсаў на ўсход у сувязі з будаўніцтвам чыгунак; «добраахвотна-прымусовая» інтэграцыя ў рускую культуру. Барацьба з царызмам перастала звязвацца з вызваленнем ад Расіі, а накіроўвалася ўжо на дэмакратызацыю самой Расіі шляхам сялянскага паўстання. Ідэя волі замянялася на ідэю роўнасці. Папярэдні досвед паказаў, што для ўключэння ў палітычную барацьбу народных мас неабходна велізарная асветніцкая праца. Пачалося «хаджэнне ў народ».

Удзел беларускіх інтэлектуалаў у агульнарасійскім народніцкім руху быў нязначным. Габрэяў — таксама[11]. Адна з прычын таго — малалікасць габрэяў і беларусаў, якія валодалі рускай мовай і якія прымалі ідэалы народнікаў. Маскілім, хоць і выступалі за асіміляцыю (па прыкладзе габрэяў заходнееўрапейскіх краін), але былі прыхільнікамі эвалюцыйнага характару грамадскага развіцця[12]. Пачынаючы з 1860-х гадоў на варце інтарэсаў і правоў габрэйскага народа стала габрэйская прэса на рускай мове.

Народніцкі рух усё ж прасачыўся і ў Беларусь у значнай ступені дзякуючы габрэям. Былыя вучні магілёўскай гімназіі (браты Нахман і Лейзер Левенталі, Рыгор Гурвіч) на чале з Паўлам (Пінхус) Аксельродам (1850–1928)[13] стварылі ў 1872 г. у Кіеўскім універсітэце народніцкую арганізацыю і спрабавалі агітаваць на радзіме. Пасля арышту ў г. Клімавічы ім удалося збегчы і ў 1874 г. выехаць за мяжу[14]. У Мінску габрэйская моладзь, аб’яднаная ў народніцкую арганізацыю, дапамагла аднаму з лідараў расійскага народніцтва Георгію Пляханаву заснаваць у

11 Дейч, Л. Роль евреев... — Т. 1. — С. 15.
12 Тамсама. — С. 32.
13 Пазней П. Аксельрод стаў вядомым расійскім народнікам і сацыял-дэмакратам.
14 Дейч, Л. Роль евреев... — С. 205, 242–243, 247.

1881 г. падпольную друкарню «Чорнага перадзелу» і наладзіць яе працу. Пасля таго, як паліцыя трапіла на след мінскіх рэвалюцыянераў, яны (Грынфест, Гецоў, Ляўкоў, Шульман) паспелі выехаць за мяжу[15].

Народнікі ў сваёй дзейнасці ў Беларусі не выходзілі за межы агітацыі. Беларускае сялянства і габрэйскія грамады не ўспрымалі іх заклікаў да паўстання. Вяскоўцы пасля царскай свабоды 1863 г. (зніжэнне выкупных плацяжоў за зямлю, ліквідацыя інстытута часоваабавязаных, частковае павелічэнне сялянскіх надзелаў) жылі яшчэ някепска і ўсе свае надзеі на лепшае звязвалі з існуючым манархічным ладам. У «эпоху рэформаў» (1860-я і 1870-я гг.) становішча габрэяў палепшылася[16]. Габрэі літоўска-беларускага краю вялі ізаляванае рэлігійнае жыццё і ў палітыку не ўмешваліся[17]. Ні беларускія сяляне, ні габрэйскія мяшчане не прымалі агітатараў іншай веры, якія размаўлялі на незразумелай для іх рускай або польскай мовах. Захоўвалася памяць пра негатыўны вопыт папярэдніх антыцарскіх паўстанняў, якія выклікалі шэраг рэпрэсіўных мераў.

Страх перад рэпрэсіямі і царскія ілюзіі скоўвалі народныя масы. Угодніцтва габрэяў расійскім уладам вельмі яскрава адлюстравана ва ўспамінах Паўла (Пінхуса) Аксельрода. Ён пісаў, што ўяўленні пра абавязак габрэя здымаць перад «панам» шапку *«(…) так убіта было ў мяне, што, прыехаўшы ў Магілёў, каб паступіць там у гімназію, я здымаў на вуліцы шапку не толькі перад усімі ваеннымі і чыноўнікамі, але нават перад будучымі маімі таварышамі-гімназістамі»*[18].

Зразумела, што такія ж настроі панавалі і ў асяроддзі беларускіх сялян. Гэта добра прыкмеціў беларускі паэт Францішак Багушэвіч, які так апісваў пачуцці селяніна ў горадзе:

*Наш брат як увойдзе — сам сябе баіцца*
*Толь ісці без шапкі, ці дзе пакланіцца?*[19]

І для габрэяў, і для беларусаў расійская ўлада была чужой, іншамоўнай; і адны, і другія звыкліся з тым, што ад гэтай улады нельга чаго-кольвечы патрабаваць, можна толькі прасіць, зняўшы шапку.

Адсутнасць падтрымкі з боку народных масаў падштурхнулі расійскіх народнікаў да тэрору. Ігнат Грынявіцкі (1856–1881), які ўваходзіў у склад беларускай групы народнікаў, але супрацоўнічаў з расійскімі,

15 Тамсама. — С. 316–335 (Ліст Гецава да Л. Дэйча ад 10 студзеня 1923 г.); Шыбека, З. Мінск 100 гадоў таму. — Мінск, 2007. — С. 256.
16 Этингер, Ш. Россия и евреи… — С. 232.
17 Stępniewska-Holzer B., *Żydzi na Białorusi. Studium z dziejów strefy osiedlenia w pierwszej połowie XIX w.,* Warszawa 2013, s.186–197.
18 Дейч, Л. Роль евреев... — С. 194.
19 Шыбека, З. Гарады Беларусі... — С. 43.

кінуў смяротную для Аляксандра II бомбу[20]. У падрыхтоўцы замаху на цара ўдзельнічала сябар «Народнай Волі» габрэйка Геся Гельфман, ураджэнка Мазыра. Цяжарнасць выратавала тэрарыстку ад смерці, але не ад пажыццёвага турэмнага зняволення[21].

Пасля забойства расійскага імператара царызм распачаў контррэформы, а абвешчаная раней вайна палякам дапаўнялася вайной супраць габрэяў. Зрэшты, рэпрэсіі ўзмацняліся ў адносінах да ўсіх «*инородцев*». Будаванне грамадзянскай супольнасці ў Расіі станавілася немагчымым.

## УДЗЕЛ У СТВАРЭННІ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАГА РУХУ. 1881–1898 ГГ.

1881 год стаў паваротным у жыцці габрэяў Расіі. Забойства Аляксандра II стала пралогам для габрэйскіх пагромаў. А яны, у сваю чаргу, разбілі надзеі народа Торы на мірнае суіснаванне з царскімі ўладамі. Нават кіраўніцтва «Народнай Волі» бачыла ў пагромах сродак рэвалюцыянізацыі масаў[22]. У той жа час у Беларусі былі нярэдкія выпадкі, калі памешчыкі, чыноўнікі і простыя сяляне абаранялі габрэяў ад гвалту[23].

Пад уздзеяннем пагромаў адукаваная габрэйская моладзь адкінула ідэю супрацоўніцтва з уладамі, якую прапаведавалі асветнікі папярэдняга пакалення, і стала на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Сацыял-дэмакратычны рух быў закладзены габрэямі ў Вільні, сталіцы габрэяў-літвакоў. Недзе ў канцы 1880-х гг. там паўсталі першыя сацыял-дэмакратычныя гурткі габрэйскай інтэлігенцыі і рабочых. Касы ўзаемадапамогі габрэйскіх рамеснікаў ператвараліся ў сацыял-дэмакратычныя гурткі. Габрэйскі сацыялізм арыентаваўся на дэмакратызацыю адзінай Расіі і сацыяльныя правы прыгнечаных, гэтаму садзейнічала паглыбленне расколу габрэйскай грамады на бедных і багатых[24].

У 1890 г. магілёўскі губернатар Аляксандр Дэмбавецкі разаслаў сваім падначаленым чыноўнікам спецыяльны цыркуляр, які тычыўся габрэяў. Царскаму саноўніку не падабалася нахабства і дзёрзкасць маладых габрэяў, якія перад прадстаўнікамі мясцовай улады не здымалі шапку. У сувязі з гэтым начальнік губерні патрабаваў прыняцця неабходных мер уздзеяння. Мсціслаўскі маршалак (лідар шляхецкай супольнасці) князь Мяшчэрскі, атрымаўшы губернатарскі цыркуляр, запрасіў да

20 Луцкевіч, А. Да гісторыі беларускага руху: Выбраныя творы. — Мінск, 2003. — С. 141.
21 Иоффе, Э. Г. Страницы истории евреев Беларуси. — С. 54.
22 Дейч, Л. Роль евреев... — С. 6.
23 Русский еврей. — 1881. — № 27. 2 июля. — С. 1096; «Русский еврей». — 1881. — № 30. 22 июля. — С. 1176; Русский еврей. — 1881. —№ 47. 18 ноября. — С. 1853–1854.
24 Бен-Симуэль, Д. Письма к еврейской молодежи. Письмо одиннадцатое. // Еврейская жизнь. —1906. — №1, январь, — С. 69.

сябе ганаровых прадстаўнікоў габрэйскай абшчыны і пагражаў ім публічным пакараннем розгамі. Памочнік пракурора Сушкоў толькі паддакваў. Габрэі абураліся, але не пратэставалі. Вядомы габрэйскі гісторык, ураджэнец Мсціслава Сямён Дубноў зрабіў мсціслаўскі інцыдэнт здабыткам прэсы. Аказалася, што падобныя здзекі з габрэяў мелі месца і ў іншых гарадах Беларусі. Улады вымушаныя былі абвясціць Сушкову вымову[25]. Гэты факт сведчыў аб праявах сярод габрэяў пачуцця ўласнай годнасці і выкарыстанні імі новых метадаў абароны ад злоўжыванняў адміністрацыі — фармавання спрыяльнай для сябе грамадскай думкі.

Палітызацыя габрэйскай грамадскасці прывяла ў шэрагі пецярбургскага гуртка беларускіх народнікаў «Гоман» Хаіма Ратнера, выхадца з купецкай сям'і мястэчка Шклова Магілёўскай губерні. Ён арганізаваў у 1884 г. нелегальную друкарню беларускай народніцкай групы, быў адным з яе тэарэтыкаў і рэдактарам часопіса «Гоман» на рускай мове[26]. Іншых падобных фактаў беларуска-габрэйскага супрацоўніцтва не выяўлена. Варта прыкмеціць, што ў тыя часы ў асяроддзі праваслаўнай інтэлігенцыі Беларусі пашыралася ідэалогія заходнерусізму, якая мела ў значнай ступені антысеміцкі характар[27].

У 1880-х гадах у афіцыйным друку і ў грамадскай газеце «Минский листок», якая выходзіла з 1886 г., друкаваліся шматлікія этнаграфічныя і філалагічныя матэрыялы пра беларусаў. Сярод даследчыкаў беларускага народа быў этнограф Павел Шэйн (1826–1900), хрышчаны (у лютэранскай царкве) габрэй, ураджэнец Магілёва. Ён лічыўся выдатным знаўцам побытавай культуры і гаворак беларусаў[28]. Як расійскі патрыёт-славянафіл, беларусаў называў «*русскими*», хоць сабраныя ім песні (каля 3000) і этнаграфічныя матэрыялы сведчылі аб відавочным адрозненні беларусаў ад рускіх. Этнаграфічныя даследаванні Беларусі садзейнічалі ўсведамленню і беларусамі сваёй нацыянальнай годнасці.

У параўнанні з сялянамі, агітацыя і прапаганда сярод рабочых, колькасць якіх няўхільна расла, была больш эфектыўнай. Працоўны люд адрозніваўся большай арганізаванасцю і адукаванасцю. Таму

25 Цыпін, В. Евреи в Мстиславле... — С. 66–70.
26 Александровіч, С.Х. Кнігі і людзі: Да след., архіўныя знаходкі, успаміны, эсэ. — Мінск, 1976. — С. 78.
27 Заходнерусізм — гісторыка-ідэалагічны накірунак навуковага, грамадска-палітычнага, этнаканфесійнага і культурнага жыцця, які ўзнік у так званым Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі і які грунтуецца на пастулаце, што беларусы з'яўляюцца адной з этнаграфічных груп агульнарускага народа.
28 Берников, Л. Из иудеев — в славянофилы. — Рэжым доступу: http://www.berkovich-zametki.com/2010/Zametki/Nomer11/Berdnikov1.php

марксісцкая дактрына пра гегемонію пралетарыяту атрымала ў Расіі вялікую папулярнасць.

Саслоўныя інтарэсы адціскаліся на задні план інтарэсамі класавымі (працоўныя — буржуазія). На змену саслоўным арганізацыям прыходзілі палітычныя партыі, у тым ліку і сацыял-дэмакратычныя. Гэта стварала глебу для сумесных выступленняў працоўных розных нацыянальнасцяў пад лозунгам «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!». Нацыянальныя інтарэсы народаў Расіі ўсведамляліся больш павольна. Умовы для гэтага ў імперыі не былі спрыяльнымі.

Першае партыйнае аб’яднанне па класавай прыкмеце адбылося ў Беларуска-Літоўскім краі ў 1893 г. Створаная тады Літоўская Сацыял-дэмакратычныя Арганізацыя (з 1895 г. — партыя) аб’ядноўвала прыхільнікаў сацыял-дэмакратыі ў Літве і Беларусі (літоўцаў, беларусаў, габрэяў). Яна адразу ж наладзіла надзейныя кантакты з габрэйскімі сацыял-дэмакратычнымі гурткамі. Марксісты Літоўска-Беларускага краю дзейнічалі супольна. З другой паловы 1890-х гг. наладжваліся сумесныя выступленні габрэйскіх і «хрысціянскіх»[29] працоўных: маёўкі, сходы, стачкі[30].

Габрэйскай інтэлігенцыі ўдалося ажыццявіць партыйнае аб’яднанне адначасова і на класавай, і на нацыянальнай аснове. Лідары габрэйскай партыі пралетарскага сацыялізму (Бунда), якая ўзнікла ў 1897 г., аддавалі перавагу салідарнасці з рускім пралетарыятам. У нацыянальным пытанні яны выступалі за адзінства рускай дзяржавы, не прызнавалі неабходнасці барацьбы нярускага пралетарыяту за вызваленне з-пад расійскага ярма альбо нават за сваю нацыянальную аўтаномію[31]. Арганізацыйна аформлены на Базельскім кангрэсе (1897 г.) міжнародны габрэйскі нацыянальны рух (сіянізм) арыентаваў габрэйскі пралетарыят Беларусі на стварэнне агульнагабрэйскай дзяржавы ў Палесціне. Сіяністы абмяжоўваліся агітацыяй выключна сярод габрэйскага насельніцтва і чакалі міжнароднага дазволу для вяртання на «зямлю абяцаную»[32].

---

29 Так у габрэйскіх рэвалюцыйных колах часта называліся палякі, літоўцы, беларусы, украінцы, рускія.

30 Архіў Цэнтра дыяспары Тэль-Авіўскага ўніверсітэта. — Т. 32/142. Рукапіс Альфонса Мараўскага «Гісторыя літоўскага рабочага руху (1893–1902)». — С. 25–26, 62, 137, 195–196; Коўкель, І.І. Узнікненне першых палітычных партый на тэрыторыі Беларусі, іх асноўныя ідэйныя накірункі // Грамадскія рухі і палітычныя партыі ў Беларусі (апошняя чвэрць XIX — пачатак XXI ст.). Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі (Гродна, 23–24 кастрычніка 2008 г.). — Гродна, 2009. — Рэжым доступу: http://uctopuk.info/politika/1kovkel.htm

31 Архіў Цэнтра дыяспары Тэль-Авіўскага ўніверсітэта. — Т. 32/142. Рукапіс Альфонса Мараўскага «Гісторыя літоўскага рабочага руху (1893–1902)». — С. 175.

32 Маор, И. Сионистское движение в России... — С. 55.

Сацыял-дэмакратычны рух у Літоўска-Беларускім краі з рэгіянальнага і габрэйскага перарастаў у агульнарасійскі. Добра вядома, што асноўная роля ў скліканні і арганізацыі І з'езда РСДРП у Мінску (1898 г.) належала Бунду. Верныя ідэям інтэрнацыяналізму, дзеячы гэтай партыі пераканалі дэлегатаў з'езда замяніць у назве партыі слова «руская» на слова «расійская»[33]. Гэтаму папярэднічаў бунт мінскіх габрэяў у 1897 г. Пры спробе салдат зладзіць у горадзе падчас Вялікадня пагром, габрэі здолелі абараніць сябе. Гэта была першая ў Расіі акцыя самаабароны габрэйскага насельніцтва. Цалкам зразумела, што абаронцаў абвінавацілі ў нападзе на салдат, але дзякуючы прафесійнай абароне ў судзе для арыштаваных усё скончылася штрафам у 20 рублёў.[34] Так што выбар Мінска ў якасці месца для правядзення І з'езда РСДРП быў невыпадковым. Добра арганізаваны мясцовы пралетарыят быў у стане абараніць дэпутатаў з'езда.

У той жа час габрэі Беларусі далучаліся і да польскіх сацыял-дэмакратаў. У Польскай партыі сацыялістычнай (далей — ППС), якая дзейнічала на Віленшчыне і Гродзеншчыне, ствараліся габрэйскія секцыі для працы сярод габрэйскага насельніцтва[35].

## АД АГІТАЦЫІ І ПРАПАГАНДЫ ДА ТЭРОРУ. 1898–1904 ГГ.

Вядучай палітычнай партыяй у сацыял-дэмакратычным руху на беларускіх землях непазбежна станавіўся Бунд. Ён абапіраўся на габрэйскіх рабочых, якія складалі пераважную большасць рабочага класа Беларусі. На долю беларусаў прыходзілася ўсяго 9%[36].

У 1901–1902 гг. пад уплывам сіяністскага руху Бунд скарэктаваў сваю праграму: прызнаў габрэяў за нацыю і высунуў лозунг барацьбы за права габрэйскага народа на нацыянальна-культурную аўтаномію ў межах імперыі[37]. Але тэарэтыкі Бунда не прымалі ідэю перасялення габрэяў у Палесціну. Яны сцвярджалі, што радзіма габрэяў там, дзе яны жывуць, а таму там яны і павінны змагацца за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы[38]. Сіяністы таксама пад уплывам бундаўцаў

---

33 Махновец-Акимов, Вл. Первый съезд Российской С.-Д.Р. Партии // Минувшие годы. — 1908. — № 2, февраль. — С. 128–168.

34 Минский процесс: Дело о сопротивлении евр. скопищ воен. патрулям: [Крат. Очерк судеб. следствия]; Шмаков, А.С. Речь… — М., 1899.

35 Piłsudski J., Bibuła, s. 10–17 (Падпольная друкарня ў камуністычнай Польшчы; без года і месца выдання).

36 Біч, М.В. Нацыянальны склад прамысловага пралетарыяту Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. // Весці АН БССР. — 1972. — № 4. — С. 32–40.

37 Бен-Симуэль, Д. Письма к еврейской молодежи. Письмо одиннадцатое // Еврейская жизнь. — 1906. — № 1, январь. — С. 66–77.

38 Лондан, Арье Бунд. — Рэжым доступу: http://berkovich-zametki.com/Nomer23/London1.htm

пачалі паступова прызнаваць неабходнасць барацьбы за паляпшэнне эканамічных умоў жыцця габрэяў у дыяспары. Аб гэтым гаворка ішла на II з'ездзе сіяністаў у Мінску (1902 г.)[39]. Тым не менш, дзеячы Бунда і сіяністы заставаліся непрымірымымі ворагамі, хоць і адны, і другія змагаліся супраць расійскага самаўладдзя.

Мяркуючы па матэрыялах VI з'езда Бунда (канец 1905 г.), гэта партыя заўсёды ўсведамляла важнасць дзейнасці сярод хрысціян (пралетарыяту, сялян, салдат). Вопыт гэтай дзейнасці паказаў, што найбольшы поспех забяспечваўся толькі шляхам стварэння асобных хрысціянскіх арганізацый для кіраўніцтва барацьбой хрысціянаў. Таму V канферэнцыя Бунда (1902 г.) рэкамендавала партыйцам садзейнічаць стварэнню такіх арганізацый і дапамагаць ім літаратурай, тэхнікай і людзьмі. Створаныя Бундам негабрэйскія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі, у тым ліку і арганізацыі РСДРП, працавалі пад яго кіраўніцтвам да 1903–1904 гг., калі расійскія партыі ўзмацніліся і пачалі аддзяляцца[40].

Паказальным прыкладам з'яўляецца дзейнасць Бунда ў Гомелі. З 1902 г. у чыгуначных майстэрнях горада працавала сацыял-дэмакратычная група на чале з Іванам Мохавым, які ўваходзіў у склад Гомельскага камітэта Бунда разам з Лейбам Дрогунскім, Фрэйдай Коган, Неўхамам Рахмілевічам і інш. У 1904 г. на аснове гэтай групы быў створаны Палескі камітэт РСДРП[41].

У 1903 г. у Гомелі паўстала арганізацыя Расійскай партыі эсэраў, падпарадкаваная кіеўскаму цэнтру. Яе склад быў інтэрнацыянальным, а кіраўніком выступаў габрэй Ізраіль Готгелеф. Гомельскія эсэры вялі прапаганду як сярод габрэяў, так і сярод беларусаў у вёсках[42].

Як прыкмеціў у сваіх успамінах гомельскі сіяніцкі дзеяч Ш. Шнейфаль, Гомель меў вялікі ўплыў не толькі на габрэйскую, але і на беларускую моладзь, якая шукала новых шляхоў; у Гомелі яна «габрэізавалася»[43].

Там, дзе хрысціянскія арганізацыі стварыць не ўдавалася, арганізацыі Бунда кіравалі эканамічнай барацьбой хрысціянскага пралетарыя-

39 Членов, Е.В. Эволюция политического сионизма и задачи текущего момента. Речь на III Всероссийском сионистском съезде в Гельсинфорсе. // Еврейская жизнь. — 1906. — № 11–12, ноябрь-декабрь. — С. 191–192.
40 Бунд в Беларуси. 1897–1921: Документы и материалы. — Минск, 1997. — С. 204, 216. Гл. таксама: Бич, М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг. — Минск, 1973.
41 Бунд в Беларуси... — С. 113–116. — Данясенне штаб-ротмістра асобнага корпуса жандараў начальніку Магілёўскага губернскага жандарскага ўпраўлення 1 кастрычніка 1903 г.
42 Бунд в Беларуси… — С. 117.
43 Шнейфаль, Ш. К. Параллели. Осиротелый город // Еврейская неделя. — 1917. — № 5, 29 января.

ту і вялі сярод яго палітычную агітацыю і прапаганду[44]. У справаздачы II з’езду РСДРП (1903 г.) дэлегаты Бунда адзначалі працу сярод «хрысціян»: друкаванне ўлётак на рускай мове, сумесныя дэманстрацыі і стачкі[45]. Акрамя Гомеля, актыўную працу сярод негабрэяў арганізацыі Бунда вялі ў Магілёве, Віцебску, Бабруйску, Пінску, Гродне і іншых гарадах Беларусі.

Напачатку XX ст. узрастаў страйкавы рух. У Гродне арганізацыя Бунда кіравала страйкам пекараў (габрэяў і хрысціян) і страйкам на цагляных заводах, дзе працавалі выключна хрысціяне (200 чал.)[46]. Дамовіцца аб сумесным выступе габрэйскім і беларускім рабочым было няпроста. Так, гаспадары гарбарных прадпрыемстваў мястэчка Копысь Магілёўскай губерні плацілі вясной 1903 г. беларускім рабочым трохі больш, чым габрэйскім, імкнучыся ўнесці ў іх шэрагі разлад[47]. У бундаўцаў усё ж атрымоўвалася кансалідаваць працоўных розных нацыянальнасцяў. У 1902 г. страйкавалі 1200 габрэйскіх і беларускіх гарбароў г. Смаргоні. У лютым 1903 г. габрэйскія булачнікі разам з беларускімі абвясцілі забастоўку ў Гомелі, запатрабаваўшы платы грашыма замест гаспадарскіх прадуктаў харчавання[48].

Як вынікае са звестак памочніка начальніка Магілёўскага губернскага жандарскага ўпраўлення 1903 г., Гомельскі камітэт Бунда ўлічваў той факт, што дэманстрацыі ў гарадах павінны суправаджацца выступленнямі сялян у вёсцы, бо гэта можа забяспечыць поспех патрабаванняў і аслабіць сілы паліцыі і войска[49]. З дапамогай раскіданай па беларускай зямлі сістэмы мястэчак габрэйскія рэвалюцыйныя ўплывы пранікалі ў самую гушчу сялянскіх масаў. Так, у 1904 г. жыхары в. Беляў, што каля Жыткавічаў, пад уплывам агітацыі бундаўскіх баевікоў пачалі высякаць абшарніцкі лес[50].

Кішынёўскі (красавік 1903 г.) і гомельскі (верасень 1903 г.) пагромы выклікалі ў габрэйскай супольнасці вялікі страх і непрыязнасць да рэвалюцыянераў, якія пачалі ёю ўспрымацца як правакатары антысемітызму. Габрэйскія ж рэвалюцыянеры адказалі на пагромы стварэннем падпольных гераічных атрадаў самаабароны. У гомельскім, а потым і ў

44 Бунд в Беларуси... — С. 204, 216. — З даклада М.С. Гурэвіча на VI з’ездзе Бунда.
45 Бунд. Документы и материалы. 1894–1921. — М., 2010. — С. 345, 347, 350.
46 Бунд в Беларуси… — С. 217. — З даклада М. С. Гурэвіча на VI з’ездзе Бунда.
47 «Последние известия». — 1903. — № 116, 7 апреля.
48 Тамсама. — 1903.— № 108, 19 февраля; № 115, 2 апреля 1903 г.
49 Бунд в Беларуси… — С. 72–74.
50 Смиловицкий, Л. Евреи в Турове: история местечка Мозырского Полесья. — Иерусалим, 2008. — С. 207, 211–212.

іншых пагромах некаторыя беларусы абаранялі габрэяў[51]. У м. Талачын Магілёўскай губерні беларусы разам з габрэямі ўдзельнічалі ў дэманстрацыі пратэсту і крычалі: «Далоў габрэйскія пагромы!»[52]

Другім адказам габрэйскіх рэвалюцыянераў на пагромы быў тэрор. Хоць V з'езд Бунда (чэрвень 1903 г.) і адмовіўся ад тэрору[53], ён ажыццяўляўся па ўласнай ініцыятыве асобных рэвалюцыянераў. У Бабруйску быў забіты гомельскі правакатар Любін[54]. У верасні 1903 г. у в. Смятанка, што каля мястэчка Копысь, рабочыя кафлянага завода забілі ўрадніка Янушкевіча, які супрацьдзейнічаў сходкам, што ладзіліся чальцамі Бунда. Па загадзе магілёўскага губернатара Клінгенберга габрэйскіх і беларускіх рабочых публічна высеклі розгамі. Гэта дало новы штуршок для росту тэрарыстычных настрояў. Нават беларускі рабочы з сялян Іван Бяляй пагражаў забіць Клінгенберга па прыкладзе Гіршы Лекерта, які ажыццявіў у 1902 г. паспяховы тэрарыстычны акт супраць віленскага губернатара Віктара фон Валя за падобную расправу над віленскімі рабочымі[55]. Першая група анархістаў у Расійскай імперыі была створана габрэямі Беластока вясной 1903 г. Яна разгарнула ў горадзе ў 1903–1904 гг. шырокую тэрарыстычную дзейнасць[56]. Актыўна ўдзельнічалі габрэі і ў тэрарыстычных акцыях расійскай партыі эсэраў.

Створаная ў пачатку XX ст. Беларуская сацыялістычная Грамада — першая беларуская палітычная партыя — абвясціла ў сваёй праграме роўныя правы для ўсіх народнасцяў, якія жылі на беларускай зямлі. Непасрэднага ўплыву габрэйскай сацыял-дэмакратыі на яе стварэнне не выяўлена. Тым не менш, на пачатку XX ст., напярэдадні рэвалюцыі, з усіх палітычных партый уплыў Бунда на беларускіх рабочых і сялян быў самым вялікім. У шэрагах гэтай партыі налічвалася не менш за 30 тысяч чалавек[57]. А калі ўлічыць, што габрэі ўваходзілі ў склад расійскіх партый РСДРП і эсэраў, то вядучая роля габрэйскіх рэвалюцыянераў у Беларусі стане яшчэ больш відавочнай. Іх рэвалюцыйны рух не быў бы такім магутным, калі б ён не падтрымліваўся беларускім насельніцтвам. Антаганізм паміж багатымі габрэямі і беднымі беларусамі яшчэ

---

51 Карасев, А., Глушаков, Ю. Черная сотня и революционное движение в Гомеле накануне и в период первой российской революции: история противостояния. // Проблемы славяноведения. Сборник научных статей и материалов. — Вып. 3. — Брянск, 2001. — С. 179.
52 Бунд в Беларуси… — С. 217. — З дакладу М.С. Гурэвіча на VI з'ездзе Бунда.
53 Тамсама. — С. 95–99.
54 Тамсама. — С. 90.
55 Бунд в Беларуси... — С. 108–111. — Дакладная запіска паліцэйскага наглядчыка Санкт-Пецярбургскага ахоўнага аддзялення начальніку Магілёўскага ГЖУ. 20 верасня 1903.
56 Гончарок, М. Век воли. Русский анархизм и евреи (XIX–XX вв.). — Иерусалим, 1996. — С. 13–15.
57 Бунд в Беларуси... — С. 7.

моцна не выяўляўся. Магчымасці для ўзбагачэння габрэяў у так званым Паўночна-Заходнім краі былі меншыя, чым на поўдні Расіі.

Пасля кішынёўскага і гомельскага пагромаў масавыя пратэсты ў рысе аселасці перараcraсталі ў рэвалюцыю. Вялікая роля належала габрэям і ў рэвалюцыйным руху ўсёй Расіі. У 1884–1890 гг. яны складалі прыкладна 13,6% агульнай колькасці палітычных зняволеных Расіі, у той час як іх доля ў складзе насельніцтва краіны — усяго 4%. У 1897 г. ужо чвэрць палітычных вязняў імперыі прыходзілася на габрэяў[58]. Пад'ём рэвалюцыйнага руху прымусіў царскі ўрад увязацца ў вайну з Японіяй і ўзмацніць нацкоўванне хрысціян на габрэяў, каб утрымліваць сітуацыю пад сваім кантролем.

Адначасова ўлады ішлі на саступкі: з 1903 г., хоць і скупа, але пашыралі рысу аселасці, дазволілі габрэям жыць у некаторых новых паселішчах, далі магчымасць друкаваць кнігі і перыядычныя выданні на нацыянальных мовах (1904), дазволілі ладзіць грамадскія абмеркаванні мясцовых праблем. Магілёўскі губернатар выдаў летам 1904 г. абавязковую пастанову, каб у Магілёве і Гомелі, дзе назіраўся моцны рэвалюцыйны рух, рамеснікі працавалі не больш за 10 гадзінаў[59].

Арганізацыйна-прапагандысцкая дзейнасць Бунда ў канцы XIX — пачатку XX стст., безумоўна, спрычынілася да змяншэння эканамічнага прыгнёту на беларускіх працоўных, выклікала цікавасць беларускага сялянства да палітыкі. У 1901–1904 гг. сялянскі рух у Беларусі ўзрастаў. За гэты перыяд адбылося 52 палітычныя сходы з удзелам сялян, што складала 15,5% агульнай колькасці іх выступаў супраць памешчыкаў і ўладаў за чатыры гады[60].

Традыцыі лібералізму ў Беларусі былі вынішчаны. Любыя пратэсты жорстка душыліся. Земства як легальны орган выяўлення грамадскай думкі адсутнічала, а гарадское ўпраўленне не прэзентавала ўсіх слаёў грамадства. Петыцыйная кампанія пачала праяўляцца толькі ў снежні 1904 г.[61]

## ВЫСНОВЫ

Саслоўныя перажыткі, абвостраны сацыяльны антаганізм і нацыянальная раз'яднанасць выключалі фармаванне ў Беларусі, як і ва ўсёй

58 Этингер, Ш. Россия и евреи... — С. 266.
59 Бунд в Беларуси… — С.135–136. — Пракламацыя Гомельскага камітэта Бунда. Ліпень 1904 г.
60 Шабуня, К. І., Шыбека, З. В., Сялянскі рух у 1901–1904 гг. // Гісторыя сялянства Беларусі. — Т. 2. — Мінск, 2002. — С. 286–297. Падлікі аўтара.
61 Тамсама. — С. 285–288, Даклад аб дзейнасці Бунда з верасня 1904 па чэрвень 1907 г. II Інтэрнацыяналу.

царскай Расіі, грамадзянскай супольнасці. Грамадскасць знаходзілася ў пастаянным пошуку альтэрнатывы. У 1880-я гады ў барацьбе за свабоды ў царскай Расіі вядучая роля перайшла ад шляхты польскай культуры да габрэйскай інтэлігенцыі. І адны, і другія аддавалі перавагу радыкальным формам барацьбы. Шляхта арыентавалася ў першай палове XIX ст. на паўстанні, габрэйская інтэлігенцыя на мяжы XIX і XX стст. — на сацыяльную рэвалюцыю, часам нават і тэрор.

Калі ў шляхты галоўным лозунгам барацьбы была свабода, то ў габрэйскай інтэлігенцыі — роўнасць. Пратэст з адной крайнасці перайшоў у іншую. Моцнае збядненне габрэяў і беларусаў зрабіла іх сацыяльныя інтарэсы больш прыярытэтнымі ў параўнанні з нацыянальнымі. У гэтай сітуацыі Бунду з яго лозунгамі сацыяльнай роўнасці і добрымі інтэлектуальнымі рэсурсамі ўдалося заняць сярод сацыял-дэмакратычных партый вядучае месца і разгарнуць даволі значную дзейнасць не толькі сярод габрэйскага, але і сярод беларускага насельніцтва. У савецкай беларускай гістарыяграфіі заслугі Бунда прыпісваліся РСДРП, а рэвалюцыйны рух габрэйскага пралетарыяту хаваўся за тэрмінамі «рабочы рух Беларусі», «рэвалюцыйная барацьба рабочага класа Беларусі» і г.д.

Удзел беларусаў у рэвалюцыйнай барацьбе канца XIX — пачатку XX стст. быў даволі сціплым. Беларускія сяляне не вылучаліся такой масавай рэвалюцыйнасцю, як габрэйскія гараджане. Царызм ставіў беларусаў вышэй габрэяў. І ім было цяжка зразумець, што сацыялісты-габрэі з'яўляюцца іх сябрамі і змагаюцца за іх інтарэсы. А ўласна беларускіх агітатараў БСГ было нікчэмна мала.

Падворнае сялянскае землеўладанне ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях (а не «*общинное*», як у цэнтральнай Расіі), прызвычаіла вяскоўцаў з павагай ставіцца да прыватнай уласнасці. І беларускім сялянам было цяжка зразумець сэнс аграрнага тэрору (знішчэнне памешчыкаў і іх маёмасці), да чаго іх заклікалі рэвалюцыянеры.

Габрэйскія рэвалюцыянеры працавалі на расійскую ідэю дэмакратызацыі адзінай Расіі шляхам пралетарскай рэвалюцыі і ўключалі ў яе рэалізацыю беларускае насельніцтва. Магчымасць нацыянальнага саюза прыгнечаных народаў Расіі супраць царызму цалкам ігнаравалася. Існавала глыбокая вера ў сілу салідарнасці з расійскім пралетарыятам. Але набліжалася рэвалюцыя, і яна давала шанец выпрабаваць эфектыўнасць тактыкі пралетарскага інтэрнацыяналізму.

# Абуджаныя Слуцкім збройным чынам

**УЛАДЗІМІР ЛЯХОЎСКІ,** Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт

Тэзісы пра еднасць бальшавіцкай партыі і народа, пра адсутнасць масавага супраціву савецкай уладзе ў Беларусі абвяргаюцца шматлікімі архіўнымі дакументамі і сведчаннямі відавочцаў. Але ў бальшыні выпадкаў гэтыя настроі праяўляліся ў пасіўнай форме, бо ва ўмовах таталітарнага рэжыму адкрыты масавы супраціў у СССР быў рэдкі. Усе спробы палітычнай апазіцыі хутка выяўляліся і жорстка падаўляліся, панаваў негалосны палітычны кантроль. Тым не менш, у гэты час частка маладзёвых актывістаў адкрыта адкідваюць палітычную практыку бальшавізму і выказваюцца за адкрыты супраціў дыктатуры. Найбольш красамоўна іх погляды выказалі т. зв. «лістападаўцы». Расправа маскоўскіх бальшавікоў над удзельнікамі Слуцкага збройнага чыну 1920 г. не спыніла нацыянальна-вызвольны рух на Случчыне. Неўзабаве тут паўстае новая падпольная арганізацыя, якую стварылі маладыя нацыяналісты — былыя навучэнцы настаўніцкіх курсаў.

Для слуцкага аддзелу ГПУ было поўнаю нечаканасцю з’яўленне ў жніўні 1925 г. у вёсках Селішча, Дарасіно, Еўлічы, Пагост улётак з антыбальшавіцкімі і антырасійскімі заклікамі. У адной з адозваў было напісана: «*Сяляне, Браты родныя! Зноў нас заціснулі паны і бальшавікі. Дзяруць вялікія падаткі і шмат іншага… Даволі стагнаць! Давайце збудуем сваю ўладу, Дзяржаву Беларусь! Народ, паўстань!*» Праз паўтара месяца, з дапамогай сваёй агентуры, ГПУ ўдалося выйсці на след антыбальшавіцкай арганізацыі. Гэта былі маладыя настаўнікі і навучэнцы са Случчыны: Нічыпар Мяцельскі, Міхась Макарэня, браты Рыгор і Мікалай Казакі, Міхась Дземідовіч і інш. Падчас навучання на

Слуцкіх агульнаадукацыйных настаўніцкіх курсах яны складалі ядро гуртка беларусазнаўства, якім кіраваў выкладчык беларускай мовы і літаратуры, былы слуцкі паўстанец Юрка Лістапад[1].

У кастрычніку 1925 г. усе яны былі арыштаваныя, на іх кватэрах праведзеныператрусы. Падчасператрусу быў знойдзены рукапісны часопіс «Наша слова», які стане потым галоўным абвінаваўчым аргументам на судзе. Следчы звярнуў увагу таксама на фатакартку Якуба Коласа з дарчым подпісам, якую Лістапад захоўваў як добрую памятку пра супольную педагагічную працу з паэтам, калі той быў на настаўніцкіх курсах у Слуцку ў 1923 г. Гэты факт і прыцягнуў найбольшую ўвагу кіраўніцтва ГПУ БССР. Кіраўнік ГПУ ў Беларусі Іосіф Апанскі паставіў задачу скарыстацца сітуацыяй і адным ударам расправіцца таксама і з нацыянал-камуністамі, што намагаліся разгарнуць у рэспубліцы палітыку беларусізацыі. Яму мроіўся гучны судовы працэс над лідарамі беларускага нацыянальна-культурнага руху. 24 кастрычніка 1925 г. ён падпісвае ордэр на ператрус у кватэры Якуба Коласа[2]. Праз дзень на допыце ў ГПУ напалоханы паэт заявіць, што ні ў якіх палітычных арганізацыях пры савецкай уладзе не ўдзельнічаў і не ўдзельнічае, што зараз цікавіцца толькі сучасным побытам беларускіх працоўных мас для напісання новых літаратурных твораў.

Рэалізаваць задуманае Апанскаму перашкодзіла вышэйшае кіраўніцтва ў Маскве. Там палічылі гэтую акцыю несвоечасовай і не адпавядаючай тагачаснай палітычнай сітуацыі. Яшчэ не была да канца расколатая антысавецкая апазіцыя за кардонам, яшчэ заяўляла пра сябе беларуская эміграцыя, існавала нонканфармісцкая апазіцыя ўнутры бальшавіцкай партыі. Трэба было працягваць імітацыю падтрымкі палітыкі беларусізацыі, прэзентуючы Мінск адзіным цэнтрам культурнага і дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Арганізацыя шырокамаштабнага судзілішча над беларускімі патрыётамі магла парушыць далёкасяжныя планы маскоўскага кіраўніцтва. Крэмль яшчэ спрабуе дэманстраваць прыязнасць да нацыянальных рухаў на абшарах былой Расійскай імперыі. Над «групай Лістапада» вырашана было правесці непрацяглы паказальны судовы працэс і паказаць абвінавачаных як банду кулацкіх сынкоў, якія рыхтавалі ўзброенае паўстанне з мэтаю зрынуць савецкую ўладу і ўсталяваць уладу кулакоў і абшарнікаў.

1 Са следчай справы, што захоўваецца ў Архіве Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.
2 Тамсама.

Слуцкі збройны чын 1920 г. сапраўды падтрымалі заможныя сялянскія гаспадары, выступіўшыя супраць бальшавіцкіх «харчразвёрстак» і мабілізацыі ў Чырвоную Армію. А кім жа былі папраўдзе гэтыя маладыя актывісты, што ўступілі ў няроўнае змаганне з пануючым рэжымам? Бацькі Міхася Дземідовіча мелі 5 дзесяцін зямлі на 12 едакоў (працаздольныя былі толькі бацька і старэйшая сястра). Падчас допыту ў ГПУ Міхась скажа:

*«Савецкая ўлада не звяртае ўвагі на беднату. З курсаў звольнілі за нявыплату грошай за навучанне... Супраць волі сціскаецца сэрца, калі бачыць увесь здзек з сялян. Калі ж, Беларусь, пабачыш ты ўдзячнасць за сваю цяжкую працу?.. Вочы нашы адкрыліся, туман пачаў рассейвацца. Мы ўрэшты ўбачылі ўсю праўду… Мы скінем гэтае ярмо…»*[3].

Браты Рыгор і Мікалай Казакі паходзілі з сям'і віленскага паштовага чыноўніка. Сям'я Казакоў была небагатая: на 4 чалавекі прыходзілася 4 дзесяціны пясчанай зямлі і вельмі вялікі падатак. Захапленне хлапчукоў родным словам, як ні крыўдна, бацькі не падзялялі. *«Зышлі са сцежкі роднай, блукаючы на чужацкай невядомай дарозе»*, — з горыччу пісалі юнакі. Затое паразуменне знайшлі сярод сваіх аднакласнікаў. Мікола Казак бачыў, што на курсах, дзе яны навучаліся, мала сялянскіх дзяцей, галоўным чынам дзеці «спекулянтаў і лавачнікаў»[4]. У 19-гадовага Міхася Макарэні былі свае важкія прычыны выступіць з пратэстам супраць бальшавіцкай улады, бо разумеў, што савецкія адказныя працаўнікі не лічыліся з інтарэсамі бедных сялян. Адзін з такіх пабіў маці. У сям'і за нявыплату падаткаў у 1924 г. праз суд спагналі ў два разы больш. У дзённіку ён запісаў: *«Цяпер становіцца ясным, што ніякага раўнапраўя няма. Не скінуўшы савецкай улады, не будзе раўнапраўя»*[5]. З незаможнай сям'і вёскі Апудзевічы Грэскай воласці Слуцкага павету паходзіў і фактычны лідар таемнага гуртка Нічыпар Мяцельскі (Н. Смутны).

За кароткі час існавання гуртка яго актывістамі была выпрацавана ідэйная праграма, якая грунтавалася на наступных прынцыпах:

1) Дасягненне Беларуссю рэальнай палітычнай самастойнасці; правядзенне свабодных выбараў; шырокая дэмакратызацыя грамадскага жыцця (*«Нацыянальная незалежнасць, і толькі яна, можа падняць эканамічнае і культурнае становішча краю і народу. Для гэтага*

3 Тамсама.
4 Тамсама.
5 Тамсама.

*мы павінны пераканаць нашага селяніна, што ён можа збудаваць лепшае жыццё, злучыўшыся ў нацыянальную адзінку…». «Уся наша праца павінна праходзіць пад лозунгам «За свабоду!» Свабода слову і друку, свабода веравызнання… Кучка align="left"рознага зброду адабрала ў народа галоўнае — волю…»*)[6].

2) Скасаванне Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. і далучэнне да Беларускай Рэспублікі ўсёй беларускай этнаграфічнай прасторы («*Нас сілком падзялілі. Адну частку Беларусі душаць польскія паны, а другую — маскоўскія бальшавікі. Далоў ашуканцаў! Далоў паноў-камуністых! Мы хочам быць самі над сабою панамі!.. Няхай жыве Вольная Беларусь!*»[7]).
3) Правядзенне шырокай беларусізацыі ўсіх сфер дзяржаўнага і грамадска-культурнага жыцця Беларусі (*«Толькі з дапамогай сваёй мовы народ можа ўзняцца»*[8]).

Палітычную праграму «лістападаўцаў» можна ахарактарызаваць як яшчэ вельмі сырую, рамантычную і таму маларэалістычную. Яны не ўяўлялі ўсіх цяжкасцяў і перашкодаў на сваім шляху, не ўсведамлялі да канца ўсю інертнасць і палітычную пасіўнасць беларускага селяніна. Прычын гэтаму некалькі, адзначым, бадай, галоўную — слабая нацыянальная свядомасць грамадства і яго схільнасць да розных формаў калабарацыі. Ідэя беларускай дзяржаўнасці не стала для беларускіх сялян кансалідуючым фактарам, які б паслужыў іх палітычнаму згуртаванню. Гэта прызнаваў і Н. Мяцельскі: *«Марыць аб захопе ўлады сялянамі… вельмі небяспечна… Гэта толькі мара. Сялянскі рух вельмі слабы… Нам прыйдзецца шмат працаваць…»*[9]. У тых варунках «лістападаўцы» таксама не бачылі магчымасці стварэння паміж сялянствам і прамысловымі работнікамі адзінага палітычнага фронту. Не ў апошнюю чаргу гэта было звязана з асаблівасцямі нацыянальнага і сацыяльнага складу гарадскога жыхарства. Габрэйскае мяшчанства, якое складала асноўны кантынгент насельнікаў беларускіх гарадоў і мястэчак, у першыя гады савецкай улады было захопленае камунізмам. У той час, калі беларускае сялянства стагнала ад высокіх падаткаў і злоўжыванняў улады, сацыяльнае, палітычнае і матэрыяльнае становішча дробных гандляроў і рамеснікаў палепшылася ў гады т. зв. новай эканамічнай

6 З рукапіснага часопіса «лістападаўцаў» «Наша слова», што захоўваецца ў Архіве Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.
7 Тамсама.
8 Тамсама.
9 Тамсама.

палітыкі. Бальшавізм вызваляў апошніх ад ранейшага нацыянальнага прыніжэння, уздымаў іх сацыяльны статус. Для спрытнай габрэйскай моладзі, якая вырвалася з ранейшага кансерватыўнага іудзейскага асяродку і атрымала адукацыю ў казённых рускамоўных школах, пры новай уладзе адкрываўся шырокі шлях для кар'ернага росту. Сацыяльна-псіхалагічная стомленасць насельніцтва Беларусі ад мінулых ваенных наступстваў — не апошні фактар, які тлумачыць прычыну пераважна пасіўнай формы непрыняцця бальшавіцкай улады. Жыхарства прагнула не вайны, а хоць нейкай стабільнасці. У агульнай сваёй масе беларус так і застаўся з разяўленым ротам, нават не агучыўшы ўслых свайго пратэсту.

Каб зварушыць сітуацыю, «лістападаўцы» таксама разлічвалі на знешні фактар: непазбежнае ваеннае супрацьстаянне бальшавіцкага рэжыму з «заходняй дэмакратыяй».

*«Калі пачнецца вайна,* — адзначаў у сваім дзённіку Н. Мяцельскі, — *яна, безумоўна, застане нас далёка не падрыхтаванымі да ажыццяўлення нашых думак аб пабудове Беларускай дзяржавы… Неабходна будзе выкарыстаць усе элементы незадаволеных савецкай уладай, арганізаваць іх»*[10].

А да гэтага часу актывісты гуртка планавалі заняцца выпрацоўкай палітычнай ідэалогіі, падрыхтоўкай «арганізаванай сілы», складаннем тактыкі дзеянняў. *«Першы абавязак,* — лічыў Мяцельскі, — *гэта «звярнуць увагу на самога сябе, выхаваць сябе ў пэўным напрамку, пашырыць свой маральны светапогляд… Трэба пераканаць селяніна ў патрэбнасці арганізавання, трэба будзіць думку аб вялікай карысці ўзаемнай дапамогі як матэрыяльнай, так і духовай»*[11].

Працэс над «лістападаўцамі» адбыўся з 5 па 16 сакавіка 1926 г. у Доме працаўнікоў асветы БССР. Уваход быў па білетах, разасланых акруговым судом у грамадскія арганізацыі і ўстановы. Публіка была падабраная загадзя. Як паведамляла газета «Звезда» (тады рускамоўная) ад 7 сакавіка, зала была перапоўненая. Перад суддзямі па чарзе ўставалі і давалі паказанні абвінавачаныя. Прысутных уразіла маладосць падсудных. *«Обвиняемый [Мікола] Казак*,— паведамляў карэспандэнт «Звезды»,— *на вид наивный неоперившийся юнец, на устах его всё время улыбка»*[12].

10 Тамсама.
11 Тамсама.
12 В зале суда // Звезда. — 1926. — 7 марта.

Судом з самага пачатку быў узяты абвінаваўчы кірунак. Прэзумпцыя невінаватасці ніколі не была ўласцівая савецкім судам. Штораз з «высокай трыбуны» на адрас арыштаваных сыпалася: «*Авантурнікі, кулацкія сынкі, белагвардзейцы…»*[13]. Дзяржаўным абвінаваўцам падсудных быў ніхто іншы, як Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), беларускі бальшавік і паэт:

*«Таварышы суддзі! Я прайшоў загартоўку рэвалюцыйнай барацьбой. Таму для мяне зусім відавочнай з'яўляецца белагвардзейска-кулацкая сутнасць лістападаўшчыны. Як вядома, сам Лістапад адыграў значную ролю ў дапамозе чыннасці паўстанцаў, мэтай якіх было не дапусціць у Случчыну Чырвонай Арміі і Савецкай улады, стварыўшы праз паўстанне г. зв. «вольную незалежную Беларусь». Змест улётак змоўшчыкаў і іх часопісу «Наша слова» я знаходжу контррэвалюцыйным і пагромным…»*[14].

Нагадаем, што ў 1935 г. Жылуновіч сам будзе абвінавачаны ворагам той улады, якую ён бараніў у 1926 г.

Не даказаўшы віны Лістапада, акруговы суд тым не менш прысудзіў яму найбольшы тэрмін зняволення — 5 гадоў. Мяцельскаму, Макарэню і Дземідовічу прысудзілі па 3 гады турмы. Мікалаю Казаку далі 3 гады ўмоўна і вызвалілі з-пад варты. Улада прадбачліва няжорстка пакарала «контррэвалюцыянераў». Ішоў яшчэ 1926-ы, а не 1930-ы. На знак негалоснай падтрымкі падсудных каля Дому працаўнікоў асветы падчас працэсу сабраўся вялікі натоўп моладзі, сярод якіх было відаць шмат навучэнцаў Мінскага беларускага педтэхнікуму, студэнтаў БДУ. Прысутныя на працэсе прадстаўнікі беларускай нацыянальнай эліты адмыслова апрануліся ў нацыянальныя строі… У 1927 г., з нагоды 10-й гадавіны Кастрычніцкага перавароту, «лістападаўцы» будуць амніставаныя[15].

Які ж далейшы лёс «лістападаўцаў»? Юрка Лістапад будзе паўторна арыштаваны ў 1934 г. і пазней расстраляны. Мікола Казак трагічна загіне недзе адразу пасля вайны. Яго брат, Рыгор, летам 1944 г. апынецца ў Нямеччыне, а ў 1950-я гг. перабярэцца ў ЗША. Ужо як вядомы паэт Рыгор Крушына выдасць некалькі сваіх паэтычных зборнікаў. Памрэ ў сваёй пасцелі ў 1979 г.[16]

---

13 Тамсама.
14 Тамсама.
15 Са следчай справы, што захоўваецца ў Архіве Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.
16 Крушына, Р. *Выбраныя творы*. — Мінск, 2005.

Ускосна Рыгор Казак дапаможа выявіць савецкім спецслужбам Н. Мяцельскага. 25 сакавіка 1943 г. у «Беларускай газэце» быў надрукаваны яго артыкул «З мінулых дзён. Судовы працэс над Лістападам». У ім распавядалася гісторыя суда над «лістападаўцамі» 1926 г. Прозвішчы герояў падзеяў былі пададзены сапраўдныя[17]. Артыкул зацікавіў савецкіх дыверсантаў, што займаліся «адстрэлам» найбольш актыўных прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага актыву. Неўзабаве партызаны атрымалі звесткі, што Мяцельскі пражывае ў вёсцы Ціцва Рудзенскага раёна. 6 красавіка 1943 г. Мяцельскі будзе схоплены чырвонымі дыверсантамі і, паводле пастановы начальніка асобага аддзелу Мінскай партызанскай брыгады, расстраляны. Лёс іншых «лістападаўцаў» не высветлены[18].

17 Крушына, Р. *З мінулых дзён. Судовы працэс над Лістападам* // «Беларуская газета». — 1943. — 25 сакавіка.
18 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 833, спр. 241, арк. 73. Звесткі прадстаўлены Галінай Кнацько.

# Бунтоўныя настроі беларускага насельніцтва ў міжваеннай Польскай Рэспубліцы
## (на прыкладзе вёскі і гміны Круговічы)

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,** Беларускі інстытут правазнаўства

У выніку сацыяльных катаклізмаў 1914–1921 гг. вёска Вялікія Круговічы апынулася па заходні бок савецка-польскай мяжы і стала цэнтрам самай паўночнай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяводства. У склад Круговіцкай гміны, напрыклад, уваходзіла каля 80 населеных пунктаў. Недзе тады ж, паводле польскага перапісу 1921 г., вёска мела 116 двароў і 667 жыхароў: 645 беларусаў, 14 палякаў і 4 габрэі. З іх большасць (623) належалі да праваслаўнай канфесіі, 39 да каталіцкай, жылі таксама чатыры іудзеі[1].

1 *Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej,* t. VIII. Województwo poleskie, Warszawa 1924, s. 38–39.

У дадзеным артыкуле аўтар не імкнуўся стварыць панараму грамадска-палітычных працэсаў у сельскай мясцовасці Заходняй Беларусі. Ставіцца на мэце паказаць, якім чынам сацыяльна-палітычныя працэсы адбіваліся на лёсе жывога чалавека. Акцэнт робіцца на тых падзеях і момантах, якія разыходзіліся з навязанай уладамі нормай і траплялі на ўлік органаў правапарадку. Паколькі ў Заходняй Беларусі польскія ўлады найбольш баяліся праяў бальшавізму, то менавіта супраць яго скіравана асноўная ўвага дакументацыі, узятай у аснову гэтай работы.

## АРГАНІЗАВАНАЯ БАРАЦЬБА: ПАРТЫЗАНСКАЯ І ПАДПОЛЬНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Масква не жадала мірыцца са стратай Заходняй Беларусі і ніколі не пакідала планаў вярнуць яе. Таму ледзь не адразу пасля заключэння мірнага дагавора Крэмль стаў інспіраваць разгортванне партызанскай барацьбы супраць польскай улады, пік чаго прыпаў на 1924 г. У круговіцкім наваколлі дзейнічалі савецкія баевікі на чале з Кірылам Арлоўскім (псеўданімы — Аршынаў, Муха-Міхальскі ці проста Муха) і Станіславам Ваўпшасавым. Яны праяўлялі там высокую актыўнасць, якой спрыялі густыя лясы і топкія балоты. Так, 19 мая 1922 г. адбыўся напад на пастарунак у Дзяніскавічах. 6 лютага 1924 г. каля 50 дыверсантаў здзейснілі напад на маёнтак «Агарэвічы» Круговіцкай гміны і ў выніку захапілі 10 коней, 5 вазоў, збрую. Абапіраючыся на архіўныя крыніцы, кніга «Памяць» па Ганцавіцкім раёне падае звесткі і пра іншыя акцыі, падкрэсліваючы, што жыхары вёсак Круговіцкай гміны актыўна дапамагалі савецкім дыверсантам[2].

Калі падобныя дзеянні выкрываліся польскімі сілавікамі і ўдзельнікі арыштоўваліся, то іх часцей за ўсё чакала пакаранне смерцю. Так, за напад на надлясніцтва Хомінка (суседняя гміна Заастравечча) 26 сакавіка 1925 г., у выніку якога ўчынена 5 забойстваў, былі прыгавораныя да расстрэлу і ў хуткім часе пакараныя ў Лунінцы 2 чалавекі, адзін з якіх — жыхар Круговіцкай гміны, лактышовец Давід Мышкавец. Варта заўважыць, што ў дакуменце не паведамляецца пра палітычную мэту таго нападу, але гаворыцца, што бандыты абрабавалі ўстанову, а значыць, кіраваліся прагай матэрыяльнай нажывы. Таксама адзначым, што нападаўшых было больш — каля 10 чалавек. Але іншых чамусьці

2 *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Ганцавіцкага р-на.* — Мінск, 1999. — С. 108–114.

не знайшлі[3]. Гэта наводзіць на думку, што астатнія маглі не быць мясцовымі, бо сваіх землякоў польская экспазітура выкрывала даволі спраўна.

Галоўнымі аб'ектамі партызанскіх нападаў з'яўляліся сядзібы памешчыкаў, паліцэйскія пастарункі і вельмі часта — пункты лясной аховы, якая таксама з'яўлялася апірышчам улады. Але не грэбавалі і крамамі. У такім падыходзе праяўляецца сінкрэтызм мэтаў партызанскай чыннасці, калі сацыяльна-палітычная барацьба спалучалася з рабаўніцтвам.

Аднак перабольшваць маштабы ўцягнення мясцовага насельніцтва ў партызанскую барацьбу не варта. У вачах беларускага селяніна камуністычныя партызаны не выглядалі барацьбітамі за яго долю, як нам часта кажуць гісторыкі, бо, наадварот, выклікалі неспакой, адрывалі ад мірнай працы. Канчатковай мэты дзеянні бандытаў (у асноўным менавіта так іх разглядала ўлада, а следам за яе прапагандай і мясцовае насельніцтва) не дасягнулі: паспаліты люд стаміўся ад шматгадовых ваенных дзеянняў і зусім не імкнуўся ў лясы, каб не правакаваць эскалацыю напружання. Што праўда, як сведчаць факты, некаторыя «заходнікі», у тым ліку жыхары Круговіцкай гміны, тым не менш, прымалі ўдзел ва ўзброенай барацьбе.

Не засталіся ў баку і кругаўцы. Адзін з іх пад распаўсюджаным для вёскі прозвішчам Лелес. Ён узначальваў цэлую арганізацыю, дзейнасць якой апісвае ў дакладзе, датаваным 18 кастрычніка 1928 г., Малачынскі, які выконваў абавязкі палескага ваяводы. Яе чальцы здабывалі інфармацыю пра польскія войскі на Палессі, вялі бальшавіцкую прапаганду, прычынялі шкоду вайсковым часткам і да т. п.[4]. З дакумента зразумела, што падпольная дзейнасць групы базіравалася на бальшавіцкіх поглядах. Аднак, як абавязкова трэба заўважыць, рабілася гэта за грашовае ўзнагароджанне. Значыць, падпольшчыкі кіраваліся не толькі ідэйнасцю, існавала матэрыяльнае стымуляванне іх дзеянняў супраць дзяржаўнага ладу міжваеннай польскай дзяржавы.

Удзельнікі падобнай дзейнасці, скіраванай супраць улады Польскай Рэспублікі, польскімі дакументамі маркіруюцца як бандыты. Гэта не дзіўна: любая ўлада схільная менавіта ў такім святле ацэньваць сваіх праціўнікаў, тым больш тых, якія пераступілі мяжу закону. Разам з тым з гэтых самых крыніц вынікае, што названыя «бандыта-

3 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/7, k. 110.
4 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/17, k.190–191.

мі» дзеячы былі ідэйна і практычна заангажаваныя ў камуністычны рух, а значыць, яны былі не проста бандытамі ці крымінальнікамі, а найперш палітычнымі ворагамі. У якой жа ступені актывісты антыдзяржаўнай дзейнасці кіраваліся ідэйнымі меркаваннямі або матэрыяльным узнагароджаннем, прасачыць немагчыма. Відавочна, што ў кожным прыватным выпадку прапорцыі паміж мэтавымі кампанентамі будуць адрозныя.

## УСПРЫМАННЕ ІДЭЙ БАЛЬШАВІЗМУ І ВЫЯЎЛЕННЕ ІХ У НАСТРОЯХ

Пра прапагандысцкую дзейнасць Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў Круговіцкай гміне звестак знаходзілася няшмат. Яшчэ ў часе свайго першага заняцця «крэсаў усходніх» (май 1920 г.) польскія ўлады канстатавалі, што беларускае насельніцтва (і ў прыватнасці ў Круговіцкай гміне) знаходзіцца пад значным уплывам бальшавіцкіх агітатараў і эсэраў[5]. Разам з тым, паводле іншага, але датаванага тым самым месяцам рапарта па гэтай жа мясцовасці, палітычная сітуацыя разглядаецца не так адназначна, а ў некаторых момантах нават самакрытычна: мясцовае насельніцтва баялася трапіць «пад маскоўскае ярмо». Але і сімпатыя да польскай улады змяншалася з прычыны палітыкі на месцы саміх палякаў (перадусім у аграрным сектары, у справах кіравання, абкладання падаткамі-рэквізіцыямі)[6]. З дакументаў бачна, што іх аўтары — прадстаўнікі польскай улады — усведамлялі адчужанасць мясцовага насельніцтва ад іх і ў сваіх нарацыях не міналі рысаў акупацыйнасці, якія прысутнічалі ва ўстаноўленым імі рэжыме (рапарты рыхтаваліся для ўнутранага карыстання і таму маюць высокую ступень аб’ектыўнасці).

Не змянялася кардынальна сітуацыя і ў далейшым. У часы сусветнага крызісу (1929–1933 гг.), які істотна пагоршыў матэрыяльнае становішча палескіх сялян, іх настрой характарызаваўся як прыгнечаны. Толькі ў некаторых выпадках палешукі ўлагоджваліся праз павятовыя камітэты сацыяльнай дапамогі[7]. Эканамічныя цяжкасці, паланізатарская палітыка сталі адным з фактараў прыхільнасці вяскоўцаў да пракамуністычных поглядаў. У гэтым аспекце польскія крыніцы 1935 г. вылучаюць тэрыторыю Круговіцкай гміны на фоне ўсяго павета. Справаздача паліцыі 1937 г. адзначае гміну Круговічы як «*ognisko*

5 *O niepodległą i granice. Raporty Straży Kresowej 1919–1920 Ziem Północno-Wschodnich opisane.* Warszawa–Pułtusk 2011, s. 973–976.
6 *Тамсама*. — s. 1056–1057.
7 AAN, Zespół «Urząd wojewodzki Polesie (Brześć)», sygnatura 976/17, k. 25, 47.

*котипу*», кажучы да таго ж пра шматлікія кантакты з СССР[8]. Але ў цэлым, калі меркаваць па дакументацыі праваахоўных сіл, сітуацыя была цалкам падкантрольнай. Так, выбары (пэўна, дакумент мае на ўвазе выбары ў польскі сейм 1935 г.) прайшлі спакойна, галасавала 73 % (гэта не многа, але і не мала ў параўнанні з іншымі паветамі)[9]. Палітычна-прававое становішча «заходнікаў» не было светлым, але прынамсі лепшым, чым у таталітарным Савецкім Саюзе, пра што сведчыць хаця б правядзенне разнастайных выбараў з наяўнасцю альтэрнатыўці — як мінімум — магчымасцю галасаваць або не.

Нейкіх значных учынкаў у распаўсюджанні камуністычнай ідэалогіі разгледжаныя дакументы паліцыі па Круговіцкай гміне не фіксуюць. Аднак нават эмацыянальна абумоўленыя словы, якія мелі антыдзяржаўны змест, улада брала на ўлік. Як, напрыклад, дастаткова побытавы выпадак — сварка паміж Марыяй Гофман і Марыяй Арловай, жыхаркамі в. Круговічы, якая ўзнікла 27 верасня 1936 г. М. Арлова ў прыступе гневу выказалася на адрас М. Гофман: *«Ты польская свіння, увесь край абышлі, а ўрэшце прыйшлі сюды на жыраванне, праз вас, польскія свінні, не маем хлеба, усюды сядзіце па ўжондах і размяркоўваецеся па нашым краі, а нашы нідзе не маюць быць. Скора вас халера возьме, будзеце поўзаць па саломе рыламі, калі бальшавікі сюды прыйдуць і паразбіваюць вам ілбы»*[10]. Ці таксама падчас праверкі служачым круговіцкага пастарунка Генрыкам Лукоўскім у хаце Паўла Крыцкага, жыхара вёскі Лактышы, жонка падазраванага Тодара Крыцкага ў адрас паліцэйскага сказала: *«Здзіўляецца, што мужыкі крадуць, калі і паны крадуць, гэта мужыкі ад паноў навучыліся»*[11].

Камуністычныя ўплывы ў Круговіцкай гміне не ішлі ні ў якое параўнанне са становішчам, напрыклад, у суседнім Івацэвіцкім павеце таго ж Палескага ваяводства. Але ў настроях насельніцтва гміны, якія нярэдка можна было характарызаваць як стыхійныя эмоцыі, польская ўлада бачыла прыхільнасць да бальшавіцкіх ідэй. Падазраваных у камуністычнай дзейнасці паліцыя затрымлівала.

Камуністычныя структуры падтрымлівалі сваіх пакараных актывістаў, а таксама іх сем'і. Так, як сведчаць «Дзённыя справаздачы злачыннасці», толькі на працягу 1936 г. польская асветніца, пісьменніца і арганізатарка дапамогі палітычным вязням Стэфанія Сэмпалоўская

8 AAN, Zespół «Komenda wojewodzka policji państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/2, k. 11–12.
9 AAN, Zespół «Komenda wojewodzka policji państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/2, k. 64.
10 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/14, k. 361.
11 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/15, k. 382.

(1870–1944) шмат разоў дасылала з Варшавы грашовую дапамогу (15–25 злотых) сем'ям палітычных вязняў ці дзеячам, якія пакінулі зняволенне. Такія былі і ў Круговіцкай гміне (Купайчык Марыя з Вялікіх Круговіч, Леймас Хаім з Ганцавіч, ажно тры жонкі вязняў у Крышылавічах і інш.)[12].

Пракамуністычныя настроі ўзраслі ў 1939 г. Загаварылі пра блізкую вайну. Звесткі прыходзілі да вяскоўцаў самыя супярэчлівыя, што, у сваю чаргу, спараджала дыяметральна супрацьлеглыя размовы, якія часам (у залежнасці, думаецца, ад іх падазронасці) браліся паліцыяй пад увагу і канстатаваліся. У якасці прыкладу можна прывесці наступныя выпадкі:

«*15 красавіка падчас грамадскага сходу ў вёсцы Еськавічы, які праводзіўся па рэкамендацыі войта Круговіцкай гміны пад кіраўніцтвам загадчыка ўсеагульнай школы ў вёсцы Дзяніскавічы, Філімон Карпеня з вёскі Еськавічы некалькі разоў выкрыкнуў: «Не даць пазычкі, бо ўрад ведае толькі, як лупіць за каровы, а для паляпшэнні быту людзей нічога не робіць». Камендант Дзяніскавіцкага пастарунка праводзіць следства…*

(…)

*24 красавіка Ганцавіцкім пастарункам быў затрыманы Аляксандр Мелехавец з вёскі Ганцавічы, які некалькі дзён распаўсюджваў слых сярод насельніцтва… што Польшча бяспраўна акупавала частку краю на ўсход ад Буга, і Расія 1 мая гэтыя тэрыторыі адбярэ*»[13].

Дзеля справядлівасці трэба дадаць, што паліцэйскія дакументы на тэрыторыі Круговіцкай гміны фіксуюць не толькі пракамуністычную прапаганду, але і іншыя палітычныя захады, якія выходзілі за рамкі дзяржаўнай палітыкі. Да такіх адносіліся ў першую чаргу дзеі габрэйскага руху, які праяўляў актыўнасць у асяродку амаль паўтысячнай ганцаўскай супольнасці жыдоў. Паводле назіранняў паліцыі, габрэйскія актывісты кіраваліся ідэямі сіянізму, уздымалі тэму дыскрымінацыі габрэяў, і нават праводзілі практычныя, фаховыя і вайсковыя вучэнні на выпадак самаабароны, робячы гэта ў складзе пажарных камандаў[14]. На ўлік паліцыі бралася нават прапаганда польскіх нацыяналістаў[15].

12 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/13, k. 97–98, 160–161, 260, 357, 473; sygnatura 2018/14, k. 163, 246, 478, 576.
13 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/11, k. 200-201.
14 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/14, k. 308; sygnatura 2018/15, k. 653.
15 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/14, k. 43.

## ЛАКАЛЬНЫЯ АКЦЫІ

Стасункі з уладай у жыхароў вёсак не заўсёды былі гладкімі. Але сур'ёзную непаслухмянасць сяляне адкрыта праяўлялі рэдка. Тым не менш, здаралася і такое. Іншым разам даходзіла нават да рукапрыкладства. У паліцэйскай дакументацыі апісаны выпадак 1936 г., калі солтыс грамады вёскі Шашкі прыйшоў да Піліпа Радзюка, жыхара гэтай жа вёскі, каб той даў падводу з нагоды патрэбы прывезці з Ганцавіч чальцоў «класіфікацыйнай камісіі» (яе прызначэнне намі не ўстаноўлена), але атрымаў адмову і ўдар у твар[16]. Наступны выпадак мае яшчэ большую палітычную важкасць. 10 чэрвеня 1938 г. Аляксандр Зялёнка, жыхар вёскі Малыя Круговічы, падчас выконваемай на сядзібе рэвізіі аказаў супраціў паліцэйскаму Кашкавяку[17].

Некаторыя «заходнікі» спрабавалі паспытаць сацыялістычнага шчасця. У Дзяніскавічах, напрыклад, 18 сакавіка 1925 г. паліцыя арыштавала пяцёра чалавек — Васіля Акулу, Сцяпана Новіка, Іллю Новіка, Максіма Савеню, Васіля Кішку — на падставе падазрэння аб пераправе праз дзяржаўную мяжу ў Савецкі Саюз трох сямей[18]. Нягледзячы на тое, што ахова савецка-польскай мяжы ўзмацнялася, нелегальныя ўцёкі працягваліся і ў 1930-х гг. Уцякалі на савецкі бок, як правіла, маладыя хлопцы. Старэйшае пакаленне памятала бальшавікоў з часоў савецка-польскай вайны і не сфармавала тады да іх сімпатыі.

## ВЫСНОВЫ

Варта адзначыць, што, нягледзячы на паланізатарскую палітыку, жыхары гэтага заходнебеларускага кутка праявілі даволі ўстойлівую нацыянальную і канфесійную свядомасць: у адрозненне ад многіх рэгіёнаў Палесся, дзе ў насельніцтва адставала фармаванне этнатоеснасці, і яны сябе называлі «тутэйшымі» (у дыялектных варыянтах «тубыльцы», тубыльныкы»), кругаўцы і жыхары ўсёй гміны трывала трымаліся праваслаўя і беларускай ідэнтыфікацыі. Неабходна акцэнтаваць увагу на тым, што тэрыторыя Круговіцкай гміны належыць да сярэднебеларускай культурнай паласы, мяжуючы з тыповым Палессем, да якога нярэдка, між іншым, той абшар адносяць.

Калі паводле архіўных дакументаў параўноўваць сацыяльную актыўнасць кругаўцоў са становішчам у іншых мясцовасцях Заходняй

16 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/14, k. 331.
17 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/9, k. 423.
18 AAN, Zespół «Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu», sygnatura 2018/7, k. 48.

Беларусі, то трэба адзначыць адносную палітычную лаяльнасць нашых землякоў да польскай улады або, прынамсі, цярпімасць яе. Тэндэнцыі да масавых апазіцыйных настрояў, а тым больш сілавога супраціву, не назіралася. Аднак дакументацыя паліцыі зафіксавала нямала выпадкаў, якія расцэньваліся мясцовай адміністрацыяй як рознага кшталту супрацьдзеянне ўладзе. Таму і цалкам спакойнай і беспраблемнай сітуацыю ў наваколлі Круговіч таксама не назавеш.

# Акадэмічная дыскусія сярэдзіны 1960-х гадоў у Беларусі:
## паміж свабодай творчасці і палітычным даносам

**Алег ДЗЯРНОВІЧ,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі

Грамадскае жыццё савецкай Беларусі ў сярэдзіне 1960-х гадоў было адзначанае нечуванаю раней публічнай гістарыяграфічнай дыскусіяй. Апроч іншага, некаторыя сімвалічныя для сучаснасці імёны таксама актуалізаваліся падчас тых падзеяў.



**Іл. 1.** Аляксандр Коршунаў — аўтар кнігі пра Апанаса Філіповіча

Непасрэдным імпульсам для дыскусіі стаў выхад у свет працы гісторыка старажытнай беларускай літаратуры і тэкстолага Аляксандра Коршунава[1] (1924–1991) пра праваслаўнага пісьменніка-палеміста і царкоўнага дзеяча першай паловы XVII ст. Апанаса Філіповіча (каля 1595–1648)[2]. Але непасрэднае

1 Падрабязней пра жыццё і здабыткі гэтага даследчыка можна даведацца: Батвіннік, М. Б. *Даследчык беларускай старажытнай літаратуры* // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. — 1992. — № 3–4. — С. 96–105; Кароткі, У. *«З зычливости к моей отчизне…»* // Шляхам гадоў: Гіст.-літ. зб. — Мінск, 1994. — С. 6–10; Ліўшыц, У. *«Ён лёгка адчуваў сябе сярод стагоддзяў».* // Раскопкі вакол горацкага Парнаса. Літаратуразнаўчыя нарысы. — Горкі, 2001. — С. 179–183; Чамярыцкі, В. Пачынальнік. // Роднае слова. — 2004. — № 3. — С. 24–26.

2 Коршунов А., *Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество.* — Минск, 1965.

ўзнікненне палемікі звязанае з імем аўтара рэцэнзіі на гэтую кнігу, беларускага літаратуразнаўца Міколы Прашковіча (1932–1983).

## ПАЧАТАК: РЭЦЭНЗІЯ ПРАШКОВІЧА

Сам Прашковіч быў даволі каларытнай фігурай[3]. Як спецыяліст па старажытнабеларускай літаратуры, ён працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, у 1965 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па раннім перыядзе творчасці Сімяона Полацкага. Такім чынам, ён бы мог рэалізоўвацца ў прафесійнай сферы. Але, як адзначаюць усе, хто яго ведаў, Прашковіч меў тэмперамент, які было цяжка замкнуць у акадэмічным асяроддзі. Так, рэцэнзія на акадэмічную працу Коршунава атрымалася ў Прашковіча[4] палемічна завостранай, яна падважвала афіцыйныя погляды ды атрымала шырокі грамадскі рэзананс у Беларусі.



**Іл. 2.** Мікола Прашковіч, рэцэнзія якога на кнігу А. Коршунава справакавала акадэмічную дыскусію сярэдзіны 1960-х гадоў

Увогуле, Прашковіч даволі высока ацаніў даследаванне Коршунава, але досыць з'едліва скрытыкаваў некаторыя гістарычныя стэрэатыпы, якія пашыраліся афіцыйнай прапагандай. Так, тэзіс Коршунава, што, «*(...) маючы на ўвазе інтарэсы сацыяльных нізоў, ён* [Апанас Філіповіч — А. Дз.] *выправіўся ў Маскву шукаць абароны ад каталіцкай агрэсіі і свавольства»*, рэцэнзент акрэсліў як «па меншай меры несур'ёзны». Далей Прашковіч пісаў больш рэзка:

*«Ды і ўсім ходам сваіх разважанняў даследчык сцвярджае, што праваслаўны манах за шпіёнскія звесткі хацеў купіць у праваслаўнага цара матэрыяльную дапамогу для Купяціцкага манастыра* [пад Пінскам, дзе нейкі час Філіповіч жыў]. *І для праваслаўнага манаха, безумоўна, унія была смяртэльным злом: ён хацеў, каб праваслаўны цар памог знішчыць ненавісную яму унію. Што ж да сацыяльнага вызвалення, дык пра гэта не можа быць і гаворкі»*[5].

Увогуле, Прашковіч адзначаў, што *«ў А. Коршунава погляд на ўнію ўстарэлы, аднабаковы». А «мэты ўвядзення ўніі ён прымае за яе канчатковы вынік»*[6].

3 Гл. падрабязней: Чамярыцкі, В. *Прашковіч Мікола.* // Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985. Даведнік. —Т. 1. — Мінск, 2004. — С. 149–152.
4 Прашковіч, М. *Слова пра Афанасія Філіповіча.* // «Полымя». — 1965. — № 12. — С. 174–177.
5 Прашковіч М., *Слова пра Афанасія Філіповіча...* — С. 175.
6 Тамсама. — С. 176.

Тэрміналагічныя пытанні, актуальныя і сёння, таксама прыцягвалі ўвагу Прашковіча. Тут важна зразумець, што дыскусіі вакол семантычнага поля тэрмінаў «Літва» і «літоўскі» — зусім не вынаходніцтва Міколы Ермаловіча і не практыка адно 1980–1990-х. Прыклад з Прашковічам паказвае, што ў акадэмічным асяроддзі гэтыя пытанні ўздымаліся яшчэ ў 1960-х гадах. Вось характэрны тэрміналагічны абзац з працы Прашковіча:

*«Атаясамленне значэння тэрміну «рускі» часоў Кіеўскай Русі з яго сённяшнім значэннем прывяло А. Коршунава таксама да непаразумення. Так, ён сцвярджае, што Кіеўская кафедральная царква св. Сафіі з'яўляецца «гонарам рускага народу». Безумоўна, А. Коршунаў меў на ўвазе ўсіх усходніх славян часоў Кіеўскай Русі. Тады, відаць, яму варта было пра гэта сказаць выразна»*.

## «СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ» РЭАГУЕ

Рэцэнзія Міколы Прашковіча выйшла з друку ў самым канцы 1965 г., а ўжо ў лютым 1966 г. у галоўнай афіцыйнай газеце БССР «Советской Белоруссии» з'явіўся крытычны водгук на гэтую рэцэнзію пад аўтарствам зусім малавядомых аспірантаў Уладзіміра Люкевіча і Якава Трашчанка[7]. Так, гэта менавіта той Якаў Трашчанок (1931–2011), дацэнт Магілёўскага ўніверсітэту, які ў далейшым атрымае значны ўплыў на гістарычную дыдактыку ў Беларусі — пад яго аўтарствам і рэдакцыяй у 2000-х гадах пачнуць актыўна выходзіць універсітэцкія і школьныя падручнікі па гісторыі. Да таго ж, Трашчанок стане актыўным рэцэнзентам іншых падручнікаў і навучальных дапаможнікаў яшчэ на стадыі іх афіцыйнага зацвярджэння. Крытыкі Трашчанка будуць ацэньваць яго як аднаго з найвыразнейшых прадстаўнікоў «дырэктыўнай гістарыяграфіі»[8].

Але тады, у 1966 г., палемічна выказваючы нязгоду з некаторымі тэзамі рэцэнзіі Міколы Прашковіча, а перадусім са станоўчай ацэнкай праекту царкоўнай уніі, названыя рэцэнзенты дазволілі сабе яўнае перабольшванне і гіпертрафіраванне поглядаў Прашковіча. У прыватнасці, яны прыпісалі Прашковічу сцверджанне, што Вялікае Княства Літоўскае было беларуска-ўкраінскай дзяржавай, што не адпавядае тэксту беларускага

7 Люкевич, В., Трещенок, Я. *Истине вопреки* // Советская Белоруссия. — 1966. — 22 февраля. — С. 3.

8 Гл.: Смалянчук, А. *Навошта Лукашэнку Трашчанок?* [Рэц.:], Трещенок, Я. И., История Беларуси, в двух частях. Могилев, 2004–2005. // Arche. — 2006. — № 3. — С. 56–64; Смалянчук, А. *Ад Абэцадарскага да Трашчанка, або Эвалюцыя беларускай «дырэктыўнай гістарыяграфіі»* // Репрессивная политика Советской власти в Беларуси. Сб. науч. работ. — 2007. — № 3; Мацкевіч, Я. *Канцэпцыя а ля Мураўёў: Новае — гэта здабытае на сметніку гісторыі старое* // Новы Час — 2003. — № 2 (7). — 30.01.2003.



**Іл. 3.** Якаў Трашчанок у старэйшым веку

філолага. Але, што важней, гэтыя аўтары дазволілі сабе палітычныя ацэнкі дыскусійнага тэксту:

*«Выдумкі пра тое, вялікае княства літоўскае [*з малых літар у арыгінале — А. Дз.*] было беларускай дзяржавай, што ў гэтай дзяржаве беларускі народ жыў у дастатку, што ўнія была спецыфічнай беларускай рэлігіяй, не арыгінальныя і не новыя. Поўная навуковая няслушнасць і сумнеўны палітычны сэнс іх даўно выкрыты савецкімі гісторыкамі. Таму з'яўленне на старонках «Полымя» гэтых ілжывых сцверджанняў не можа не выклікаць здзіўлення».*

Заканчваўся ж артыкул яшчэ больш рэзка:

*«Мы не лічым, што рэдакцыйная калегія «Полымя» падзяляе «гістарычныя канцэпцыі» М. Прашковіча, але перакананыя, што ёй трэба нагадаць пра абавязкі ўважліва чытаць усе матэрыялы, якія друкуюцца ў часопісе. Не ўласціва грунтоўнаму літаратурна-мастацкаму і грамадска-палітычнаму часопісу прадстаўляць свае старонкі для папулярызацыі поглядаў, якія скажаюць гісторыю беларускага народу і нічога агульнага не маюць з навукай»*[9].

## ДЫСКУСІЯ Ў АКАДЭМІІ НАВУК

Статус вышэйапісанай газетнай публікацыі выклікае пытанні. Гэты вельмі крытычны тэкст быў змешчаны ўсяго толькі пад рубрыкай «Ліст у рэдакцыю». Ці маглі так проста ў тыя часы палемічныя публікацыі невядомых аспірантаў трапіць на старонкі галоўнай газеты БССР? Далейшыя падзеі паказваюць, што гэты ліст быў толькі часткай спланаванай акцыі. Як адзначае гісторык літаратуры Вячаслаў Чамярыцкі, публікацыя Прашковіча выклікала рэзка адмоўную рэакцыю Лаўрэна Абэцэдарскага, які ўважаўся за галоўнага афіцыйнага гісторыка, і ягоных аднадумцаў ды паслужыла падставай для спецыяльнай навуковай дыскусіі ў 1966 г. у Акадэміі Навук па пытаннях беларускай дзяржаўнасці і ацэнцы ролі царкоўна-рэлігійнай уніі ў гісторыі беларускага народа і інш.[10]

Адам Мальдзіс, прыгадваючы атмасферу той дыскусіі, адзначае, што першы раз Прашковіч патрапіў пад «сур'ёзны разбор» у вялікай канферэнц-залі Прэзідыума Акадэміі Навук пасля таго, як надрукаваў у «Полымі» сваю рэцэнзію на кнігу Коршунава. Паводле Мальдзіса, у сваёй

9 Люкевич, В., *Трещенок, Я. Истине вопреки*.
10 Чамярыцкі, В. *Прашковіч Мікола.* // Нонканфармізм у Беларусі… — С. 149.

рэцэнзіі Прашковіч *«крытыкаваў артадаксальнае праваслаўе, асцярожна хваліў уніяцтва, што на той час лічылася вялікай крамолай. (...) Зверху паступіла каманда: разабрацца, асудзіць»*. «Разбіральніцтва» цягнулася цэлых два дні, як сапраўдная міжнародная навуковая канферэнцыя.

Зала была поўная, бо многія хадзілі на такія разборы як на тэатральнае відовішча. Але моладзь падтрымала Прашковіча — хто словам, а хто апладысментамі. Таму кожны з бакоў лічыў сябе і пераможцам, і пераможаным.

Тут будзе цікава адзначыць, што ці не найбольш «ніякавата» пачуваў сябе адзін Коршунаў, бо *«ў рэцэнзіі яго кнігу ўсё ж нібы хвалілі, а тут ад яго запатрабавалі адмежавацца ад рэцэнзента...»*[11]. Але, нягледзячы на аргументаванасць той ці іншай пазіцыі, усё кіраўніцтва — ад Аддзела навукі ЦК КПБ да рэдактараў газет і дырэктараў акадэмічных інстытутаў, — пачалі ставіцца да Прашковіча насцярожана. Той парушыў няпісанае правіла лаяльнасці — справакаваў публічную дыскусію.

Беларускі філосаф Уладзімір Конан у сваіх успамінах дадае іншыя характарыстыкі той дыскусіі. Мы бачым, што не ўся навуковая грамадскасць была гатовая толькі пасіўна ўспрымаць ідэалагічныя ўказанні, а інтрыга, якая раскручвалася, мела неаднабаковую скіраванасць:

*«І вось тады бальшавіцкі ідэолаг Советской Белоруссии Абэцэдарскі трапіў у пастку: згадзіўся ўдзельнічаць у акадэмічнай дыскусіі па гэтай спрэчцы. Хоць нават і мне, тады малавопытнаму малодшаму супрацоўніку, было зразумела, што Абэцэдарскі са сваімі акадэмічнымі паслядоўнікамі апынецца ў ізаляцыі»*.

Паводле Конана, так і атрымалася — адзін за адным выступалі літаратуразнаўцы, гісторыкі, філосафы і, аддаўшы службовую даніну афіцыйнаму атэізму ды марксісцка-ленінскай дыялектыцы, мякка пакрытыкаваўшы Прашковіча за «ўніяфільства» ды палемічныя перабольшанні, «*(...) даволі грунтоўна, хоць і ветліва, раскрытыкавалі абэцэдаршчыну. Лаўрэнцій Сямёнавіч знутры ўвесь кіпеў, але спачатку трымаўся цвёрда, як той Куляшовы «юнак на дапросе», паўтараючы свае вядомыя аргументы і тэзісы»*[12].

Як прыгадвае Конан, недзе ў сярэдзіне дыскусіі выйшаў на трыбуну малады мажны мужчына з адкрытым і спакойным тварам, зусім не падобны на шараговага, вечна прыгорбленага навукоўца з ягонай 83-рублёвай «палучкай».

---

11 Мальдзіс, А. *Асэнсаванні.* // Новы Час. — 2003. — № 9 (14), чэрвень.
12 Конан, У. *Пра Лявона-рыцара ды Лаўрэнція-аглабельніка.* // Народная Воля. — 2008. — № 183–184.



**Іл. 4.** Лявон Баразна — мастак і абаронца гісторыка-культурнай спадчыны



**Іл. 5.** Лаўрэн Абэцэдарскі — адзін з ініцыятараў перанясення дыскусіі вакол тэксту Міколы Прашковіча на трыбуну Акадэміі Навук

*«Я мастак Лявон Баразна*, — адрэкамендаваўся не знаёмы публіцы аратар. — *Я не акадэмічны вучоны, але трохі разбіраюся ў праблеме, аб якой ідзе спрэчка»*. І ў межах афіцыйнай карэктнасці, але без гэтых згодніцкіх «аднак», «тым не менш», «з аднаго боку і з другога боку» паказаў усю антынавуковасць абэцэдаршчыны, пераканаўча давёў слушнасць сцвярджэнняў Прашковіча.

Як бачым, публічныя дыскусіі ў сярэдзіны 1960-х гадоў яшчэ маглі пайсці па непадкантрольным шляху, парушыўшы запланаваны сцэнар асуджэння. У выніку, даволі ўпэўнены ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, Лаўрэн Абэцэдарскі «*(...) узарваўся, здаецца, нешта крычаў, урэшце пагрозліва паківаў на ўсіх пальцам (у перакладзе на афіцыйны «большевистско-энкавэдистский язык» гэты жэст, відаць, азначаў: «Подождите, ядрёна вошь, я вам еще покажу, кто вы такие!») і пакінуў акадэмічны амфітэатр»*.

Можна таксама выказаць здагадку, што менавіта акадэмічная дыскусія 1966 г. паўплывала на фармаванне ўжо досыць вядомай канцэпцыі «летапіснай Літвы» Міколы Ермаловіча. Бо менавіта ў 1968 г. Ермаловіч закончыў працу на кнігай «*Па слядах аднаго міфа*», якая на працягу доўгага часу хадзіла па руках самвыдатам пад канспіратыўнаю назваю «*Сто старонак*»[13] і ўпершыню была легальна апублікаваная толькі ў 1989 г.[14]

## АДКАЗ «ПОЛЫМЯ» І АЛЕКСЮТОВІЧА

Але і рэдакцыя часопіса «Полымя» ў гэтай сітуацыі прэсінгу засталася небезгалосая. Філосаф і гісторык філасофіі Мікола Алексютовіч[15] (1921–1967), скарыстаўшы назву тэксту «Советской Белоруссии», апублікаваў

13 Дзярновіч, А. *Ермаловіч Мікола.* // Нонканфармізм у Беларусі… — С. 81.

14 Ермаловіч, М. І. *Па слядах аднаго міфа.* — Мінск, 1989.

15 Мікола Алексютовіч быў вядомы як спецыяліст па эпосе Адраджэння і XVII ст. у Беларусі, найважнейшыя яго публікацыі: *Скарына, яго дзейнасць і светапогляд.* — Мінск, 1958; *Светапогляд Ф. Скарыны* // 450 год беларускага кнігадрукавання. — Мінск, 1968; *Гуманистические идеи в Белоруссии: Скорина и его последователи* // История философии в СССР. — Т. 1. — М., 1968. Апроч таго, Алексютовіч быў сталым аўтарам часопіса «Полымя»: *З глыбінь стагоддзяў: Беларускі філосаф К. Лышчынскі.* // Полымя. — 1966.— № 1; *Імя яго гучыць у стагоддзях* // Полымя. — 1967. — № 7.

у «Полымі» свой разгорнуты артыкул «*А дзе ж ісціна аб'ектыўная?*»[16]. Ужо на пачатку свайго тэксту аўтар сфармуляваў вузлавыя праблемы, з-за якіх палеміка атрымалася такой гарачай:

«*Адмоўная рэакцыя на рэцэнзію М. Прашковіча мае свае тлумачэнне. Справа ў тым, што і ў наш час ёсць яшчэ катэгорыя людзей, не здольных зразумець, што не ўсе тое, што звязана з дзейнасцю рускіх цароў і праваслаўнай царквы, было прагрэсіўнае. Таму ўсе тое, што пранікала да нас з краін Заходняй Еўропы (і нават славянскай Польшчы) успрымаецца імі як ад нячысціка*».

Далей аўтар узмацняе сваю думку:

*«Адсюль — праклён у адрас усіх каталікоў і дыфірамбы ў адрас праваслаўных дзеячаў, асуджэнні манархаў і феадалаў іншаземных і паклоны рускаму цару і памешчыкам, рэверансы ў бок рускай феадальнай дзяржавы і падазронае стаўленне да Вялікага Княства Літоўскага, якое па сваім этнаграфічным складзе, па сваёй тэрыторыі і культуры было пераважна беларускае».*

Усё, аб чым гаварылася вышэй, падводзіць нас да самага галоўнага пытання, якое ўздымаюць у сваім артыкуле В. Люкевіч і Я. Трашчонак. Гэта пытанне аб дзяржаве. Алексютовіч цытуе Люкевіча і Трашчанка: «*Беларускі народ здабыў дзяржаўнасць толькі дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі»*. Але Алексютовіч выкарыстоўвае гэтую тэзу толькі дзеля таго, каб павесці дыскусію ў іншы кірунак, парушаючы жорстка выбудаваныя схемы Люкевіча і Трашчонка:

«*Калі б аўтары ўдакладнілі: сацыялістычную дзяржаўнасць — не было б поваду для спрэчкі. Але яны крыху раней сцвярджаюць, што «літоўскія феадалы ў XIII стагоддзі ўключылі ў склад сваёй дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — заходнія землі Русі, аслабленыя цяжкай барацьбой супраць мангола-татар і нямецкіх «псоў-рыцараў*».

Але менавіта на гэтых землях, як адзначае Алексютовіч, з XIV ст. пачала фармавацца беларуская народнасць, а *«літоўскія, а затым і польскія магнаты захавалі за мясцовымі феадаламі ўсе іх правы і прывілеі, забяспечыўшы тым самым сабе сацыяльную апору».*

У сувязі з гэтым Алексютовіч ставіць рытарычнае пытанне:

---

16 Алексютовіч, М. *А дзе ж ісціна аб'ектыўная?* // Полымя. — 1996. — № 5. — С. 179–185.

«*Што ж атрымліваецца: існавалі заходнерускія землі, якія вялі барацьбу з чужаземцамі, а дзяржавы не было. Хто ж насяляў гэтыя землі: дзікуны, арганізаваныя ў кланы, роды, ці людзі, якім знаёмы быў ужо дзяржаўны лад? З артыкула У. Люкевіча і Я. Трашчонка відаць, што на гэтых землях гаспадарылі ўжо феадалы, а дзяржавы... усё-такі не было. І вось літоўскія феадалы ўзялі проста так ды ўключылі гэтыя малаабжытыя землі ў склад сваёй дзяржавы. Дзе ж тут логіка?»*

Адну ж фразу з артыкула Міколы Алексютовіча можна лічыць увогуле рэфрэнам да ўсёй той дыскусіі: «*Нельга проста ўзяць і закрэсліць некалькі вякоў гісторыі беларускага народа толькі таму, што ў адпаведны час не было яшчэ этнаграфічнага тэрміну «Беларусь*».

## РУКАПІС З ШУФЛЯДЫ

Дыскусія 1965–1966 гадоў пакінула, як стала вядома праз дваццаць гадоў, яшчэ адзін дакументальны след. Гаворка пойдзе пра тэкст рукапісу, знойдзены ў шуфлядзе працоўнага стала загадчыка сектара гісторыі Беларусі эпохі капіталізму Інстытута гісторыі АН БССР Канстанціна Шабуні (1912–1984) ужо пасля яго смерці. Адзначым адразу, што тэкст напісаны почыркам, які не належаў Шабуні. Тэкст быў напісаны на рускай мове. Аўтар тэксту не вызначаны[17].

З першых радкоў гэтага тэксту асобныя публікацыі Міколы Прашковіча ў «Полымі» былі прадстаўлены як адна цэльная ідэалагічная кампанія:

*«Артыкулам «Старонка даўняй беларускай паэзіі» — «Полымя», 1964 г., № 6 — адчыняецца шэраг выступаў на старонках гэтага часопіса М. Прашковіча (на працягу 1964–1965 гг.)».*

Стваральнік тэксту даводзіць, што, здавалася б, у гэтым уласна літаратуразнаўчым артыкуле, прысвечаным творчасці Сімяона Полацкага, «*з'яўляецца тэндэнцыйны падтэкст, з'яўляецца пэўны погляд на мінулае Беларусі, які аўтар усё больш адкрыта развівае ў сваіх наступных выступленнях*».

Вось і пункты прэтэнзій: *«Прашковіч настойліва падкрэслівае розніцу гістарычнага лёсу Беларусі і Расіі, стварае вобраз Беларусі як неад'емнай часткі Заходняй Еўропы, а беларускай культуры як часткі заходняй культуры, супрацьпастаўляючы яе «закаснелай у праваслаўнай руціне» расійскай культуры».*

17 Чамярыцкі, В. *Рукапіс, знойдзены ў рабочым стале* // Шуфляда. — Т. 2. — 2001. — С. 75.

Апроч таго, Прашковіч прэзентуе С. Полацкага не як беларуска-расійскага культурнага дзеяча, спадчына якога аднолькава належыць абодвум брацкім народам, а як нейкага «культуртрэгера», што нясе святло заходняй культуры маскоўскім варварам[18].

У інтэрпрэтацыі аўтара рукапісу *«нават пераўтварэнні ў Расіі пач. XVIII ст., паводле Прашковіча, — не заканамерныя наступствы развіцця расійскай дзяржавы ў папярэднія стагоддзі, а… вынік асветніцкай дзейнасці С. Полацкага»*. І ў якасці пацвярджэння гэтай тэзы прыводзіцца наступная цытата з Прашковіча:

«*Значэнне Полацкага для Расіі заключаецца не толькі ў яго паэтычнай творчасці. Не меншая яго заслуга і як педагога-выхавацеля Пятра, будучага рускага імператара. Сімяон Полацкі ўзначаліў у Маскве «лацінскую» партыю, якая вяла барацьбу за наданне навуцы «мірскіх» рыс, за збліжэнне Расіі з перадавой у той час Заходняй Еўропай. І не бяда Сімяона Полацкага, што ён не заўсёды выходзіў пераможцам у гэтай барацьбе, бо сілы рэакцыі, якія ўзначальваў патрыярх Іаакім, былі вельмі моцныя. Важна другое. Зерні, кінутыя Сімяонам Полацкім на рускую глебу, не загінулі дарэмна і пазней пры Пятры Першым пачалі прыносіць свой багаты плён*».

Блок, прысвечаны Прашковічу, заканчваецца ў гэтым тэксце характэрнай высновай: *«Спыняцца тут на ўжо добра вядомых артыкулах Прашковіча «Па новаму пра старажытнасць» («Полымя», 1964 г., № 9), «Сцежкамі далёкага мінулага» (1965 г., № 4), «Доктар Францішак Скарына» (1965, № 10), «Слова пра Афанасія Філіповіча» (1965, № 12) неабходнасці няма»*. З гэтых радкоў можна зрабіць выснову, што артыкул «Слова пра Афанасія Філіповіча» стаў ужо як бы труізмам, шырокая дыскусія па ім ужо адбылася. Таму і вышэй цытаваны дакумент можна датаваць канцом 1966 — пачаткам 1967 гг.

Але вось найважнейшая ацэнка, зробленая ў гэтым тэксце:

*«Пачатая Прашковічам у «Полымі», па-сутнасці, кампанія за перагляд у пэўным духу ўсёй канцэпцыі гісторыі БССР была актыўна падтрыманая двума іншымі супрацоўнікамі ін-та літаратуры (у пачатку сваёй дзейнасці яшчэ аспірантамі) А. Яскевічам і, асабліва, В. Чамярыцкім»*.

Такім чынам, выбудоўваецца вобраз змовы беларускай інтэлігенцыі. Фактычна, перад намі — праект даносу[19]. Цяпер робіцца зразумелым,

---

18 *Тамсама*. — С. 77.
19 Дзярновіч, А. *Праект даносу // Шуфляда*. — Т. 2. — 2001. — С. 83.

як паступова збіраўся і складаўся кампрамат, з дапамогай якога праз дзесяць гадоў будзе праведзеная кампанія прэсінгу і звальненняў у Акадэміі Навук БССР у 1974–1975 гадах, што стане вядомай пад назвай «Акадэмічная справа».

Механізмы прыняцця рэпрэсіўных рашэнняў у паслясталінскую эпоху ў СССР яшчэ не да канца асветленыя. Апублікаваныя ўрыўкі дакумента сведчыць пра тое, што ў дачыненні да навукоўцаў у 1960–1970-х гадах патрабаваўся ўжо не проста данос, а рапарт з аргументацыяй. Аўтар тэксту паходзіць, падобна, з філалагічных колаў, які адсочваў усе публікацыі ў беларускім друку. Хоць часам тэкст выглядае бяздоказным, і аўтар хаваецца за простымі схемамі абвінавачвання — «*далеко не смешные тенденции*», «искусно выискивает червоточинку» і г. д.

З іншага боку, тэкст даносу сведчыць, што многія несавецкія тэзы ў гуманістыцы былі ўжо даўно сфармуляваныя і нават уводзіліся ў грамадскі ўжытак праз даступныя тады механізмы трансляцыі інфармацыі. У другой палове 1980-х гадоў адбылося пашырэнне гэтых тэзаў у грамадстве, яны сталі фактамі грамадскай свядомасці.



**Іл. 6.** Канстанцін Шабуня, у шуфлядзе стала якога быў знойдзены рукапіс невядомага аўтарства

Як ужо адзначалася вышэй, паходжанне тэксту пакуль не высветленае. Вячаславу Чамярыцкаму — аднаму з непасрэдных герояў тэксту-кампрамату — яго перадаў Міхась Біч (1937–1999), які ў 1983 г. пераняў кіраўніцтва інстытуцкага сектара ад Шабуні[20]. Сам Канстанцін Шабуня вядомы як даследчык аграрнай гісторыі Беларусі канца XIX — пачатку XX стст. Гэтай тэме і была прысвечаная ягоная манаграфія[21] — у ёй ужытыя стандартныя для таго часу ідэалагічныя клішэ, але багата статыстыкі, кніга вылучаецца даволі стрыманай стылістыкай і пакідае зусім някепскае ўражанне[22]. Чаму рукапіс знаходзіўся ў ягоным стале? Канстанцін Шабуня да пераходу (вяртання) ў Акадэмію Навук на працягу 1948–1956 гадоў працаваў кансультантам, загадчыкам сектарам, намеснікам загадчыка Аддзелу навукі ЦК КПБ. Праўдападобна, паводле службовых абавязкаў Шабуня меў дачыненне

20 Біч, М. *Мой шлях у навуку* // Гістарычны Альманах. — Т. 6. — 2002. — С. 22.

21 Шабуня, К.И. *Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг.* — Минск, 1962.

22 Гл. таксама: Біч, М. *Канстанцін Іванавіч Шабуня (Людзі савецкай навукі)* // Весці АН БССР. — 1973. — № 1; Токць, С. *Савецкая гістарыяграфія беларускага сялянства перыяду Расійскай імперыі*. // Гістарычны Альманах. — Т. 10. — 2004. — С. 49–51; Белазаровіч, В. А. *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: вучэбны дапаможнік*. — Гродна, 2006. — С. 285–286.

да аналізу падобных тэкстаў. Больш на гэтай стадыі даследавання мы не можам нічога сцвярджаць.

## АСАБІСТАЯ ДРАМА

Што ж да гісторыі пагрому «Акадэмічнага асяродка», то яна досыць добра апісана. Цікава, ад тых падзеяў засталіся таксама архіўныя крыніцы ў адкрытых сховішчах[23]. Тут можна толькі крыху больш падрабязна спыніцца на далейшым лёсе Міколы Прашковіча, бо ягоны тэкст апынуўся ў цэнтры дыскусіі ды выклікаў такі розгалас. Вячаслаў Чамярыцкі піша пра тое, што Прашковіч быў даверлівым, адкрытым і залішне эмацыйным чалавекам, якога выкарысталі спецорганы, «пад пільным наглядам якіх знаходзіўся», для дыскрэдытацыі некаторых нацыянальных патрыётаў, фабрыкацыі справы і «выкрыцця» ў 1973–1974 гадах «гнязда беларускіх нацыяналістаў» у Акадэміі Навук БССР («Акадэмічны асяродак»), у выніку чаго разам з ім пацярпела цэлая група беларускіх навукоўцаў, асабліва Алесь Каўрус, Сцяпан Міско, Валянцін Рабкевіч і Міхась Чарняўскі, якія былі звольненыя з працы і доўгі час не маглі нідзе працаўладкавацца па спецыяльнасці. Па абвінавачанні ў беларускім нацыяналізме ў 1974 г. Прашковіч таксама быў звольнены з працы ў Акадэміі Навук. Пэўны час быў беспрацоўным, затым працаваў грузчыкам, карэктарам у часопісе «Родная прырода» і газеце «Вечерний Минск». У 1982 г. па стане здароўя пакінуў працу. Трагічна загінуў у час пажару ў роднай вёсцы[24].

Адам Мальдзіс наступным чынам апісвае асаблівасці характару нашага героя:

«[Прашковіч] — *зямны, сялянскі, даверлівы беларускі максімаліст. Нават вучоба ў аспірантуры ў ленінградскім Пушкінскім доме не пазбавіла Прашковіча сялянскай наіўнасці. Ён мог абы-каму расказваць аб сваёй перапісцы з украінскімі патрыётамі, аб сваіх зборах для іх, звольненых з работы, грошай. Мог абы-каго, абы толькі загаварыў па-беларуску, запрасіць у свой аспіранцкі пакой, а потым у аднапакаёвую кватэру на Куйбышава*».

Прашковіч быў халасцяком, таму збірацца ў яго — у пакоі ці, пазней, у кватэры — было выгодна. У маладых навукоўцаў, пераважна нядаўніх мігрантаў з вёскі, іншай магчымасці сустрэцца па-за працай папросту не было дзе. І вось тады «*часта нехта спецыяльна пачынаў палітычныя*

23 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 447, воп. 4, спр. 2, арк. 81; спр. 6, арк. 52–54 (Выключэнне В. Рабкевіча з КПСС); Ф. 4, воп. 20, спр. 518, арк. 248 (матэрыялы па супрацоўніках АН БССР).

24 Чамярыцкі, В. *Прашковіч Мікола* // Нонканфармізм у Беларусі… — С. 150.

*фантазіі: маўляў, каго мы паставім якім міністрам, калі дарвёмся да ўлады. Большасць з нас успрымала гэта як гульню*». Але для таго часу гэта была досыць рызыкоўная гульня: «*А Прашковіч як гаспадар сядзеў, слухаў, недзе наіўна паддакваў, не разумеючы, што гэта некаму трэба, каб пайсці ўверх. А зверху пачалі ціснуць...*»

Звольнены доўга заставаўся без працы. *«Каб пад'есці, часам прыходзіў да Караткевічаў, да нас. Потым неяк уладкаваўся карэктарам. Загінуў трагічна: закурыў папяросу ў роднай хаце на Бярэзіншчыне, прылёг на ложак і — згарэў...»*[25]

## НАСТУПСТВЫ І ЗАКАНЧЭННЕ ПЕРЫЯДУ

Сумная гісторыя Міколы Прашковіча не проста ілюструе цяжкі выбар навукоўца-гуманітарыя, але паказвае нам таксама, якую вагу мела ў той час друкаванае слова і смела выказаная, нягледзячы на абставіны, думка даследчыка. Падчас дыскусіі сярэдзіны 1960-х гадоў былі выразна агучаныя тыя тэзы беларускай гістарыяграфіі, якія і пазней будуць мішэнню прапагандысцкіх кампаній — асобнасць гісторыі Беларусі, яе адрозненне ад расійскіх і польскіх візій гісторыі; культурная, у тым ліку рэлігійная, самабытнасць Беларусі; важнасць для сацыякультурнай прасторы прысутнасці заходняй (лацінскай) цывілізацыі. Вось ужо больш за стагоддзе гэтыя, па-сутнасці, нейтральныя погляды застаюцца пунктамі-раздражальнікамі для прыхільнікаў заходнерусізму ў яго сучасных прымітывізаваных версіях (адзначым, зрэшты, што стваральнікі заходнерусізму ў сярэдзіне XIX ст. пісалі якраз пра культурную адметнасць краю).

Знешнія праявы той кампаніі дазваляюць нам казаць пра некаторыя схаваныя механізмы публічнага асуджэння. Уяўляецца зусім не выпадковым даволі аператыўнае з'яўленне ў газеце «Советская Белоруссия» (праз паўтара месяцы пасля выхаду ў «Полымі» рэцэнзіі Міколы Прашковіча) ліста малавядомых аспірантаў У. Люкевіча і Я. Трашчанка. Апошні ж быў вучнем Лаўрэна Абэцэдарскага, які вёў рэй у публічных дыскусіях у Акадэміі Навук. Ананімны рукапіс з шуфляды Канстанціна Шабуні сведчыць пра тое, што арганізатары кампаніі не збіраліся зачыняць гэтую дыскусію толькі публічным абмеркаваннем у АН БССР. Далейшыя падзеі толькі пацвярджаюць гэта.

Праз два гады пасля дыскусіі ў Акадэміі Навук, 17–18 ліпеня 1968 г., адбыўся Пленум ЦК КПБ, у першы дзень якога з дакладам «Пра стан і

25 Мальдзіс А., *Асэнсаванні*.

меры паляпшэння масава-палітычнай працы ў рэспубліцы» выступіў сакратар ЦК КПБ Станіслаў Пілатовіч (нарадзіўся ў 1922 г., сакратар ЦК КПБ у 1965–1971)[26]. Складанасць прачытання падобных дакументаў палягае ў тым, што ў іх утрымліваецца вельмі шмат рыторыкі, а фактаў прыводзіцца зусім мала. Вядома, прысутным у партыйнай залі на той момант, калі агучваюцца такія тэксты, багата чаго было зразумела кантэкстуальна. Нам жа, «звычайным людзям» таго часу ці пазнейшым даследчыкам, прыходзіцца склейваць гэтую мазаіку рэальных падзей і наменклатурнай канспірацыі.

Сярод іншага С. Пілатовіч адзначыў, што *«ў спадзяванні расхістаць савецкае грамадства знутры, імперыялісты робяць асаблівую стаўку ў псіхалагічнай вайне на творчых работнікаў»*, менавіта ў гэтае асяроддзе яны спрабуюць *«працягнуць свае канцэпцыі мірнага суіснавання ідэалогій, ...імкнуцца адрадзіць нацыяналізм і пасеяць варожасць паміж народамі СССР»*[27]. Здавалася б, гэта маглі быць традыцыйнымі для аўдыторыі КПСС-КПБ словы, прамоўленыя проста для падтрымання «ідэалагічнага тонусу». Але ўжо падчас абмеркавання дакладу сакратара ЦК КПБ дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР Ніна Каменская (1913–1986, дырэктар у 1965–1969) прапанавала стварыць у найбліжэйшыя гады *«новыя навуковыя і навукова-папулярныя працы, якія будуць выкрываць домыслы буржуазных ілжэнавукоўцаў пра паходжанне беларускага народу, гісторыю яго культуры, пра фармаванне беларускай нацыі»*. Н. Каменская лічыла неабходным *«раскрыць рэакцыйную сутнасць так званых «прац» беларускіх нацыяналістычных пазадкаў («отребья»), што дзейнічаюць на службе ў імперыялістычнай рэакцыі, і буржуазных гісторыкаў па такіх важных пытаннях, як стварэнне Беларускай ССР і яе поспехі ў будаўніцтве камунізму»*[28].

У рамках рэалізацыі гэтай партыйнай праграмы ў 1969 г. з'явілася брашура Лаўрэна Абэцэдарскага «У святле неабвержных фактаў», дзе, паводле аўтара, былі асветленыя «*некаторыя пытанні дасавецкага перыяду гісторыі Беларусі, якія найбольш часта скажаюцца буржуазнымі фальсіфікатарамі*»[29]. Да такіх тэм належалі, паводле Абэцэдарскага, сярод іншага, наступныя: «Хто па сваім паходжанні беларусы?»; «Ці

26 Паводле Майкла Урбана, Станіслаў Пілатовіч уваходзіў у «Партызанскую фракцыю» палітычных груповак БССР. Гл.: Урбан, М. *Беларуская савецкая эліта (1966–1986): алгебра ўлады*. — Вільня, 2010. — С. 176.

27 *Доклад секретаря ЦК КП Белоруссии тов. С. А. Пилотовича «О состоянии и мерах улучшения массово-политической работы в республике»* // Советская Белоруссия — 1968. —18 июля. — С. 2.

28 *Прения по докладу секретаря ЦК КП Белоруссии тов. С. А. Пилотовича «О состоянии и мерах улучшения массово-политической работы в республике»* // Советская Белоруссия. — 1968. — 19 июля. — С. 4.

29 Абэцэдарскі, Л.С. *У святле неабвержных фактаў*. — Мінск, 1969.

існавала ў мінулым беларуская дзяржава?»; «Беларуская народная рэлігія». Гэта быў праграмны тэкст у партыйнай (савецкай) візіі гісторыі Беларусі, менавіта таму яго ў трохі скарочаным выглядзе і ў перакладзе на рускую мову перавыдалі ўжо за часамі гарбачоўскай перабудовы[30], калі востра разгаралася палеміка па гістарычных пытаннях. А ў той час, у 1969–1970 гг., у БССР з'явілася некалькі ўхвальных водгукаў на тэкст Абэцэдарскага[31]. Паказальна, што ў гэтай агітацыйнай кампаніі было ўжо задзейнічанае і «Полымя», якое ў сярэдзіне 1960-х гадоў рэгулярна давала слова Міколу Прашковічу. У 1967 г. з рэдактарства ў гэтым найстарэйшым літаратурным часопісе Беларусі сышоў Максім Танк.

Ні сам Абэцэдарскі, ні яго кліентура ў канцы 1960-х гадоў публічна не звязвалі сваю выкрывальніцкую актыўнасць з публікацыямі Прашковіча і акадэмічнай дыскусіяй 1966 г. Абвінаваўчыя закіды яны скіроўвалі супраць беларускай эміграцыйнай гістарыяграфіі, «Радыё Свабода» і міжнароднага імперыялізму. У 1972 г. Паўла Урбан (1924–2011) у адказ на тэзы Абэцэдарскага апублікаваў цэлую кніжку «У сьвятле гістарычных фактаў»[32], назва якой сімвалічна перагуквалася з назваю-дэвізам брашуры мінскага гісторыка — «У святле неабвержных фактаў». У сваёй працы Урбан ужо звязаў у паслядоўны ланцуг падзей правакацыйны ў сваёй танальнасці тэкст Люкевіча і Трашчанка, даволі асцярожны ўдзел у дыскусіі Алексютовіча, ідэалагізаваную брашуру Абэцэдарскага[33]. Праблема этнагенезу беларусаў актывізавалася таксама праз публікацыі маскоўскага археолага Валянціна Сядова[34]. Але тая палеміка стане прадметам ужо іншага гістарыяграфічнага аналізу[35].

Такія публічныя і, як па мерках БССР, адносна адкрытыя дыскусіі на гістарыяграфічныя тэмы, як тое адбывалася ў сярэдзіне 1960-х, у 1970-х гадах, пасля пагрому ў Акадэміі навук і іншых інтэлектуальных асяродках, ужо не маглі выйсці на старонкі легальных выданняў. Таму актыўна пачаў цыркуляваць самвыдат, які і вызначаў спецыфіку грамадскай актыўнасці наступнага перыяду.

---

30 Абецедарский, Л. С. *В свете неопровержимых фактов* // Дары данайцев. — Минск, 1987. — С. 24–89.
31 Москаленко, В. *Достойная отповедь*. // Советская Белоруссия. — 1967. —12 июля (аўтар водгуку быў пазначаны як намеснік рэдактара часопіса «Народная асвета»); Хазянін, А. *Супроць фальсіфікацыі гісторыі //* Полымя. — 1970. — № 2.— С. 241–242 (аўтар падпісаны як студэнт БДУ).
32 Урбан, П. У сьвятле гістарычных фактаў (У сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага). — Мюнхен — Нью-Ёрк, 1972.
33 Урбан, П. У сьвятле гістарычных фактаў... — С. 10.
34 Седов, В. В. *К происхождению белорусов* // «Советская этнография». — 1967. — № 2. — С. 112–129; Седов, В. В. *Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья*. — М., 1970.
35 Гл. таксама: Грыцкевіч, В. *Гісторыя і міфы*. — Мінск, 2000. — С. 39; Лінднэр Р., *Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX—XX стст*. — СПб. 2003. — С. 446–448; Смалянчук А., *Феномен беларускай савецкай гістарыяграфіі*. // Гістарычны альманах. — Т. 10. — 2004. — С. 11–22.

# Два карнавалы сучаснай Беларусі

**Андрэй РАСІНСКІ,** Беларускі Калегіюм

Адметнасць сучаснай Беларусі — не толькі і не столькі аўтарытарны рэжым, «апошняя дыктатура Еўропы», не толькі і не столькі заблытанасць нацыянальнага і геапалітычнага азначэння беларусаў. Ключавая адметнасць сучаснай Беларусі, на маю думку, — адмысловая «карнавальнасць», якая і абумоўлівае папярэднія адметнасці.

У Беларусі — не на жыццё, а на смерць — змагаюцца два карнавалы.

## 1. КАРНАВАЛ ТЫХ, ХТО НЕ МАЕ ЎЛАДЫ

### 1.1. Карнавал паводле Бахціна

Тэорыю карнавалу і народнай смехавой культуры распрацаваў Міхаіл Бахцін у сваёй дысертацыі, прысвечанай Франсуа Рабле, а пазней і кнізе «Творчасць Франсуа Рабле і народная культура Сярэднявечча і Рэнесансу»[1]. Ягоныя ідэі вельмі ўхвальна ўспрынятыя сусветнай гуманітарнай думкай[2].

Народную смехавую культуру *«...можна падзяліць на тры асноўныя віды форм: 1) абрадава-відовішчныя формы (святы карнавальнага тыпу, розныя вулічныя дзеянні і г.д.); 2) слоўныя смехавыя (у тым ліку парадыйныя) творы рознага роду: вусныя і пісьмовыя (…); 3) розныя*

1 Падрабязнае выданне гэтых працаў з усімі дадаткамі зроблена ў нядаўнім зборы твораў Бахціна: Бахтин, М. М. *Собрание сочинений в семи томах*. — Т. 4(1), 4(2). — Москва, 2008. — 2010.

2 Гл. напр.: Clark K. and l Holquist M., *Mikhail Bakhtin*, Cambridge 1984; Holquist M., *Dialogism: Bakhtin and His World*, Routledge 2002. У Віцебску з 1992 па 2009 выходзіў міжнародны часопіс *«Дыялог. Карнавал. Хранатоп»,* цалкам прысвечаны творчасці і канцэпцыям Бахціна.

*формы і жанры фамільярна-вулічнай мовы (лаянка, бажба, клятва, народныя блазоны і інш.).*

*Усе гэтыя тры віды формаў, што адлюстроўваюць — пры ўсёй іхняй разнароднасці — адзіны смехавы аспект свету, яны цесна ўзаемазвязаныя і шматкроць пераплятаюцца адно з адным»[3].*

*«(…) Карнавальны смех, па-першае, усенародны (…), смяюцца ўсе (…); па-другое, ён універсальны, ён скіраваны на ўсё і на ўсіх (у тым ліку і на саміх удзельнікаў карнавалу), (…) па-трэцяе, гэты смех амбівалентны: ён вясёлы, радасны і — адначасова — кплівы, высмейвальны, ён і адмаўляе, і сцвярджае, і хавае, і адраджае»[4].*

Карнавал — гэта гратэск, парушэнне і разрыванне межаў: разяўленыя раты, вялізныя насы, аграмадныя дупы і цыцкі; гэта фамільярнасць і пераварочванне верху і нізу[5], калі твар становіцца азадкам, азадак — тварам.

Карнавал смяецца і вызваляе; аўтарытарная ўлада да смеху непрыхільная.

### 1.2. Абсмяянне ўлады

На першы погляд выглядае, што з такім карнавалам усё ў Беларусі ў парадку. Адразу па абранні Лукашэнкі аб'явілася здзеклівая паэма «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт» за подпісам Ведзьмака Лысагорскага[6]. Паэма, якая зводзіла прозвішча абранца да непрыстойнай мянушкі, адсылала да пахабных прыгодаў «Луки Мудищева»[7] — і «Сказу пра Лысую гару» Францішка Ведзьмака-Лысагорскага (пад псеўданімам схаваўся Ніл Гілевіч, які ў 2003 годзе раскрыў сваё аўтарства)[8]. Праўда, «Прэзідэнт» не меў ані нахабнасці «Луки Мудищева», ані майстэрства Гілевічаўскага «Сказу». Вядзьмак сумна канстатаваў:

*Над Беларуссяй вецер свішча.*
*Пасохлі бульба і авёс.*

---

3 Бахтин, М. М. *Собрание сочинение…* — т. 4(2). — С. 12.

4 Тамсама. — С. 20–21.

5 Вячаслаў Іванаў назваў гэта інверсіяй двaічных супрацьпастаўленняў: Иванов, Вяч. Вс. *К семиотической теории карнавала как инверсии двоичных противопоставлений* // Учёные записки Тартуского Государственного университета. — 1978. — вып. 411. — С. 45–64. Яго ж: *Из заметок о строении и функциях карнавального образа* // Избранные труды по семиотике и истории культуры. — Т. VI. — Москва, 2009. — С. 123–139.

6 *Лука Мудзішчаў — прэзідэнт* // Народный президент. — Минск, 2006. — С. 5–6. — Рэжым доступу: http://www.optdesign.narod.ru/narodnyj.pdf. — Дата доступу: 22.06.2013.

7 *Лука Мудищев* / Барковиана. Три века поэзии русского эроса. 1991–2013. — Рэжым доступу: http://mai.exler.ru/barkoviana/luka.html — Дата доступу: 22.06.2013.

8 Гілевіч Н., *Сказ пра Лысую гару*. — Мінск, 2003.

*Наш прэзідэнт Лука Мудзішчаў*
*Садзіцца ў чорны членавоз*[9].

Пасаджаны ў «членавоз» герой атрымаў эскорт[10], і яму было дадзена слова (спачатку на жудаснай трасянцы, а потым — пад Пушкіна[11]). Увогуле, кіраўнік Беларусі выклікаў процьму літаратурных алюзій: пра яго складаліся злыя загадкі[12] і саркастычныя калыханкі[13], пад іменем «Беларусьніка» ён насіўся, як Горкаўскі «Буравеснік»[14], і нават так:

*В венчике из белых роз*
*Лукашенко правду нёс.*[15]

Бард Віктар Шалкевіч праспяваў пацешную «Баладу пра таварыша Сапегу»[16], а гурт «Ляпіс Трубяцкой» узяў песню з кінафільму «Прыгоды Бураціна» і, замяніўшы прыпеў «*Бу-ра-ти-но!*» на «*Лу-ка-шен-ко!*», пераўтварыў гаранта Канстытуцыі ў гарэзлівага драўлянага трыксцера.

У прысвечаным Лукашэнку абсмяяльным зборніку «Народный президент» ёсць нават верш «Санча Панса», дзе герой «Дон Кіхота» дакараецца за губернатарскае самаўладдзе[17].

На фоне Лукашэнкіяны — літаратурна-архаічнай[18] — вылучаюцца алегарычныя гісторыі «Пахаджанаў» Васіля Быкава, поўныя мудрага і горкага гратэску[19]. Сярод разнастайных персанажаў зборніку ёсць Вялікі Дэмагог з паралізаваным языком[20] і Таварыш Жах[21], які, каб палепшыць

9 *Лука Мудзішчаў — прэзідэнт…* — С. 8. Тут і надалей, калі ўрывак не перакладзены на беларускую мову дакладчыкам, правапіс згодна арыгіналу.
10 Тамсама. — С. 6–8.
11 «*О, Лукоморье, край зеленый / Тебя бог крепко наказал / Лука Мудищев неученый там безраздельно правит «бал»* (*Луканиада* // Народный президент… — С. 22).
12 Детская загадка-считалочка // Народный президент… — С. 4; Кулік, М. *Загадкі для дарослых…* — Тамсама. — С. 32.
13 Ліслівічанка, К. *Наш вождь…* — Тамсама. — С. 31–32.
14 «*То ён Гітлера ухваліць, то Іосіфа / згадае, ён / крычыць, а людзі чуюць, быццам Ленін на / трыбуне. У гэтым крыку — процьма дуры, / аніводнай / слушнай думкі, але так пераканаўча, што і / сэнсу непатрэбна*». (*Вадзянік Няміскі. Песня пра Беларусьніка* // Народный президент… — С. 39).
15 Гэта ўжо пад Блока («Дванаццаць») і Маякоўскага (*Ел ананасы?* // Народный президент… — С. 30).
16 Шалкевіч, В. *Балада пра таварыша Сапегу…* — Тамсама. — С. 28. Балада звязаная з узгадкай Лукашэнкам «таварыша Сапегі» — так ён назваў канцлера ВКЛ і патомнага шляхціча Льва Сапегу.
17 В. Псэўдонім. Санча Панса // Народный президент… — С. 18–19.
18 Як падкрэслівае Валер Булгакаў, складальнікі эпапеі «*як бы вярнуліся ў пачатак XIX ст., калі літаратура, напісаная неўнармаванаю, насычанай рэгіяналізмамі і русізмамі беларускай моваю, была здольная толькі да бурлеску і пародыі*». (Булгакаў, В. *Загадкі і адгадкі лукашэнкаўшчыны* // ARCHE. — 2004. — №4. — С. 30).
19 Быкаў, В. *Пахаджане*. — Вільня, 1999.
20 Быкаў, В. *Тры словы нямых* // Тамсама. — С. 50–58.
21 Быкаў, В. *Байкі жыцця* // Тамсама. — С. 100–125.

становішча ў краіне, прагне ажаніцца з суседскай прынцэсай — і трапляе ў абдымкі зубастага прынца[22].

Але асноўны маўленчы супрацiў і блізка не меў такой дасканаласці і пачасту зводзіўся да разнастайных лаянак (любоўна сабраных у кнізе «Ідыёт самы настаяшчы»[23]). Лаянкі згубілі сваю карнавальную амбівалентнасць і сталіся аднастайным палітычным лямантам.

Карнавальна-амбівалентны вобраз вывеў Уладзімір Падгол, хаця і ягоны гратэск падпарадкаваны актуальнае прапагандзе. У кнізе «Куля для прэзідэнта»[24] сэксуальна заклапочаная Смерць нарадзіла Шклоўскага ідала[25], прычасала яго касой, пацалавала… і адправіла кіраваць Беларуссю. Шклоўскі ідал заснаваў цэлую «лукавую» дынастыю: ЛукаФЫРКаў, ЛукаСЦЫКаў, ЛукаБЗДЫКаў і ЛукаПШЫКаў. Кніжка была арыштаваная КДБ.

Трагічней склаўся лёс Славаміра Адамовіча, які напісаў верш «Убей президента». Адамовіч прапаноўваў самым гратэскным чынам прыстукнуць неідэнтыфікаваную

*… сволочь, которая*
*так гнусно топорщит усы*
*над нашими всё же просторами,*
*над ликом родимой красы.*
*Чем можешь убей, не раздумывай,*
*возьми автомат иль топор*
*и вскрой эту голову «умную»,*
*и выбрось в клоаку, как сор*[26].

Усхваляваны Лукашэнка скардзіўся на сесіі Савета Рэспублікі: *«Але прабачце мне за такую праўду: дзяржава не можа падтрымліваць антыдзяржаўныя тэндэнцыі і антыдзяржаўныя творы. Вы мяне хоць забіце, не разумею, чаму я як прэзідэнт, кіраўнік дзяржавы, мушу падтрымліваць публікацыю верша, кшталту, «Забі прэзідэнта»? Мы*

---

22 У фільмах жахаў такія звязы, аб'яднаныя нянавісцю, смерцю і мінарытарнай сэксуальнасцю, даволі пашыраныя; іх называюць «queer couples»: Morris Gary. Horror Films [online] / glbtq: An Encyclopedia of Gay, Lesbian, Bisexual, Transgender, and Queer Culture. Chicago, 2002, available at: www.glbtq.com/arts/horror_films.html (accessed 22.06.2013).

23 Ідыёт самы настаяшчы. Творы і экспромты ў розных жанрах. — Менск, Варшава, Масква, 2001.

24 Падгол, У. *Куля для прэзідэнта* // Народный президент… — С. 77–251.

25 Шклоўскі ідал — сапраўдны стод, знойдзены ля Шклова — цяпер у афіцыйных крыніцах сарамліва называецца Шклоўскім бажаством.

26 Цыт. паводле: Адамович, С. *Убей президента* // Выбор. — 2001. — № 30 (123), студзень. — Рэжым доступу: http://www.bielarus.net/vybar/123/adam.htm, дата доступу: 21.06.2013.




**Іл. 1.** Комікс «Навінак»
з фотаўдзелам Лукашэнкі
(№ 4, 28 лютага —12 сакавіка. — С. 8)

*нікога не пасадзілі, нікога не пакаралі. Хаця ў іншых дзяржавах за такія рэчы караюць»*[27].

Славамір Адамовіч быў арыштаваны і адседзеў 10 месяцаў[28].

Пасля «Мультыклубу», дзе галоўны вусаты персанаж грукаў канькамі ў сукенцы Снягуркі, быў вымушаны эміграваць і аніматар Алег Мініч. У 1999 годзе мастак Алесь Пушкін вывез да Адміністрацыі прэзідэнта вазок гною — нізкую субстанцыю ў перфомансе для вярхоў[29].

Рэжысёр Юры Хашчавацкі зняў дакументальную стужку з камедыйным героем — «Звычайным прэзідэнтам». А анархісцкая газета «Навінкі», якая нахабна абсмейвала ўсіх і ўсё, паставіла відэакоміксы «Случай з пацаном» і «Гуд бай, бацька!».

У 1999 годзе ананімныя аўтары за некалькі дзён паміж дзвюма дэманстрацыямі стварылі відэаўлётку «Незвычайны канцэрт», якая запрашала на палітычнае шэсце і народнае прадстаўленне. Ва ўлётцы, сабранай як кліпы беларускіх музыкаў, некаторыя кампазіцыі былі падкрэслена сатырычнымі.

У 2001 выбарным годзе па Мінску бегалі з лыжамі па асфальце небаракі ў масцы лыжніка, за імі ганяліся апранутыя медсястрычкамі маладзіцы, а за «доктаркамі» — міліцыя (уніформа — свая). Падобныя акцыі руху «Зубр» прайшлі і ў іншых гарадох Беларусі[30]. Месцічам раздавалі кандомы з вусатым тварам і подпісам «Нацягні яго!» На дэманстрацыях скандавалі: *«Беларусь — в Европу, Лукашенко — в жопу!»* Атаясамліванне ўладара з нізавой часткай цела мела сталы характар; у 2000-х гадах аўтар гэтага тэксту колькі разоў чуў анекдот пра дупу, якую раней абралі на прэзідэнта[31].




**Іл. 2.** Маладзёны ў вусатых масках бегаюць па асфальце на лыжах («Наша свабода», 27 красавіка 2001, с. 7. «Канчатковы аналіз»)

27 Цыт. паводле: Адамович, С. *Убей президента* // Выбор. — 2001. — № 30 (123), студзень. — Рэжым доступу: http://www.bielarus.net/vybar/123/adam.htm — Дата доступу: 21.06.2013.

28 *Адамович Славомир* // Кто есть кто в Республике Беларусь. — 2007–2009. — Рэжым доступу: www.who.bdg.by/obj.php?&kod=664 — Дата доступу: 21.06.2013.

29 *Алесь Пушкин рассказывает о перфомансе «Навоз для президента»* // Европейское радио для Беларуси. — Рэжым доступу: http://old.euroradio.by/ru/916/reports/35710 — Дата доступу: 21.06.2013.

30 *Канчатковы дыягназ галоўнаму пацыенту* // Наша свабода. — 27.04.2001. — С. 1, 7.

31 Падобны анекдот распавядалі ў Іране пра Ахмадзінеджада.

Кніга Джыма Шарпа «Ад дыктатуры да дэмакратыі», якой карысталіся маладзёвыя актывісты, абапіралася на пэўныя моманты карнавалізацыі[32].

### 1.3. Праблемы карнавальнага супраціву. Смех як падпарадкаванне. «Вы самі ўсё разумееце»

Але карнавал супраціву сцішыўся і амаль знік (што асабліва ўвідавочнілася, калі ў 2004 годзе скасавалі газету «Навінкі»). Гучны смех расцярушыўся. І праблема не толькі ў тым, што адны абсмяяльнікі з'ехалі, а другія апынуліся пад ціскам аўтарытарнай моцы. І не толькі таму смех спыніўся, што быў недастаткова карнавальным: у самім карнавале супраціву закладзеныя пасткі.

Першая пастка: смех паўстае як выпуск пары, каб зменшыць у грамадстве ціск і збаёдаць антыаўтарытарны імпэт.

Другая — яскрава праяўляецца ў папулярнай фразе: «Вы самі ўсё разумееце», якую часта паўтараюць чыноўнікі, калі забараняюць канцэрты непажаданых музыкаў ці збіраюць юнакоў на дэманстрацыі БРСМ.

У прыведзенай фразе можна вылучыць тры кодавыя слаі. Першы — намёк на застрашванне і карніцкі апарат, які ўсё бачыць, усё чуе, — і толькі паспрабуй ухіліцца. Другі слой — «бюракратычнага алібі», калі чыноўнік як чалавек вам і паспачувае, але ёсць інструкцыі і загады, і цяпер, людзі, будзьце самі чыноўнікамі: выконвайце інструкцыі.

Трэці слой, што меўся, як і два папярэдніх, яшчэ за савецкім часам, расквітнеў у сучаснай Беларусі і ўяўляе сабой рэшткі карнавальнага смеху, уплішчанага ў аўтарытарныя калідоры. Фраза: «Вы самі ўсё разумееце» тут азначае: «Мы разумеем, што краінай кіруюць дурні, што загады самыя ідыёцкія, — дык давайце з гэтага ўпотайкі парагочам».

Чалавек цішком смяецца, залічыўшы ў саюзнікі вертыкальніка, і праз смех добраахвотна запрыгоньваецца. На нізавым узроўні падпарадкаванне купляецца намёкамі на кпіны з улады, змоўніцкай згодай, што на версе сядзіць блазан: падпарадкаваны цешыцца з уласнай перавагі (ён «усё зразумеў»!), але і чыноўнік загад выканаў. Сцішаны карнавал

32 Шарп, Дж. *Ад дыктатуры да дэмакратыі. Канцэптуальныя асновы вызвалення [online]*, The Albert Einstein Institution, 2005. — Рэжым доступу: http://www.aeinstein.org/organizations/org/FDTD_Belarusian.pdf — Дата доступу: 21.06.2013.

супраціву становіцца сродкам знявольвання: ён абслугоўвае паноўную групу, што мае свой карнавал.

## 2. АЎТАРЫТАРНЫ КАРНАВАЛ

### 2.1. Аўтарытарны карнавал паводле Аверынцава

Калі Бахцін казаў пра вызваленчыя чыннікі карнавальнага смеху, то Сяргей Аверынцаў удакладніў: ёсць іншы смех, які рагоча з ахвяраў, непрыстойна кпіць з тых, каго валіць і б'е, *«смех цынічны, смех хамскі, у акце якога рагатун пазбаўляецца ад сораму, ад спачування, ад сумлення»*[33]. І за гэтым смехам хаваецца гвалт.

*«Арыстафан аднадушна са сваёй публікай знаходзіў вельмі пацешным матыў катавання раба. Рымская камедыя Плаўта звініць нясціхлым смехам ад лупцовак, што задаюць рабам. (…) У евангельскім эпізодзе здзекавання з Хрыста мы нібы вернутыя да самых вытокаў народнай смехавой культуры, да старажытнай, як свет, працэдуры амбівалентнага ўвянчання-выкрыцця, але ёю адцяняецца горкая нежартоўнасць пакуты нявіннага, якога неадкладна пасля блазенскага абраду выведуць на пакаранне смерцю»,* — піша Аверынцаў[34].

Смех злітоўваецца з гвалтам, карнавал — з аўтарытарызмам: «*Падчас Французскай рэвалюцыі (…) манашак лавілі на вуліцы, прынародна агольвалі і секлі розгамі, прычым экзекуцыя павінна была ўспрымацца (…) як пакаранне непаслухмяных вялікіх немаўлят. (…) (Сучаснікі згадваюць, зрэшты, выпадкі, калі парыжскі натоўп (…) засякаў ахвяру да смерці…) Другі выпадак (…) — гэта ўжыванне рыцыны пры абыходжанні з іншадумцамі ў Італіі Мусаліні».*[35]

Назавем такі карнавал аўтарытарным. Ён звязаны з крызісам і анамальнай культурнай дынамікай.

### 2.2 Анамальная культурная дынаміка

Пагодзімся лічыць нармальнай культурнай дынамікай наступныя працэсы:

- Узоры высокай культуры распрацоўваюцца элітай і трапляюць уніз — з незваротным спрашчэннем, вульгарызацыяй і пародыяй.
- Высокая культура перакадоўвае вынаходкі нізкай, калі жадае іх

33 Аверинцев, С.С. *Бахтин, смех, христианская культура* // М.М. Бахтин как философ. — Москва, 1992. — С. 10. — Рэжым доступу: http://ec-dejavu.ru/n/Ne_smeh.html — Дата доступу: 21.06.2013.
34 *Тамсама.* — С. 12.
35 *Тамсама.* — С. 13–14.

скарыстаць. Усялякія пераводы культурніцкіх з’яваў і артэфактаў з групы ў групу патрабуюць адпаведнага кадавання.

- Нізавая культура (і контркультура) пакрысе стаецца высокай (і паноўнай) дзякуючы змене пакаленняў, калі «контркультурная» моладзь уваходзіць ва ўладныя структуры.

Гэта агульныя правілы культурнай дынамікі, якія добра апісаў Абрам Моль[36] (і папулярна растлумачыла модная гераіня стужкі «Д’ябал носіць Прада»). У монастылістычных культурах — гэта ўвідавочнена, у полістылістычных[37] — сітуацыя ўскладняецца разнастайнымі элітнымі групоўкамі, але заканамернасці ўсё адно застаюцца.

Нельга сказаць, што гэтыя правілы зусім не працуюць у сучаснай Беларусі. Так, свята 3 ліпеня, усталяванае ў перыяд аўтарытарнага развароту, напоўніцу скарыстала стыхію і вольніцу Дня горада, прызначанага на гэтую дату ў сярэдзіне 80-х гадоў, дый перакадавала яе на мілітарны лад. Плакаты «За Беларусь» перахапілі і змянілі лозунгі адраджэнцаў. Але можна адзначыць, што падставовая культурная дынаміка ў краіне — анамальная.

Анамальная культурная дынаміка працуе так:

- Зверху транслюецца смецце, а высокія ўзоры асуджаныя на ганьбаванне.
- Сістэма перакадавання разбітая; з’явы і артэфакты адных груповак без перакладу і перашкодаў трапляюць у іншыя; унутрыгрупавыя трансляцыі, наадварот, абрываюцца.
- Звычайныя эвалюцыйныя змены ўскладненыя.

### 2.2.1. Дагары нагамі: трансляцыя трэшу зверху ўніз

Максім Жбанкоў звярнуў увагу на *«абуральную адсутнасць Стылю Улады»*. Гэта *«Жыццё ў No Style»*[38], калі ў цэнтры — смецце. Гэта *«культура смецця, смецце культуры»*[39]. Беларускі трэш дзіўным чынам сплятаецца з трэшам сусветным[40] — і не столькі транслюецца, колькі дабіраецца да людзей праз захлуджванне камунікацыйнай прасторы.

---

36 Моль, А. *Социодинамика культуры*. — Москва, 2008.

37 Пра монастылістычныя і полістылістычныя культуры: Ионин, Л. Г. *Социология культуры*. — Москва, 1996. — С. 181–192.

38 Жбанков, М. *No Style*. — Вильнюс, 2013. — С. 43.

39 *Тамсама*. — С. 11–36.

40 Расінскі, А. *Трэш: залатыя часы* // «Наша ніва». — 2005. — № 17. — Рэжым доступу: http://nn.by/?c=arprint&i=99903 — Дата доступу: 21.06.2013; Жбанков, М., Расінскі, А. *Резня мотопилой на первом национальном. Трэш-культура ў беларускім кантэксьце* // «Наше мнение». — 07.08.2004. — Рэжым доступу: http://nmnby.eu/news/analytics/356.html — Дата доступу: 21.06.2013; Расінскі, А. *Сьмецьце і фільмы прыгону. / Лекцыя. //* Беларускі калегіюм. — Рэжым доступу: http://bk.baj.by/lekcyji/zhurnalistyka/rasinski12.htm — Дата доступу: 21.06.2013.

«Лінія Сталіна» з'яўляецца фікцыйным штампам ад таталітарнага штампу, адкінутага нават сталінскім рэжымам. Урачыстыя рэпартажы з «Дажынак», дзе вусаты трактар цалуецца з БРСМаўкай, адразу трапляюць у галоўную газету — «Беларусь сегодня»[41] і ў сецевую суполку аматараў трэшу[42].

Афіцыёзная кіна- і відэапрадукцыя выдаецца альбо ў форме «палітычнага сатанізму», калі ганьбуюцца ворагі[43], альбо як млява-няздзейснены кіч[44]. Пры гэтым бюджэтныя стужкі нагадваюць няякасныя хорары і эксплуатацыйнае кіно — найперш, *naziploitation* (толькі замест эсэсаўскіх — уборы ад НКУС). Адрасат — разгублена-невядомы: у фільме «Яшчэ пра вайну» пад эстэтыку асэксуальных 50-х гадоў — процьма «шынельнай эротыкі»[45]; «Дняпроўскі рубеж» выглядае стужкай *«для пенсіянераў, якія перайшлі з марыхуаны на гераін»*[46]; а «Шчыт Айчыны», прадпісаны школьнікам, мае палкую сэксуальную сцэну шпега і яго памагатай.

Не лепш — калі не горш — сітуацыя з «афіцыйнай» літаратурай. Можна лічыць патрыятычныя вершы акадэміка Рубінава пра «туалецішча»[47] выключна ягонай прыватнай справай. Але выдадзеныя гэтыя творы ў выдавецтве, якое друкуе класікаў, дый *«па замове і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь»*[48]. Генерал-лейтэнант Мікалай Чаргінец, старшыня саюзу пісьменнікаў Беларусі, піша выкрывальніцкія кнігі з парнаграфічнымі сцэнамі[49] і ачольвае Раду па маральнасці.

Асноўнае культурнае свята краіны — Славянскі базар у Віцебску — пераважна з расійскай папсой; галоўная падзея 2007 года — кіраўнік краіны танчыць з Веркай Сярдзючкай (травесційны персанаж акцёра

41 Адпаведна ранейшай традыцыі — «Советская Белоруссия».
42 *Белпомоечка. Журнал by_trash*, 12.12.2007–2013. — Рэжым доступу: http://by_trash.livejournal.com/ — Дата доступу: 21.03.2013.
43 Тыповыя тут праекты Юрыя Азаронка («Канспіралогія»), «Шлях у нікуды» Рыгора Козырава дый іншыя тэлевізійныя стужкі (Рудкоўскі, П. *Сцэнары лукашэнкаўскай улады* // ARCHE. — 2005. — № 4 (38). — Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2005-4/rudkouski405.htm — Дата доступу: 21.06.2013.
44 Расінскі, А. *Сьмецьце і фільмы прыгону…*
45 Расінскі, А. *Беларускае порна і ірляндзкі транссэксуал* // Наша ніва. — 22.02.2007. — Рэжым доступу: http://nn.by/index.php?c=ar&i=6746, дата доступу: 21.06.2006; Расінскі А., *Нэасталінскае кіно* // Наша ніва. — 2007. — № 28. — Рэжым доступу: http://nn.by/index.php?c=ar&i=10590 — Дата доступу: 21.06.2013. Падрабязней пра гэтыя чыннікі: Жбанков, М., Расінскі, А. *Салодкі сталінскі стыль* // Наше мнение. — 07.2007. — Рэжым доступу: http://nmnby.eu/news/discussiona/1052/html — Дата доступу: 21.06.2013.
46 Расінскі, А. *Галюцынацы і гераічная абарона Магілёва* // Наша ніва. — 03.07.2009. — Рэжым доступу: http://nn.by/index.php?c=ar&i=27412 — Дата доступу: 21.03.2013.
47 «*Ох, народ ты наш, народ, / Ох, народище! / Из полтысячи пород — / Одна породища! / Наш один — за ихних двух — / Только дай борща… / И раз в двадцать крепче дух… / Из туалетища*». (Рубинов, А. Н. *Вот она, наша жизнь*. — Минск, 2010. — С. 74).
48 *Тамсама*. — С. 2.
49 Чергинец, Н.И. *Тайны овального кабинета*. — Минск, 2001.

Андрэя Данілкі)[50]. Нахабная Верка Сярдзючка — трэш-персона з нязгубнай надзеяй на кэмп[51]. Прэзідэнт цалуе Сярдзючку, нават не ўсведамляючы, што гэта не ягоная знакавая прастора[52]; абдымкі і травесты-танец — карнавальнае парушэнне іерархіі.

Хаця Сярдзючка самахоць уварвалася на трыбуну, бегаць на лыжах — летам! — Лукашэнку ніхто не прымушаў. Але ён бегае, гэтак жа робяць і чыноўнікі, быццам ілюструючы здзеклівы вершык[53] пра бясконцае свята дурня (карнавальнага героя!).

Аляксандр Фядута распачынае сваю кнігу пра Лукашэнку з апісання шоку, які адчулі датклівыя да цырымоніяў японцы, калі сутыкнуліся з палітыкам, які не зважае на правілы. Лукашэнка прыляцеў на японскую зімовую алімпіяду без папярэдніх узгадненняў, ірваўся на лёд, дамагаўся сустрэчы з імператарам і, нарэшце, начапіў лыжы і пабег — з аховай — па рысавым полі на вачох аслупянелага гаспадара[54].

Архіў «Беларусьфільму» меў яшчэ выразнейшы матэрыял: прэзідэнт на арэне цырку. Лукашэнка ў сур'ёзным гарнітуры выступае з прадмовай перад дзеткамі. Камера ад'язджае — абраны ўладар на арэне. Таксама там выступяць дрэсіраваныя цюлені і сабачкі; нарэшце, будзе ялінка, вакол якой заскачуць прэзідэнт, цыркавы блазан і — калі меркаваць па суворым касцюме — ахоўнік прэзідэнта. Кадры, што пабачыў аўтар дакладу ў 1999 годзе ў архіве, настолькі самавыкрывальныя, што іх нават не змантажавалі.

Але недарэчнасці на версе не заўважаюцца. Зверху ўніз без перашкодаў транслююцца «Скарына ў Піцеры», «вершы Быкава» — і іншыя перлы ўладара. Бюракратычны апарат (зрэдку і вяла) спрабуе выправіць бязглуздасць, але прэзідэнцкія фразы добраахвотна і ўпарта цытуюцца[55].

50 *Верка Сердючка танцует с Лукашенко на Славянском базаре, 2007*, Youtube, 07.07.2007. — Рэжым доступу: http://www.youtube.com/watch?v=4zHan5BH1LE — Дата доступу: 21.06.2013.

51 Sontag S., *Notes on «Camp»* // Against interpretation. New York, 1966, available at: http://www9.georgetown.edu/faculty/irvinem/theory/sontag-notesoncamp-1964.html, accessed 21.06.2013; Расінскі, А. *Кіч і малімоньне. / Лекцыя*. // Беларускі калегіюм. — Рэжым доступу: http://bk.baj.by/lekcyji/zhurnalistyka/rasinski11.htm — Дата доступу: 21.06.2013.

52 Увогуле, беларускі карнавал — гэта яшчэ і стан пераходу, апісаны Віктарам Тэрнерам: Turner V., The *Ritual Process. Structure and Anti-Structure*, Ithaca, New York 1966. Але беларускі пераход нейкі «замарожаны».

53 «*Стаю на асфальце — у лыжы абуты, / Ці лыжы не едуць, ці я — вальтануты…*» Апошняе слова цытуюць з нецэнзурнымі варыяцыямі. Верш Уладзіміра Някляева.

54 Федута, А. *Лукашенко. Политическая биография*. — Москва, 2005. — С. 8–12.

55 Уладзімір Падгол сабраў ужо некалькі кніжак «Народнага тэлевізара» з цытатаў Лукашэнкі. Падрабязней на сайце: *Падгол. Наш дом — Беларусь [online]*, 2013. — Рэжым доступу: http://padgol.blogspot.com/ — Дата доступу: 22.06.2013. Пасля кожнай прэс-канферэнцыі ангажаваныя беларускія інтэрнэтнікі цытуюць Лукашэнку не радзей за афіцыйныя газеты.

### 2.2.2. Смецце для прэзідэнта



**Іл. 3.** Выступ гурта «Рокер-Джокер» на дзяржаўнай тэлевізіі з падтанцоўкай (фотакадр з відэа). Youtube. 07.12.2010. — Рэжым доступу: http://www.youtube.com/watch?v=k1TJNPVqpEw — Дата доступу: 21.06.2013.

Калі зверху ўніз бесперашкодна транслюецца трэш, які лёгка запаўняе «прадзіраўленыя» групы з паразбіванымі кодамі, то маецца і адваротны працэс анамаліі. Вярхі цягнуць са сметніц лахманы без усялякага ўліку, што тыя ўжо паабскубаныя іроніяй і сарказмам.

Самы паказальны выпадак — гісторыя з гуртом «Рокер-Джокер». Два хлопцы гралі песні ў стылі «алка-бугі»[56]. У 2010 годзе яны запісалі жартоўную папеўку пра нейкага Саню, якога ўсе ўпрошваюць «застацца з намі», і той нарэшце згаджаецца[57]. Падчас прэзідэнцкай кампаніі песня была заўважаная — і ўключаная ў навязлівыя ратацыі[58]. Здзіўленыя спевакі — у цёмных касцюмах і з падтанцоўкай дзяўчынак у народных строях — адыгралі на тэлеэкранах свой гіт[59]. Нарэшце, песню выканалі на ўрачыстым канцэрце для прэзідэнта (акцёры іншыя)[60]. Хаця афармленне і выканаўцы змяніліся, іранічны тэкст застаўся — што аніяк не перашкодзіла ўзняць песню як передвыбарчы сцяг.

А неўзабаве, калі грымнуў эканамічны крызіс, «Рокер-Джокер» выпусціў новую песню з пазнавальным «прэзідэнцкім» матывам — і ўдакладненым прыпевам: «Опа-опа, нам всем приснится жопа!»[61] Мелодыя зрабіла неверагодны кульбіт, падняўшыся да самага верху, — і зноў спусціўшыся ўніз.

56 Стыль расшыфроўваецца як «сучасны гарадскі фальклор». Гэта музыка пабаў, шынкоў. І як любы фальклор, яна схільная да весялосці, сатыры і лірычных пачуццяў». (Прудникова, О. *RockerJoker: мы закрываем проект* // Naviny.by, 16.01.2011. — Рэжым доступу: http://naviny.by/rubrics/culture/2011/01/16/ic_articles_117_172060/ — Дата доступу: 21.06.2013.

57 *Саня*, Youtube, 18.10.2010. — Рэжым доступу: http://www.youtube.com/watch?feature=player_detailpage&v=n4MCFp553K4 — Дата доступу: 21.06.2013.

58 «*Колькі сказалі, столькі і павінны ставіць — сем разоў на суткі*». (Цыт. паводле: Коровенкова, Т. *Группу RockerJoker «привлекли» к агитации за Лукашенко* // Naviny.by — 08.12.2010. — Рэжым доступу: http://naviny.by/rubrics/culture/2010/12/08/ic_articles_117_171590/ — Дата доступу: 21.06.2013.

59 *Саня останется с нами*, Youtube, 07.12.2010. — Рэжым доступу: http://www.youtube.com/watch?v=k1TJNPVqpEw — Дата доступу: 21.06.2013.

60 *Саня останется с нами. Концерт ОНТ,* Youtube, 16.12.2010. — Рэжым доступу: http://www.youtube.com/watch?v=9uyMzXPAMG0 — Дата доступу: 21.06.2013.

61 *RockerJoker — 2012*, Раздаецца «Планета» // Пяршак, 34mag.net, 10.05.2011. — Рэжым доступу: http://34mag.net/piarshak/post/razdaecca-planeta/ — Дата доступу: 21.06.2013.

## 3. ВЫЙСЦЕ З КАРНАВАЛУ. «ТЭРНАРНАЯ» БЕЛАРУСЬ І «БІНАРНАЯ» РАСІЯ

Аўтарытарны карнавал не перамагчы іншым карнавалам. Народная смехавая культура губляецца, калі цар асабіста пнецца быць блазнам: гэта абсалютная ўлада, не стрыманая і бажавольнасцю (што добра разумелі маскоўскія ўладары, якія і задалі цывілізацыйны выбар суседзяў — Іван Жахлівы дый Пётр Першы)[62].

Сучасны аўтарытарны рэжым успадкаваў расійскія традыцыі «бінарнай культуры». Як адзначаў Юры Лотман, «ідэалам бінарных сістэмаў з'яўляецца поўнае знішчэнне ўсяго існага»[63]. Для бінарных сістэмаў існуе толькі чорнае і белае. Супрацьлеглая ёй «тэрнарная сістэма» бачыць адценні, здольная знаходзіць пасярэднікаў паміж полюсамі. Ідэал бінарных сістэмаў — перамога, нягледзячы ні на што; ідэал тэрнарных — кампраміс[64]. У бінарных сістэмах развіццё адбываецца праз выбухі, якія працінаюць, у адрозненне ад сістэм тэрнарных, не толькі асобныя закуткі, але ўсю прастору, — і перакульваюць яе дагары нагамі. Гэта — карнавальныя інверсіі[65] праз выбухі.

Калі Расія — пераважна «бінарная», то Беларусь — пераважна «тэрнарная» (у стаўленні да закону і нават у феномене «тутэйшасці», калі месцічы ўсяляк ухіляюцца ад жорсткіх супрацьпастаўленняў[66]). Але «бінарныя» звычкі заўважаюцца не толькі ў паводзінах кіраўніка Беларусі, але і ягоных зацятых апанентаў[67]. У гэтых умовах карнавал адмысловым чынам сплятаецца з дэструкцыяй, ствараючы затокі ахраніі, дзе згубленае ўсялякае працяканне часу.

Карнавал па прыродзе сваёй усеагульны. Карнавал супраціву сплятаецца з карнавалам аўтарытарным — і абодва становяцца неадрозна адным; і карнавал, што цісне, татальны. Але і з яго ёсць выйсце.

Кожны карнавал завяршаецца Вялікім Постам.

---

62 Як пісаў філосаф Мікалай Фёдараў, дзяржаўны лад Расіі — гэта самаўладдзе, абмежаванае інстытутам бажаволаў (цыт. паводле: Померанц, Г. *Открытость бездне. Встречи с Достоевским*. — М., 1990. — С. 19).

63 Лотман, Ю. М. *Семиосфера*. — СПб., 2010. — С. 142.

64 *Тамсама*. — С. 144. Бінарным і тэрнарным сістэмам адпавядаюць дзве этычныя сістэмы паводле Лефеўра: Лефевр, В. А. *Алгебра совести*. — М., 2003. Разгляд сучаснага аўтарытарнага рэжыму праз прызму другой этычнай сістэмы Лефеўра дадзены ў артыкуле: Расінскі А., *Гераічнае паганства аўтарытарнай этыкі* // ARCHE. — Мінск, 2008. — № 12. — Рэжым доступу: http://www.arche.by/by/9/reviews/344/ — Дата доступу: 21.06.2013.

65 Иванов, Вяч. Вс. *К семиотической теории карнавала как инверсии двоичных противопоставлений*…

66 Гл., напр.: Першай, А. *Тутэйшасць как тактика культурного сопротивления: о локальности, социальной мобильности и беларусской национальной идентичности* // «Форум новейшей восточноевропейской истории и культуры — Русское издание». — 2012. — № 2. — Рэжым доступу: http://www1.ku-eichstaett.de/ZIMOS/forum/docs/forumruss18/12Pershai.pdf — Дата доступу: 21.06.2013.

67 Так што культурніцкія чыннікі ні ў якім разе нельга зводзіць толькі і выключна да асабістых рысаў аднаго чалавека, завочна дыягнаставанага псіхіятрам (Щигельский, Д. *Врачебное заключение*. // Наша свабода. — 2001. —12 студзеня. — С. 5–12.)

# Першае пакаленне мінскіх «хіпі»
## (другая палова 1960-х — першая палова 1970-х гадоў)

**Уладзімір ВАЛОДЗІН,** актывіст экалагічнага руху

У ласна навуковых прац, прысвечаных моладзевым субкультурам Мінску ўзначаны перыяд, пакуль няма ані ў гісторыі, ані ў сацыяльна-культурнай антрапалогіі, ані ў сацыялогіі, ані ў лінгвістыцы. Вельмі добры журналісцкі матэрыял зрабіў Віктар Сямашка (цыкл радыёперадач пра беларускі музычны андэграўнд 1960–1980-х гадоў). Ёсць і іншыя матэрыялы ў папяровых і электронных СМІ, і літаратурныя творы.

Паколькі апублікаваныя літаратурныя, публіцыстычныя і навуковыя тэксты не маглі даць дастаткова звестак па гісторыі мінскіх хіпі другой паловы 1960-х — пачатку 1970-х гадоў, асноўнай крыніцай паслужылі вусныя ўспаміны былых мінскіх хіпі, сабраныя аўтарам дадзенай працы летам 2007 года.

Рэспандэнты адмыслова не падбіраліся. «Выхад» на іх адбываўся праз асабістыя знаёмствы, ад аднаго да другога. Гэта людзі 1947–1953 гадоў нараджэння, усе яны з дзяцінства пражываюць у Мінску.

Неабходна адразу адзначыць: пра хіпі як такіх у акрэслены час (другая палова 1960-х — першая палова 1970-х) у пэўным месцы (г. Мінск) казаць цяжка. Большасць людзей, якія будуць героямі дадзенай працы, не называлі сябе «хіпі». Тым не менш, у дадзеным тэксце будзе выкарыстоўвацца тэрмін «хіпі», хаця часцяком і ўзяты ў двукоссі, бо лепшы тэрмін падабраць не атрымалася.

**1.**

Хіпі ў ЗША і Заходняй Еўропе з’явіліся ў сярэдзіне 1960-х гадоў. З невялікай затрымкай (не больш за пару гадоў) падобная субкультура праявілася і ў еўрапейскай частцы СССР.

Разуменне таго, чым быў рух хіпі як з’ява грамадскага жыцця на Захадзе, мае суразмоўцы выказвалі даволі align рознае. Вось як акрэсліў ідэалогію хіпі (як заходніх, так і мінскіх) Андрэй Плясанаў: «*Што такое хіпі? Хіпі — пацыфісты, якія, як я думаю, былі супраць вайны, якія не працавалі, якія хадзілі, збіралі кветкі і спявалі песні. Я рабіў тое ж самае, толькі назва... У нас не было такога, што мы — хіпі. Проста насілі доўгія валасы, насілі клёшы*».

Уладзімір Юзэфовіч лічыць, што слова «хіпі» нельга прымяняць у дачыненні да моладзі, што жыла ў СССР, нават умоўна. Стрыжнямі ж субкультуры хіпі на Захадзе ён лічыць цікавасць да ўсходняй філасофіі і эксперыменты з псіхатропнымі прэпаратамі. Калі слова «хіпі» фігуравала нячаста (з маіх суразмоўцаў так сябе вызначаў толькі С. Філіпаў), то як сябе самавызначалі маладыя доўгавалосыя людзі, што слухалі рок-музыку і не жадалі быць узорнымі камсамольцамі? «Цывілы» называлі іх «валасатымі», «валасацікамі», і часам гэтыя словы станавіліся саманазвай[1]1. Часам фігуравалі лакальныя саманазвы, прывязаныя да пэўнай мясцовасці: «скверныя людзі» ў Мінску (ад таго, што збіраліся ў скверыку на вуліцы Леніна; звесткі Н. Качаноўскай), «дзеці каменнай мамачкі» (бо збіраліся каля помніку Элізе Ажэшцы) ў Гародні[2]. Часцяком жа папросту ніякага адмысловага слова для самавызначэння не было.



**Іл. 1.** В. Швяцоў. Без слоў. Карыкатура з часопіса «Вожык», 1971, №19, с. 10.

Затое тэрмін «хіпі» часта выкарыстоўваўся іншымі людзьмі дзеля акрэслення субкультуры, што пацвердзіў і У. Юзэфовіч.

1 Мудроў, В. *Альбом сямейны*. — Б/м 2007. — С. 132–133.
2 Чернявка, И. *«Это не Маша, это Миша»: 32 года назад в Гродно взбунтовались хиппи //* Белорусская газета — 2003. — №30 (397), 11 августа.

У самым пачатку 1970-х гадоў з’явілася слова «*Система*», якое абазначала:

*«1. Общность хиппи в СССР как неформальное молодёжное объединение.*

*2. Любую территориальную или временную общность хиппи»*[3]3.

«*Система*» была сапраўды агульнасаюзным феноменам. Вось як апісвае яе дзеянне С. Філіпаў:

*«Мы ведь очень часто встречали таких же, как мы, в том же Минске. Для меня, если я вижу человека в расклешённых джинсах с длиннющими волосами, я совершенно чётко понимаю, что это свой человек. Я к нему подходил и спрашивал, чем можно помочь. Потому что, если это незнакомое лицо — а своих мы знали всех — если это незнакомое лицо, совершенно очевидно, что это приезжий. Денег у него, естественно, нету, он путешествует автостопом и, наверное, ему нужно помочь. Ну а как же иначе? Это было свято для нас, поэтому первый же вопрос: «Чем тебе нужно помочь?» А только потом мы спрашивали: «Откуда ты?» Помогали, чем могли. Помогали ночёвками, пристраивая друг у друга переночевать. Но точно так же мы понимали, что где б мы ни оказались, точно так же мы можем рассчитывать на помощь других людей».*

Сацыяльны слой, які спарадзіў савецкіх «хіпі» і быў крыніцай іх папаўнення, акрэсліць няцяжка. У Мінску гэта былі дзецi інтэлігенцыі, часам нават партыйнай, выкладчыцкай ці творчай эліты (напрыклад, рок-музыкам быў сын Пімена Панчанкі; звесткі А. Плясанава). Пераважная большасць мінскіх хіпі канца 1960-х — пачатку 1970-х гадоў нарадзілася ў Мінску ці, прынамсі, тут вырасла.

**2.**

Важнай складовай часткай субкультуры быў касмапалітызм. Нават калі ён не падкрэсліваўся, дык усё адно прысутнічаў. Пры гэтым касмапалітызм таго пакалення зусім не азначаў пагарду да мясцовага, да беларускай ці расійскай культуры. Наадварот, мінскія хіпі канца шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых, якія выраслі ў рускамоўным асяроддзі, вывучылі пазней, будучы сталымі людзьмі, літаратурную беларускую мову і актыўна ёй карысталіся ці карыстаюцца. Але гэтыя

3 Рожанский, Ф. И. *Сленг хиппи: Материалы к словарю*. — СПб.–Париж, 1992. — С. 44.

людзі камфортна сябе адчуваюць у любой краіне (прынамсі, любой еўрапейскай), цікавяцца іншымі культурамі і ладамі жыцця.

Варта адзначыць, што яны застаюцца актыўнымі ўдзельнікамі культурнага жыцця сталіцы (а часам і палітычнага жыцця). Некаторыя хіпі не былі камсамольцамі. Ці, калі і былі афіцыйна запісаныя ў камсамол, ніколі не атрымлівалі білета (пасведчання) і не плацілі сяброўскіх складак.

Ключавым кодам для моладзевай субкультуры з'яўлялася музыка. Паколькі атрымаць доступ да заходнееўрапейскіх і амерыканскіх запісаў у другой палове 1960-х гадоў было надзвычай цяжка, то мінская моладзь арыентавалася на польскую рок-музыку [Плясанаў, Філіпаў], якую можна было пачуць па радыё ў добрай якасці (польскія радыёстанцыі не глушылі). Перыядычна польскія гурты («Czerwone gitary», «Skaldowie», «Bizony») наведвалі з канцэртамі Мінск, выступалі ў Палацы спорту.

Найважнейшым заходнім гуртом быў «The Beatles». Субкультуру бітламанаў вылучаюць як асобную, хаця ў рэальнасці паміж бітламанамі і хіпі не было падзелу. Варта адзначыць, што аматары року былі адкрыты і для іншай музыкі. Так, некаторым рэспандэнтам запомніўся прыезд у Мінск джазавага мэтра Дзюка Элінгтона [Качаноўская, Юзэфовіч].

Саюзныя ансамблі не шанаваліся, бо тыя ВІА, якія прыязджалі ў Мінск афіцыйна ці гучалі па радыё і тэлебачанні, не адпавядалі густам хіпі. Гастролі самадзейных калектываў не практыкаваліся. Былі, што праўда, мясцовыя выканаўцы, якія больш ці менш падабаліся доўгавалосай публіцы. Вядомымі былі гурты «Пане браце», «Пилигримы», «Наследники» (з музыкамі Еўграфам і Гардзеем).

Апрача ігры на танцпляцоўках, музыкі выступалі ў інстытутах, школах. Вялікае ўздзеянне на культурнае жыццё Мінска зрабілі два біт-фестывалі, што прайшлі ў радыётэхнічным інстытуце ў 1968 і 1969 гадах.

**3.**

Вопратка (і, больш шырока, знешні выгляд) была, магчыма, другім па важнасці кодам. Абавязковай была наяўнасць доўгіх валасоў і джынсаў (дзяўчаты маглі сабе дазволіць сукенкі ці спадніцы, але таксама часта апраналі джынсы). Па-за гэтымі невялікімі ўмоўнасцямі адкрываўся шырокі прастор для буйнай фантазіі. Хлопцы часцяком насілі рознакаляровыя паркалёвыя кашулі «ў кветачкі» [Плясанаў]. Некаторыя хіпі выцягвалі з шафаў строі сваіх дзядоў і бабуль 1930–1950-х гадоў [Качаноўская, Філіпаў]. Часам вопратку шылі самі ці замаўлялі «сваім» краўцам [Плясанаў, Чарняўка].

Джынсы маглі купляцца як праз мясцовых «фарцоўшчыкаў», так і ў Вільні.

*«Тады, напрыклад, я купіла першыя джынсы ў Вільні на так званым «таўчку». Туды ўсе ездзілі: як атрымаеш стыпендыю (дваццаць восем рублёў) — на «Чайку», так званы быў цягнік Мінск—Талін, і можна было за тры гадзіны даехаць да Вільні. Ну, і туды ўжо прыходзіў, на гэтую барахолку. Там заўсёды што-небудзь прадавалі палякі ці яшчэ хто-небудзь. І там я купіла ў аднаго паляка за дваццаць пяць рублёў джынсы «Super Rifle». Я іх насіла ўжо так доўга. І ў будатрадзе яны са мной былі, і нават ужо калі выйшла замуж, нарадзіла першую дачку, яшчэ іх насіла. Яны добрыя былі»* [Качаноўская].




**Іл. 2.** М. Гурло. Хто каго віншуе? Карыкатура з часопіса «Вожык», 1971, №4, с. 8.

Андрэй Плясанаў вылучаўся сваім абуткам:

*«Зараз у моду ўваходзяць такія, ужо ў дваццаць першым стагоддзі, бацінкі з вельмі тоўстай падэшвай, з велізарным каблуком і з велізарным носам тупым. Дык вось я такія насіў ужо ў канцы шасцідзясятых і купіў іх на нейкай выставе ў Палацы спорту. Не памятаю нават, у каго, у іншаземцаў нейкіх».*

Папулярнасцю карысталіся тэнісныя тапкі («*прорезинки*»). Яны былі белыя і хутка пэцкаліся, даводзілася чысціць зубным парашком [Качаноўская]. Летам было пашыранае хаджэнне басанож.

Адным з найважнейшых сімвалаў для хіпі была (і застаецца) кветка. Кветкі з'яўляліся і на рознакаляровых кашулях, і на «прорезинках», часта іх малявалі на вопратцы ці абутку самастойна.

Перад тым, як перайсці да разгляду варыянтаў баўлення вольнага часу, варта адзначыць, што мінскія «хіпі» акрэсленага перыяду былі носьбітамі вельмі розных стыляў жыцця. У найбольш артадаксальным варыянце жыццё тагачаснага мінскага хіпі выглядала наступным чынам:

*«В то время мы не пытались делать карьеру. Осенью нанимались на любую работу. Перезимовав, весной увольнялись. Лето проводили в*

*путешествиях. Осенью опять куда-нибудь устраивались: лаборантами, грузчиками, кочегарами. Хиппи — одно слово…»*[4].

Хтосьці выкарыстоўваў студэнцкія гады менш для вучобы, а больш для «тусовак». Аднак вялікая частка нефармальнай супольнасці мела прыстойныя сталыя працы, дастатковы заробак ды імкліва інтэгравалася ў «дарослае» грамадства. Некаторыя (напрыклад, прафесійныя музыкі ці фарцоўшчыкі)араблялі па некалькі соцень ці нават тысяч рублёў у месяц і не маглі паскардзіцца на недахоп сродкаў (асабліва прымаючы пад увагу татальны дэфіцыт і немагчымасць зрабіць дарагую пакупку без чаргі).

*«Я іграў вельмі многа. Потым я, калі кінуў універсітэт і пайшоў у філармонію, там зарабляў вельмі многа, бо мы ігралі па трыццаць, па сорак канцэртаў у месяц. І яны былі неафіцыйныя, гэта значыць усе грошы мы клалі сабе ў кішэню. Потым я пайшоў у політэхнічны інстытут, і там пяць гадоў працаваў, і таксама там рабіў вельмі многа ўсякіх прыладаў да машын, да самаходаў, да «Жыгулёў», іх прадаваў. І плюс ігралі мы свадзьбы, ігралі мы так званыя «халтуры» на нейкіх вечарах, на заводах, у інстытутах. І за гэта вельмі добра плацілі, таму я зарабляў прыблізна дзве тысячы ў месяц у сярэднім. А мая маці зарабляла, дый бацька, па дзевяноста, па сто рублёў у той час»* [Плясанаў].

Чым займалі свой вольны час мінскія хіпі? У асноўным збіраліся ў скверах ці на кватэрах. Асноўным месцам збору мінскіх хіпі быў «Грыцавец» — цяперашні парк Янкі Купалы (калісьці на месцы помніка Купалу стаяў помнік лётчыку Грыцаўцу, пазней перанесены на вуліцу Леніна). Іншыя месцы тусовак — скверы на вуліцы Леніна (меў назву «зялёны пад'езд» з-за дзвярэй аднаго з парадных, пафарбаваных у зялёны) і Камсамольскай (каля помніка Дзяржынскаму), плошчы Перамогі (у народзе — Круглая) і Леніна (цяпер Незалежнасці).

Некаторая частка валасатай моладзі наведвала танцы. Але, паколькі верагоднасць быць бітым за нестандартную знешнасць была вельмі вялікая, рабілі гэта хлопцы, найбольш упэўненыя ў сваіх кулаках. Танцы адбываліся на Карчах (танцпляцоўка ў парку 50-годдзя Кастрычніка каля Трактарнага заводу), у Моргу (сцэна на вуліцы Маскоўскай, дзе цяпер месціцца Маладзёжны тэатр эстрады; назву атрымала з-за духа-

4 Филиппов, С. *Подробности: Хроникально-документальное кино*. — Минск, 2005. — С. 21.

вога аркестра, які іграў там па выходных). Былі яшчэ Дошкі, Цагляныя заводы.

Часам (паколькі грошай было мала) хадзілі ў кафэ ці рэстаран; вядома, не дзеля таго, каб паесці, а каб пагаварыць. На столік маглі замовіць адну страву, якую можна было есці рукамі (напрыклад, мясное асарці). Любілі наведваць дзве ўстановы на Паркавай магістралі: кафэ «Ромашка» [Філіпаў], рэстаран і бар гасцініцы «Юбілейная» [Качаноўская]. Пэўны час адна з кампаній збіралася ў «памыйцы» (падвал пад цяперашнім «Макдональдсам» насупраць ГУМа, у 1990-я — бар «Світанак») [Філіпаў].



**Іл. 3.** В. Швяцоў. Маладзёжны ансамбль «Юнацтва». Карыкатура з часопіса «Вожык», 1972, №17, с. 5.

На кватэрах збіраліся, калі чые-небудзь бацькі з'язджалі на адпачынак ці на працу ў іншы горад. Звычайна гэтымі бацькамі аказваліся высокапастаўленыя чыноўнікі, дыпламаты. Тут гутарылі, слухалі музыку (як у запісах, так і «пад гітару»), супольна гатавалі ежу, ужывалі алкаголь і наркотыкі.

Некаторая частка інтэлігентнай доўгавалосай моладзі хадзіла да Кіма Іванавіча Хадзеева. Гэты чалавек, усебакова (сама)адукаваны, знаўца літаратуры, вязень сталінскіх лагераў, умеў заварожваць гасцей сваімі расповедамі. Да яго ў госці хадзіла некалькі пакаленняў, некалькі тусовак «хіпі». З больш маладых Наталля Качаноўская прыгадала Алеся Анціпенку.

Музыканты, вядома, бавілі час на рэпетыцыях і выступах. Перыядычна наладжвалі рухомыя гульні ў грамадскіх месцах (як сказалі б зараз, перфомансы). «*Напрыклад, прайшліся ў лапцях аднойчы па праспекце»* [Качаноўская]. Каларытна апісвае такія «перфомансы» ў сваіх кніжках Сяргей Філіпаў[5].

Даволі часта выкарыстоўваліся мянушкі. Знакамітым персанажам быў Віктар Панічаў па мянушцы «*Треугольник*». Іншыя прыклады: Таўсцяк, Сэм, Джон [Плясанаў]. Але далёка не кожны чалавек мянушку насіў. З ін-

5 Напр.: Филиппов С. *Подробности: Хроникально-документальное кино*. — Минск, 2005. — С. 36.

шага боку, часта мянушка цалкам замяняла імя. Так, хлопца па мянушцы «*Дельфин*» ведалі ўсе суразмоўцы. Яго імя памятаў толькі А. Плясанаў, а прозвішча не прыгадаў ніхто. Гэты чалавек — адзін з маіх суразмоўцаў, Уладзімір Юзэфовіч. Запомніўся ж ён усім даўжынёй валасоў. «*У яго былі самыя доўгія валасы за ўсіх у Менску. У яго былі ніжэй пояса. На канцэрце ён іх вымаў, на танцах, а потым, калі збіраўся на вуліцу выходзіць, пад кашулю іх хаваў, зашпільваў каўнер і таму яны былі быццам бы залізаныя, і не бачна было, што ён такі доўгавалосы*» [Плясанаў].

Многія прадстаўнікі субкультуры хіпі ездзілі аўтаспынам (аўтастопам). І Сяргею Філіпаву, і Уладзіміру Юзэфовічу даводзілася заязджаць у Талін, Ленінград, на Украіну. З іншага боку, тыя, хто здолеў атрымаць вышэйшую ці прэстыжную прафесійную адукацыю і ўладкавацца на сталую і больш-менш перспектыўную працу, мелі ўдосталь грошай на падарожжы аўтобусам, чыгункай ці самалётам. Квіток на цягнік да Вільні каштаваў два рублі восемдзясят капеек, а самалёт да Адэсы — чатырнаццаць рублёў [Плясанаў].

Інфармацыю пра найноўшую заходнюю музыку і лад жыцця замежных хіпі атрымлівалі ўрывачную. Штосьці вычытвалася ў савецкіх артыкулах-памфлетах, прапагандысцкіх брашурах ці нават раманах (напрыклад, «Чего же ты хочешь?» В. Кочатава) [Плясанаў]. Вельмі рэдка даходзілі заходнія часопісы. Прасцей было набыць у «Белсаюздруку» польскія маладзёжныя выданні, дзе былі спецыяльныя рубрыкі пра заходнюю музыку [Юзэфовіч].

У сярэдзіне 1970-х гадоў распаўсюдзіўся самвыдат (аднак нічога спецыфічна «хіповага» ў ім не сустракалася). Аўтары, якіх у адзін голас прыгадалі суразмоўцы, — Салжаніцын і Булгакаў.

У многіх кампаніях ужывалі наркотыкі. Большасць абмяжоўвалася паленнем «травы» («плана») ці ўжываннем набытых у аптэках пігулак (напрыклад, змешвалі з віном седэпсен ці кітайскі лімоннік; інфармацыя Андрэя Плясанава). Аднойчы з’явіўся быццам бы ЛСД у выглядзе вадкасці. Невядома, ці сапраўды гэтае рэчыва было тым, за што яго выдавалі, але наркатычны эфект яго быў сапраўды моцным [Качаноўская]. У ход ішлі таксама і шпрыцавыя наркотыкі. Часткова іх здабывалі праз тых хіпі, што працавалі ў сістэме аховы здароўя (у гутарцы з С. Філіпавым фігуравалі такія прэпараты, як прамедол і амнапон)[6].

6 Гл. таксама: Филиппов, С. *Автобиография. Поворот: Рассказы. Дорога: Роман*. — Минск, 2003. — С. 7.

Эксперыменты з «пашырэннем свядомасці», а таксама інтэнсіўнае ўжыванне алкаголю і тытуню прывялі да таго, што многія прадстаўнікі гэтага «валасатага» пакалення памерлі маладымі ці ў сярэднім веку. Напрыклад, тэатральны педагог, драматург, рэжысёр, актор, тэатральны і мастацкі крытык, аўтар і пастаноўшчык «Камедыі» Уладзімір Рудаў сканаў ад раку ў 1999 г. ва ўзросце 52 гадоў.

Практычна ўсе мінскія хіпі мужчынскага полу канца 1960-х — пачатку 1970-х гадоў паспяхова «адкасілі» ад войска. Хтосьці часова паступаў у інстытут, хтосьці знаходзіў у сябе хваробу, хтосьці выкручваўся па «сацыяльных паказчыках». Сяргею Філіпаву давялося правесці пэўны час у «жоўтым доме».

Напружанымі былі ўзаемаадносіны не толькі з міністэрствам абароны, але таксама і з міністэрствам унутраных спраў.

*«Міліцыя нас хапала проста на праспекце. Калі ішлі там нейкай кодлай, чалавек дзесяць-пятнаццаць валасатых, дык пад'язджаў нейкі аўтобус абсалютна пусты, спыняўся, з яго выскоквала чалавек пяцьдзясят міліцыянераў. І каго хапалі, таго... валасы адразалі кавалкамі. Прычым яны, калі аўтобус пад'язджаў, яны там ляжалі на падлозе, а потым ускоквалі. Разрывалі штаны, адразалі ад іх кавалкі, бо калі сорак пяць сантыметраў клёш, дык гэта лічылася, што ўжо занадта»* [Плясанаў].

На Грыцаўцы наладжвалі аблавы. Тых, каго паспявалі злавіць, дастаўлялі ў пастарунак «добраахвотнай народнай дружыны» на вуліцы Камсамольскай (цяпер там крама ніжняй бялізны). Здаралася, што падчас аблаў ці ў пастарунках стрыглі. На месца вучобы ці працы высылалі паведамленні.

Аблавы наладжваліся і на кватэры ў цэнтры горада, дзе збіраліся хіпі.

Самай гучнай падзеяй грамадскага жыцця Мінска, звязанай з хіпі, быў выступ пасля пахавання Вячаслава Максакава, які цяпер часам называюць дэманстрацыяй. 7 красавіка 1970 года група моладзі стаяла ля кінатэатра «Навіны дня» і раптам пачула ад аднаго з мінакоў, што праходзіў каля іх, вокліч «Хайль Гітлер!». Адзін з маладых людзей — Вячаслаў Максакаў — зрабіў таму заўвагу, пасля чаго атрымаў удар нажом у жывот. Малады чалавек сканаў на месцы. На яго пахаванне на Маскоўскіх могілках праз два дні сабралася нямала народу — людзі ледзьве змясціліся ў пяці аўтобусах[7].

7 Будкін, С. *Першая маніфэстацыя беларускіх хіпі* // Тузін гітоў. — 09.04.2007. — Рэжым доступу: http://tuzin.fm/article/621/ — Дата доступу: 07.07.2013.

Узгадвае Андрэй Плясанаў:

*«Мы калі з могілак ехалі, праязджалі калі, гэта зараз сцэна беларускага тэатра, а быў дзіцячы кінатэатар, а потым «Навіны дня». І там глядзім, напісана: «Здесь убили Славика Максакова», а на тратуары чырвоны такі круг і напісана «Здесь» чырвонай фарбай. Ехала аўтобусаў шэсць ці сем моладзі. Я там у першым ехаў, кіроўцаў заставіў спыніцца, выскачылі. А мужык пачаў усё змываць бензінам. Мы кажам: «Не рабіце гэтага!» — «Мне загадалі». Ну я тады ўзяў гэты бензін яму апракінуў на ногі, дастаў запальнічку. Ён знік адразу. Ну, і мы стаім. У гэты час набегла міліцыі, наехала гэтых «казлоў» міліцэйскіх, і атрымалася так, што народ пачаў збірацца. Увесь сквер быў запоўнены народам, ужо глядзелі на нас, бо валасатыя стаяць, і чалавек сто. Самкнулі рукі і не пускалі міліцыю, каб яна гэта змыла. Ну і гэта працягвалася каля хвілін сарака, можа гадзіны. Потым, там можа чалавек з дзесяць было ў такіх чорных капелюшах і ў плашчах, маленькіх такіх. Маёраў ці палкоўнікаў КГБ. І з крыкам: «Хапайце яго, ён тут галоўны!» ці «Ён правакатар!» кінуліся на мяне і рукі завярнулі, пацягнулі да міліцэйскага «казла», каб закінуць, а моладзь кінулася мяне адбіваць, адбіла, і пачалася бойка. І я збег адтуль. Палову арыштавалі тых усіх. Людзей, якія стаялі на скверы і стаялі на другім баку вуліцы, таксама арыштоўвалі вельмі многа. Нават трыццаць шосты аўтобус ішоў з радыятарнага, там быў прыстанак. Людзі выходзілі, і іх хапалі і кідалі ў гэтыя аўтазакі».*

На шчасце, ніхто з удзельнікаў спантаннага выступлення не падвяргаўся пераследу па крымінальнай справе. Паколькі падзеі здымалі КДБшныя кінакамеры, ёсць спадзяванне, што з часам мы зможам пабачыць іх на экране.

Цікава, як скажалася інфармацыя пра падзеі ў тым інфармацыйным вакууме, што існаваў у СССР. Маскоўскі праваабарончы самвыдатаўскі часопіс «Хроника текущих событий» у 14-м выпуску змясціў наступную нататку пра мінскую «дэманстрацыю»:

*«7 апреля в Минске был убит старшеклассник МАКСАКОВ. По официальной версии, его убил пьяный хулиган. У убитого были обнаружены листовки с требованием демократических свобод. Через несколько дней, в день похорон МАКСАКОВА, группа учащихся старших классов минских школ организовала в центре города, на улице Энгельса, рядом с ЦК КПБ, демонстрацию.*

*(…)*

*Демонстранты, собравшиеся возле кинотеатра «Новости дня», выжгли автогеном на асфальте круг и, встав в него, скандировали лозунги с требованием свободы слова и печати. Когда подоспевшая милиция*

*начала разгонять демонстрантов, они стали кричать: «Это не Чехословакия, вы нас не разгоните». По слухам, некоторые из демонстрантов были исключены из школ. В школах Минска были проведены комсомольские собрания с целью «повышения сознательности»*[8].

Падсумоўваючы, трэба пагадзіцца, што субкультура «савецкіх» (і, у прыватнасці, мінскіх хіпі) не была «клонам» аналагічнай амерыканскай. У іншых грамадскіх умовах і формы, і змест былі іншымі. Аднак была перанятая сімволіка субкультуры: рок-музыка, джынсы, кветкі, доўгія валасы. Цяжка сказаць, наколькі ўплываў Захад на сістэму каштоўнасцяў моладзі ў СССР, але многія прынцыпы заходніх і ўсходніх хіпі супадалі: касмапалітызм, пацыфізм, пэўны недавер да свету дарослых і жаданне збудаваць свой, лепшы свет. Інтэграцыя былых хіпі ў сістэму пануючых грамадскіх адносін як на Захадзе, так і ў былым СССР адбылася даволі паспяхова.

Даўно было заўважана, што субкультуры — крыніца інавацый для пануючай культуры. Няма нічога дзіўнага ў тым, што многія былыя хіпі зрабілі паспяховыя кар'еры. Варта адзначыць, што кар'еры гэтыя былі зробленыя найчасцей у мастацтве ці другіх сферах інтэлектуальнай працы, дзе патрабуецца падвышаная крэатыўнасць. Прычым часта кар'еры развіваліся больш бліскуча ў 1990-я гады, чым раней.

## СПІС ІНТЭРВ'Ю

Гутарка з Наталляй Георгіеўнай Качаноўскай, 1947 г. н., 15 траўня 2007 г.

Гутарка з Андрэем Міхайлавічам Плясанавым, 1948 г. н., 9 ліпеня 2007 г.

Гутарка з Сяргеем Анатольевічам Філіпавым, 1953 г. н., 16 ліпеня 2007 г.

Гутарка з Уладзімірам Віктаравічам Юзэфовічам, 1951 г. н., 17 ліпеня 2007 г.

---

8 *Хроника текущих событий*. — выпуск 14. — Рэжым доступу: http://hr2.memo.ru/wiki/ХТС_14/Краткие_сообщения/Беспорядки_в_Минске_в_связи_с_убийством_старшеклассника — Дата доступу: 07.07.2013.

# Посттутэйшы сучбелліт: людзі не свайго часу

**ВАЛЯРЫНА КУСТАВА,** літаратар

Па-сутнасці, тры асноўныя тэзы майго артыкула ўжо закладзеныя ў самой назве. Сучасная беларуская літаратура ёсць абсалютным адбіткам сучаснага беларускага грамадства, што да дачыненняў паміж аўтарамі, так і датычна саміх літаратурных працэсаў. Уся беларуская літаратурная супольнасць падзеленая на таварыскія купкі вымушаных аднадумцаў, што, у прынцыпе, адкрытыя свету (замежным перакладнікам, выдаўцам, агентам), але збольшага закрытыя для такіх самых лучнасцяў унутры краіны.

Разважаючы пра сітуацыю з цяперашняй нашай літаратурай, у свой час у мяне нарадзілася некалькі новых акрэсленняў датычна яе, і нават атрымалася ўвесці ў моўнае ўжыванне такія наватворы, як «сучбелліт» і «посттутэйшыя». Мушу крыху расшыфраваць. Панятак «сучбелліт» займеў паралельна адразу дзве сэнсавыя расшыфроўкі. Першая, найпростая, — гэта ў агульным уся сучасная беларуская літаратура як такая — з яе аўтарамі, творамі, тэмамі, тэндэнцыямі. Другая, што надае панятку дадатковую афарбоўку, — гэта «сучасная» беларуская літаратура — багемная прастора, дзе пануюць інтрыгі, ложы, суполкі, падзел на «чужых» і «сваіх», што, зрэшты, ёсць працэсам тэндэнцыйным. Да слова, маюцца на ўвазе не толькі і не столькі ідэалагічны падзел на сваіх і чужых, колькі падзел паміж беларускімі (пераважна беларускамоўнымі) пісьменнікамі (пагляд аў прабеларускіх і праеўрапейскіх) і беларускімі рускамоўнымі аўтарамі (нават само акрэсленне гучыць дзіўна, але менавіта так і падзяляюць іх у культурніцкай прасторы) — на таварыствы, сябрыны, згуртаванні, аб'яднанні і нават творчыя саюзы — афіцыйныя і неафіцыйныя.

Другі панятак «посттутэйшыя», уведзены мной больш за пяць гадоў таму, таксама меў два прачытанні: вузейшае і шырэйшае. Больш вузкая трактоўка — гэта тыя пісьменнікі, што сталіся ідэйнымі пераймальнікамі такіх літаратурных таварыстваў, як «Тутэйшыя», рэгіянальнае Таварыства Вольных Літаратараў на чале з Алесем Аркушам і адасоблены скандальны «Бум-Бам-Літ». Але тое азначэнне досыць умоўнае, бо цяперашняя генерацыя маладых творцаў збольшага не прызнае гэткай пераемнасці. Прадстаўнікі маладой беллітаратуры нават не спрабуюць «скінуць з параходу сучаснасці» старэйшых калегаў, яны іх папросту замоўчваюць. Да слова, замоўчванне — найбольш часты метад барацьбы з канкурэнтамі ці тымі, хто такім бачыцца, у прасторы сучбелліту. Да прыкладу, такія выдатныя празаікі, што знаходзяцца па-за калялітаратурнай тусоўкай, як Андрэй Федарэнка.

У сучбелліце недастаткова быць таленавітым. Трэба яшчэ ўмець пра сябе гаварыць і рабіць тысяча пяцьсот рэчаў, якія б ускосна падмацоўвалі твае літаратурныя тэксты: выступы, прэзентацыі, праекты ў сумежных жанрах — пераклады, фестывалі, удзел у праграмах на тэлебачанні і радыё, музычныя і арт-праекты, аўтарскія калонкі ў СМІ, на папулярных сайтах і г.д. Трэба быць самому сабе літаратурным агентам, бо ў нас, на жаль, такая прафесія практычна не практыкуецца.

Да таго ж цяпер на кожнага беллітаратара па-за яго жаданнем ускладзеная і пэўная месійнасць — лакальна прышчапляць беларускасць. Але акурат моладзь, што пазіцыянуе сябе «чыстымі» творцамі сусветнага маштабу, не заўжды дбае пра «адраджэнне», не хочучы браць на сябе «грамадзянскі» бонус, застаючыся «мастакамі дзеля мастацтва».

Але вернемся да «посттутэйшых». Тэрмін «посттутэйшыя» часам выкарыстоўваўся для абазначэння ўсёй найноўшай беларускай генерацыі. Падзялюся цікавым назіраннем. Адным з заданняў, якое я традыцыйна даю кожнаму новаму курсу студэнтаў, што прыходзяць да мяне на заняткі ў нашае творчае ВНУ (а гэта перадусім сцэнарысты, рэжысёры, кінастаўцы і кінапрадусары), — гэта напісаць працяг легендарнай нацыяўтваральнай п'есы Янкі Купалы «Тутэйшыя». Умоўна называю яе: «Посттутэйшыя». Заданне палягае і ў тым, каб выявіць адметнасці і хваляванні моладзі сучаснага грамадства, паспрабаваць сфармаваць, выказаць характары тых нашчадкаў Насты Пабягунскай і Мікіты Зносака, Янкі Здольніка і Аленкі, якімі б яны маглі быць цяпер, якія б праблемы іх кранала ў сучаснай РБ. У тэкстах маіх студэнтаў, як па сутнасці ў самім грамадстве, засталося шмат усяго таго ж, што было і раней. І ў новых герояў адпаведныя праблемы. Дзве ідэйна палярныя сталіцы ў беларусаў: адны жывуць у Мінску (нашчадкі Зносака), другія — Менску

(нашчадкі Здольніка). Два асноўныя саюзы пісьменнікаў: адзін (і калісьці адзіны) — незалежны (Саюз беларускіх пісьменнікаў), у які ўваходзілі Янка Купала, Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч, уваходзяць і па сёння Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Някляеў; другі — прадзяржаўны, СПБ (Саюз пісьменнікаў Беларусі). Два саюзы журналістаў: БАЖ (незалежная — Беларуская асацыяцыя журналістаў, да якой улада ўвесь час прымяняе новыя і новыя ўціскі і санкцыі) і БСЖ (праўладны — Беларускі саюз журналістаў). Творцы спрабуюць суіснаваць у гэткім заўсёдным падзеле. Два візавыя рэжымы; два чорныя спісы: адных не выпускаюць, другіх не ўпускаюць: невыязныя і неўязныя. Падвоеная праўда, падвоеная рэчаіснасць, падвоеныя стандарты.

Выснова, да якой прыходзяць мае студэнты… і да якой у свой час прыйшла і я, — вельмі цяжка знаходзіцца на мяжы, лавіраваць, быць на залатой сярэдзіне, бо гэта стан ментальнай мытні, дзе цябе правяраюць з двух бакоў, цяжка навучыцца размаўляць і з адным полюсам, і з другім. Бо ў такім разе ёсць вялікая верагоднасць, што цябе не прыме ніводзін. І ў гэтым таксама палягае праблема пасярэдніцтва, перакладу з адной на іншую мову ўспрымання. Спробы — лучыць творцаў па розныя бакі барыкадаў. Апроч таго, што творца мусіць размаўляць з гэтымі полюсамі, ён мусіць размаўляць і з людзьмі (гледачамі, слухачамі — спажыўцамі культурніцкага прадукту).

Чамусьці, калі студэнты пісалі свае «працягі», у іх заўжды атрымлівалася, што нашчадкі Зносака і Пабягунскай былі заможнымі шчаслівымі асобамі, праўда — павярхоўнымі, а нашчадкі Янкі і Аленкі былі няшчаснымі, што хочуць з’ехаць з Беларусі, эміграваць, але ж — відавочна глыбейшымі, пакутнымі праз тое, што разумеюць, што адбываецца. Як іхнія папярэднікі — з’ехалі ў вёску, так яны — імкнуцца за далёкую мяжу, у лакальна вольную суполкавую Беларусь. І гэта сітуацыя вельмі сумная, і нават сумнеўная. А тым, што сталіся выпускнікамі Школы Месій, давядзецца вымыкаць святло на лётнішчы, калі ўсе з’едуць…

Беларускай літаратуры, як, зрэшты, і беларускаму грамадству, папросту нестае маштабных асобаў, маштабных талентаў, маштабных лідараў. Роўных тым стаўпам, на якіх стаяў белліт раней, — Янка Купала, Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч, — якія нават сваімі творамі папросту прышчаплялі ген беларускасці. Дастаткова было ў свой час прачытаць тэкст Уладзіміра Караткевіча, каб ператварыцца ў беларуса. І гэтае ператварэнне было нечым большым за нацыянальную прыналежнасць. Бо ты мог быць кім заўгодна па нацыянальнасці — рускім, палякам, украінцам, — але рабіўся ментальным беларусам. Вышэй

узгаданая місія актуальная і зараз. Так званы «бунт за свабоду» — гэта насамрэч ціхая ноша кожнага з нас. Дзе б ты ні з’явіўся, твая малая задача — змяніць людзей. Без гвалту. Павярнуць іх да беларускага. Найчасцей — саміх беларусаў.

Але ў выніку атрымліваецца, што сучасная беларуская літаратура (сучбелліт) у Беларусі застаецца на маргінэсе (людзі не свайго часу) — па-за шчасцем, багаццем і пачутасцю, па-за падручнікамі, універсітэтамі і кнігарнямі, боўтаючыся ў дробных змаганняў паміж рознаідэйнымі суполкамі, наступнікі без папярэднікаў (посттутэйшыя). І не варта спадзявацца на еўрапейскія фундацыі, што падкажуць нам наш жа шлях. Трэба знайсці патрэбныя словы для сваіх людзей… Я ж толькі паспрабавала акрэсліць для сябе і для вас, якімі мы ёсць, з не самага прыемнага боку, — з таго боку, на якім і варта працаваць.

**P. S.** Пан прафесар Анджэй Суліма Камінскі сказаў тут, што творца мусіць крытыкаваць, звяртацца да ўлады, але я схільная пагадзіцца з выказваннем Пятра Рудкоўскага пра істотнасць патэнцыялу метафараў… Бо можа атрымацца, што мы ўсе будзем сядзець у гэтай зале і крытыкаваць, а яны будуць стаяць за тымі дзвярыма (па-за залаю) і не чуць. І, як на мяне, самая нязручная, няўтульная, але неабходная пазіцыя — калі ты стаіш у гэтых дзвярах, пасярод, па скразняку — і хвараеш на гэтую балючую няўтульную Беларусь. Каб яны цябе пачулі. І гэтыя «яны» не прачытаюць гэты тэкст. На жаль.

# Чаму рэлігія не смяецца з палітыкі?

**Пётр РУДКОЎСКІ,** Універсітэт Лазарскага

Пытанне, вынесенае ў загаловак, уяўляе сабой своеасаблівую рэакцыю на канстатацыю, што Касцёл/Царква ў Беларусі паводзіць сябе досыць пасіўна ў грамадскай прасторы. Чаму Касцёл/Царква не рэагуе на важныя падзеі ў грамадска-палітычным жыцці, а калі рэагуе, то вельмі слаба?

Гэты кароткі роздум маю намер прысвяціць перадусім метадалагічным аспектам разважанага пытання. Прапаную высветліць, *паводле якіх прынцыпаў* варта ацэньваць грамадскую актыўнасць царкоўнай улады. А таксама тое, якога тыпу прысутнасці ў грамадскай сферы можам рацыянальна спадзявацца ад царкоўных інстытутаў. Думаю, што праясненне гэтага пытання мае вялікае значэнне для якасці дыскусій вакол тэмы: Касцёл/Царква ў беларускім грамадска-палітычным жыцці.

У гэтым артыкуле засяроджуся на каталіцкім Касцёле. Гэта будзе свайго роду «вывучэнне выпадку», вынікі якога могуць быць у той ці іншай ступені прымянянальныя і да іншых хрысціянскіх канфесій.

## 1.

З часоў *Rerum novarum* (1891 год)[1] Настаўніцтва Касцёла рэгулярна фармулюе сваю пазіцыю па ключавых грамадска-этычных справах. Цягам XX стагоддзя сфармаваўся даволі ўстойлівы кансэнсус наконт

1 Энцыкліка (вакольнае пасланне) папы Льва XIII, прысвечаная т. зв. «працоўнаму пытанню»: праблемам рабочага класу і ліберальнай ды марксісцкай прапановам вырашэння гэтых праблем.

асноўных палажэнняў каталіцкага сацыяльнага навучання (КСН), якія ў 2004 годзе былі сістэматызаваныя і выдадзеныя як *Кампендыя сацыяльнага вучэння Касцёла*[2].

Цяжэй з кансэнсусам адносна «выканаўчага» аспекту КСН. Як Касцёл павінен сябе паводзіць у сітуацыях, калі арганізацыя грамадскага жыцця супярэчыць асновапалажэнням каталіцкай дактрыны? У выпадку свецкіх арганізацый у аналагічных выпадках справа больш-менш ясная: калі ў грамадскім жыцці або ў палітыцы ўраду назіраюцца тэндэнцыі, якія ідуць уразрэз з праграмнымі пастулатамі дадзеных арганізацый, то яны ладзяць акцыі пратэсту, прыцягваюць увагу масмедыя да наяўных праблем, у выпадку партый — мабілізуюць свой электарат да падтрымкі сваіх кандыдатаў і г.д. У выпадку ж Касцёла справа не такая простая. З аднаго боку, ён павінен стрымлівацца перад заангажаваннем у палітычную барацьбу, з другога — было б таксама нядобра, калі б сацыяльнае навучанне Касцёла ператварылася ў набор агульных, адарваных ад грамадскіх рэалій дэкларацый, не падмацаваных канкрэтнымі дзеяннямі.

Шматлікія рознагалоссі ў справе ацэнкі прысутнасці Касцёла ў грамадскім жыцці пабудзілі мяне зрабіць спробу пабудаваць «драбіну этычных прыярытэтаў», якая магла б спрасціць справу ацэнкі грамадскага служэння Касцёла і, можа, спрычыніцца да павышэння ўзроўню дыскусій вакол гэтай тэмы. «Драбіна этычных прыярытэтаў», якую я прэзентую ніжэй, з'яўляецца маім уласным канструктам; тым не менш, гэты канструкт не паўстаў адвольна, ён заснаваны на: 1) базавых дактрынальных палажэннях каталіцкага Касцёла; 2) практыцы Касцёла ў сусветным маштабе; 3) «знаках часу» — назіраннях за маральнымі тэндэнцыямі ў сучасным свеце. Інакш кажучы, тое, што месціцца ў Кампендыі сацыяльнага вучэння Касцёла на 600-х старонках, я тут паспрабую змясціць — схематычна — на адной.

Мяркую, што пяці пунктаў будзе дастаткова, каб збольшага адэкватна перадаць асноўныя грамадска-этычныя прыярытэты:

*1. Абарона культу Адзінага Бога і аўтаноміі Касцёла.*

*2. Абарона нявінных і безабаронных.*

*3. Абарона інстытуту сям'і.*

*4. Абарона культурных каштоўнасцяў.*

*5. Абарона палітычнай свабоды.*

---

2 Выдадзены Пантыфікальнай радай Iustitia et Pax у 2004 г. Два гады таму выдадзены па-беларуску: *Кампендый сацыяльнага вучэння Касцёла*. — Мінск, 2011.

Прыярытэты пералічаны тут у парадку іерархічнай важнасці для каталіцкага Касцёла. Варта на ўсякі выпадак адзначыць, што гаворка не ідзе пра «важныя» і «няважныя» прынцыпы, бо яны ўсе важныя. Прапанаваная схема скіравана на высвятленне, што з *гледзішча спецыфічнай місіі Касцёла* ёсць першапланавым, а што — другасным. Вось у такім духу трэба інтэрпрэтаваць гэту схему.

Цяпер — невялікае тлумачэнне паасобных пунктаў.

*1. Абарона культу Адзінага Бога і аўтаноміі Касцёла.*

Прыярытэтнасць гэтага прынцыпу наўпрост вынікае з першага Божага запавету: «*Не май іншых багоў апрача Мяне*». Заўважым, што нават першыя хрысціяне — у цэлым вельмі «апалітычныя» — трапілі ў шэрагі палітычнай апазіцыі ў Рымскай імперыі (ды і ў іншых дзяржавах) акурат у сувязі з вернасцю гэтаму прынцыпу: абараняць культ Адзінага Бога.

*2. Абарона нявінных і безабаронных.*

У розныя перыяды гісторыі катэгорыя «нявінных і безабаронных» была рознай. У прапаведаванні прарокаў Старога Запавету ў гэту катэгорыю ўваходзілі «сіроты і ўдовы» (у першую чаргу), а таксама беднякі і імігранты (у другую чаргу). У тыя часы менавіта да гэтых катэгорый людзей чынілася несправядлівасць. На мяжы старой і новай эры ў габрэйскім свеце катэгорыя «безабаронных» папоўнілася «людам зямлі» *(am ha'arez)*. «Люд зямлі» — гэта неадукаваныя, адчужаныя ад культурна-рэлігійнага жыцця земляробы. Першае бласлаўленне Хрыста: «*Бласлаўлёныя ўбогія духам...*» было, хутчэй за ўсё, адрасаванае людзям з гэтай катэгорыі.

У XX–XXI стагоддзях абарона сіротаў, удоваў, імігрантаў, беспрацоўных надалей застаецца справай актуальнай, пра што выразна казаў папа Бенедыкт XVI у энцыкліцы «*Caritas in veritate*» (2011). Аднак у перыяд пасля «сэксуальнай рэвалюцыі» ўсё большую актуальнасць набрала праблема статусу і лёсу чалавечых істотаў на ранніх стадыях жыцця, асабліва першыя тры-чатыры месяцы. Такім чынам, у катэгорыю найбольш безабаронных, за якіх Касцёл адчувае асаблівую адказнасць, трапілі ненароджаныя дзеці.

*3. Абарона інстытуту сям'і.*

З пазіцыі Касцёла, аналагічна, як з пазіцыі многіх грамадска-філасофскіх сістэм, сям'я ёсць натуральным асяроддзем для нараджэння і фармавання чалавечай асобы і ўтварае ячэйку грамадства. У той жа час

сям'я — дужа ўразлівы арганізм, падатлівы на ўздзеянне як унутраных, так і знешніх фактараў. Такім чынам, клопат пра сям'ю і сужэнства з'яўляецца адным з першых прыярытэтаў Касцёла.

*4. Абарона культурных каштоўнасцяў.*

Пра значэнне культуры для духоўнага развіцця асобы, а таксама для фармавання маральнай тканкі грамадства разгорнута пісаў папа Ян Павел II у энцыкліцы «*Centesimus annus*» (1991). Можна сказаць, што культурніцкія арганізацыі — гэта натуральныя хаўруснікі Касцёла. Касцёл павінен — па магчымасці — падтрымліваць і спрыяць развіццю культуры, асабліва нацыянальнаму адраджэнню.

*5. Абарона палітычнай свабоды.*

Гаворка тут ідзе пра рэалізацыю «палітычнага» вымярэння чалавечай асобы. Чалавек мае права, а ў нейкім сэнсе нават абавязак, удзельнічаць у палітычным жыцці грамадства. Мае права свабодна выбіраць сваіх прадстаўнікоў у парламент, мае права быць абраным — у адпаведнасці з Канстытуцыяй і заканадаўствам. Мае права крытыкаваць дзеянні прадстаўнікоў дзяржаўнай улады і не быць пераследаваным за гэту крытыку. Мае права таксама заняцца гаспадарчай дзейнасцю і — пры ўмове сплаты падаткаў — адчуваць сябе бяспечна і быць свабодным ад неапраўданага ўмяшальніцтва з боку дзяржаўнай улады.

Абарона гэтага тыпу правоў можа стацца аб'ектам пастырскага клопату Касцёла, і, як ведаем, нярэдка прадстаўнікі Касцёла — уключна з пантыфікамі — здзяйснялі пэўныя крокі ў накірунку абароны палітычных правоў грамадзян той ці іншай краіны. Але трэба памятаць, што ў іерархіі прыярытэтаў гэты прынцып усё ж не з'яўляецца першапланавым. Было б памылкай успрымаць Касцёл як праваабарончую арганізацыю.

**2.**

Цяпер, праз прызму «іерархіі прыярытэтаў», прапаную паглядзець, як выглядае прысутнасць беларускага каталіцкага Касцёла ў грамадскай прасторы. Прэзентую сітуацыю ў наступным парадку. Пад кожным прыярытэтам абазначу спачатку формы актыўнасці іерархаў, скіраваныя на адстойванне дадзенай каштоўнасці ў публічнай прасторы. Затым сфармулюю *занядбаныя выклікі* — гэта значыць тыя з'явы ў грамадскай сферы, што ўяўляюць сабой тую ці іншую этычную праблему, якая падпадае (згодна з КСН) пад пастырскі клопат Касцёла, але адносна якой беларускія іерархі не выказваліся публічна.

*А. Абарона культу Адзінага Бога і аўтаноміі Касцёла*

*Формы актыўнасці іерархаў.* Тут можна прывесці, бадай, адзін выпадак публічнага выступу касцёльнай улады ў абарону аўтаноміі Касцёла. У снежні 2006 года старшыня Епіскапату Беларусі біскуп Аляксандр Кашкевіч, з нагоды непадаўжэння візаў для 7 святароў і 5 сясцёр-законніц з Польшчы, выступіў з моцнай крытыкай беларускіх уладаў. У пастырскім пасланні біскупа да вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі (якое было прачытана ў нядзелю ва ўсіх касцёлах дыяцэзіі) гаварылася між іншым: «*…знешняе ўмяшанне ў правамоцную дзейнасць дыяцэзіяльнага біскупа з'яўляецца правапарушэннем і парушэннем свабоды Касцёла*»[3].

*Занядбаныя выклікі.* У Беларусі паўсюдна прысутнічаюць сімвалы савецкага мінулага. Яны маюць не толькі палітычна-культурную семантыку, але таксама рэлігійную. Помнікі такім асобам, як Ленін або Дзяржынскі, назвы вуліцаў і плошчаў у іх гонар сімвалізуюць эпоху гвалтоўнага змагання супраць Бога і Яго вызнаўцаў. Наяўнасць такіх сімвалаў у публічнай прасторы — выклік найбольш важнай для Касцёла каштоўнасці: культу Адзінага Бога.

*Б. Абарона нявінных і безабаронных + В. Абарона інстытуту сям'і*

*Формы актыўнасці іерархаў.* Як мінімум раз на год (з нагоды Звеставання, 25 сакавіка) каталіцкія біскупы выступаюць з калектыўнай заявай, у якой востра крытыкуецца практыка спаронаў. У траўні 2011 г. з'явілася заява арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча ў сувязі з прыняццем Палатай прадстаўнікоў законапраекта аб рэпрадуктыўных тэхналогіях, у якой іерарх крытыкаў як змест, так і спосаб прасоўвання *законапраекта*[4]. З розных нагодаў пастыры ў публічных заявах нагадвалі таксама пра каштоўнасць сям'і, аднак не выступалі з якімі-кольвечы прапановамі легіслацыйнага ці палітычнага характару.

*Занядбаныя выклікі.* Касцёл актыўна падтрымлівае грамадскія ініцыятывы, скіраваныя на абарону зачатага жыцця і ўмацавання сямейнага этасу. Аднак застаецца ў стане нерашучасці, якую пазіцыю заняць адносна палітычных сілаў, што выступаюць за абарону зачатага жыцця і за прасоўванне пра-сямейнай палітыкі. Сярод выклікаў варта тут указаць на стыль жыцця кіраўніка дзяржавы (адасобленасць ад

3 *Зварот Біскупа Гродзенскага ў сувязі з выдаленнем ксяндзоў.* — Рэжым доступу: http://grodnensis.by/dom/kommunikaty30/55-wydalenne-ksiezy.html — Дата доступу: 01.03.2013.

4 *Заява арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага ў сувязі з прыняццем Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу законапраекта аб рэпрадуктыўных тэхналогіях.* — Рэжым доступу: http://catholic.by/2/libr/speaches/108809-kandrusiewicz.html — Дата доступу: 01.03.2013.

жонкі, практыкаванне канкубінату), якія можа мець уплыў на маральныя перакананні грамадзян краіны.

*Д. Абарона культурных каштоўнасцяў*

*Формы актыўнасці іерархаў.* Не было публічных заяваў з боку беларускіх іерархаў, скіраваных на абарону нацыянальна-культурных каштоўнасцяў.

*Занядбаныя выклікі.* Моўная русіфікацыя, саветызацыя гістарычнага наратыву, забарона нацыянальных сімвалаў, нядбанне пра гістарычна-культурную спадчыну, кансервацыя комплексу непаўнавартасці беларусаў — гэта выклікі культурнага характару, якія, як на дадзены момант, не знайшлі водгуку ў настаўніцкай дзейнасці беларускіх пастыраў.

*Е. Абарона палітычнай свабоды*

*Формы актыўнасці іерархаў.* Беларускія касцёльныя ўлады ніколі публічна не ўздымалі праблему палітычных правоў грамадзян, не было таксама публічных выступаў у абарону палітвязняў. Ускосна праблемы палітычнай этыкі былі закрануты ў *«Звароце арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча адносна сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Беларусі»* ў траўні 2011 г.[5], аднак пасыл быў вельмі агульны і абмяжоўваўся ўсяго толькі заклікам да «павагі і любові». Больш красамоўным у плане напаміну пра палітычныя правы быў жэст апостальскага нунцыя Клаўдыа Гуджэроці, які ў 2012 г. сустрэўся з палітвязнем Паўлам Севярынцам.

*Занядбаныя выклікі.* Фактычная ліквідацыя падзелу ўладаў, гіганцкая разбудова структур дзяржаўнай бяспекі, фальсіфікацыі выбараў, знікненні палітыкаў, палітвязні, жорсткі кантроль дзяржаўных СМІ і абмежаванне дзейнасці недзяржаўных, прапаганда, жорсткае збіванне дэманстрантаў, адсутнасць празрыстых правілаў у эканамічнай сферы — каталог праблем у сферы палітычнай этыкі досыць вялікі. Як бачым, вырашэнне гэтых праблем патрабуе даволі глыбокіх рэформаў і трансфармацый. І тут дарэчным будзе пытанне, ці сапраўды Касцёл/Царква павінны ўдзельнічаць у гэтым працэсе, ці гэты ўдзел не прывёў бы да занядбання іншых, больш фундаментальных, прыярытэтаў.

---

5 *Зварот Арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча адносна сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Беларусі.* — Рэжым доступу: http://catholic.by/2/home/news/belarus/hierarchs/109046-kandrusiewicz.html — Дата доступу: 01.03.2013.

* * *

Чаму Касцёл «не смяецца з палітыкі»? Чаму не здзяйсняе сістэматычных дзеянняў, скіраваных на абарону правоў чалавека, не ангажуецца ў працэс вызвалення палітвязняў, не крытыкуе выбарчае заканадаўства?

Не думаю, што магчымы тут адзін-адзіны адказ на гэтыя пытанні. Апраўданне: «не ангажуецца, бо гэта не яго кампетэнцыя» падаецца чыста апалагетычным ходам, бо гэта не зусім так, што названыя праблемы зусім не тычацца Касцёла. Этычныя аспекты палітычнага жыцця датычаць Касцёла. З другога боку, лічу неапраўданым закід канфармізму або нячуласці да грамадскіх праблемаў. Крытычная ацэнка павінна ўлічваць запрэзентаваную вышэй «драбіну прыярытэтаў». Прасоўванне палітычнай этыкі ўваходзіць у склад прыярытэтаў Касцёла, але не ў якасці галоўнай задачы.

Частка 3.

# Што забыта?

## Пра памяць, нацыянальныя праблемы і еўрапейскі вектар

# Уздым і заняпад беларускага нацыянальнага руху:
## гістарычныя перадумовы і перспектывы на будучыню

**Пэр Андэрс РУДЛІНГ,** Лундскі ўніверсітэт, Швецыя

Беларусь — адзін з апошніх рэгіёнаў у Еўропе, куды прыйшлі нацыяналістычныя ідэі. Ранні беларускі нацыяналізм першага дзесяцігоддзя XX стагоддзя падзяляў многія характарыстыкі бундаўскага руху, інтэлектуальнай сталіцай якога была Вільня. Часткова ягоная ідэалогія пераклікалася з ідэалогіяй краёвасці, з якой выраслі некаторыя з яго лідараў, у прыватнасці браты Антон (1882–1942) і Іван (1881–1919) Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі (1883–1938)[1]. Рыхтык як ідэалогіі краёвасці, беларускаму нацыяналізму быў уласцівы пошук саюзнікаў і аднадумцаў. Нават у 1917 годзе беларускія нацыяналісты імкнуліся ў першую чаргу не да незалежнасці, а да аўтаноміі.

Ад самага пачатку беларускія нацыяналісты сутыкнуліся з сур'ёзнымі перашкодамі. Пры царскім рэжыме нацыяналістычную мабілізацыю было цяжка разгарнуць. Беларускія нацыяналісты не толькі мусілі мець

1 Смалянчук, А. *Краёвасць стасоўна беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў на пачатку XX ст.* // Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты. Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі. — Варшава, 2013. — С. 66–78.

справу з агульнымі перашкодамі, што стаялі на шляху маладых нацыяналістычных рухаў шмат дзе ва Усходняй Еўропе: цэнзура, палітычныя рэпрэсіі з боку ўладаў, брак адукацыі, грамадскай сферы, пісьменнасці, сярэдняга класу. Калі з'явіліся больш спрыяльныя ўмовы для нацыяналістычнай агітацыі, беларускім нацыяналістам усё адно давялося дзейнічаць у надзвычайных абставінах, і ад самага пачатку іх дзейнасць не толькі залежала, а нават была абумоўленая знешняй падтрымкай.

Пасля Другой бітвы на Мазурскіх азёрах 1915 г. руская армія пачала адступаць. Царскія ўлады распаўсюджвалі чуткі пра жахлівыя зверствы, што чыняць немцы, наўмысна выклікаючы зыход у першую чаргу праваслаўных беларусаў. Падчас так званага бежанства 1915 г. 2,3 млн. чалавек, з якіх 2,06 млн. былі беларусамі і рускімі, пакінулі беларускія землі. Заходняя мяжа беларускага арэалу засялення была адсунутая на ўсход больш чым на 100 кіламетраў. Зыход азначаў скарачэнне базы патэнцыйных актывістаў і людзей, здольных прыслухацца да нацыяналістычнага дыскурсу. З зыходам многіх праваслаўных беларусаў беларускія каталікі ў самай заходняй частцы Расійскай імперыяй сталі нязначнай меншасцю, безабароннай перад польскай культурай, паланізацыяй і асіміляцыйнымі памкненнямі з боку рымска-каталіцкай Царквы.

Надыходзячыя нямецкія войскі не падымалі на штыкі дзяцей і не выразалі грудзі жанчынам, як запэўнівала руская прапаганда. Наадварот, адміністрацыя Людэндорфа атрымала ўказанне падтрымліваць беларускую культурніцкую дзейнасць, каб падтрымаць беларускі рух і выкарыстаць яго ў якасці процівагі польскаму нацыяналізму на акупаваных тэрыторыях, так званых землях Обер Ост. Паколькі нацыяналісты амаль не карысталіся народнай падтрымкай, яны залежалі ад спонсараў і саюзнікаў. Пад нямецкай акупацыяй беларускія нацыяналісты апынуліся ў больш спрыяльнай сітуацыі, чым калі-небудзь раней у найноўшай гісторыі. Гэта адкрыла беспрэцэдэнтныя магчымасці для іх дзейнасці. Пачынаючы з 1916 года Ластоўскі і браты Луцкевічы, а таксама іншыя пачынальнікі беларускага нацыянальнага руху былі прыцягнутыя нямецкімі ўладамі, каб падымаць узровень беларускай нацыянальнай самасвядомасці праз беларускамоўны друк[2].

Масавая палітычная мабілізацыя, што разгарнулася на ўсход ад фронту ў 1917 годзе, мела сацыялістычную, а не нацыянальна-вызваленчую прыроду. На выбарах ва Устаноўчы сход 12–19 лістапада

2 Umowa dotyczaca zezwolenia na gazete białoruska w Wilnie, Lietuvos Centrinis Valstybinis Archyvas (henceforth LCVA), F. 365, ap. 1, B. 31, ll.9–10ap.

1917 года ў Беларусі ўсяго 0,3% галасоў было аддадзена на карысць нацыянальных партыяў і арганізацыяў. Сярод тых, хто галасаваў, было шмат змучаных вайной жаўнераў, а не прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва Беларусі. Бальшавікі атрымалі абсалютную большасць галасоў у Беларусі[3].

Абвяшчэнне так званай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у сакавіку 1918 года шмат у чым было запасным планам, пасля таго, як Літва абвясціла аб сваёй дзяржаўнасці 11 снежня 1917 года[4]. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і Акту аб літоўскай дзяржаўнасці для беларускіх нацыяналістаў варыянт той ці іншай формы федэрацыі з Літвой ці з дэмакратычнай Расіяй перастаў быць прымальным[5]. Па іроніі лёсу, «супрацоўніцтва» нацыяналістаў з нямецкімі ўладамі аддаліла іх ад народных масаў[6].

Нямецкая падтрымка, ці, хутчэй, пасіўнае прызнанне беларускага нацыяналізму, працягвалася і пасля таго, як у пачатку 1918 года ўся Беларусь апынулася пад кантролем Германіі ў выніку Брэст-Літоўскай мірнай дамовы. Паспешлівае абвяшчэнне БНР мела маргінальнае палітычнае ўздзеянне на нямецкае камандаванне, якое хоць і дазваляла беларускую нацыянальную дзейнасць, але ніколі сур'ёзна не разглядала пытання пра яе прызнанне. Абвяшчэнне БНР набыло істотнае значэнне ў нацыяналістычным уяўленні як навачасны беларускі заснавальны міф, ці, хутчэй, як антыміф, распрацаваны насуперак савецкай гістарычнай догме[7].

Пасля падзення Нямецкага рэйху вярнуліся бальшавікі. Яны разумелі выбуховую сілу нацыяналізму і прызнавалі, як і немцы, існаванне асобнага беларускага народу. 1 студзеня 1919 года яны стварылі Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусі. У 1921 годзе на X з'ездзе партыі Сталін заявіў, што «існуе беларуская нацыя, якая мае сваю ўласную мову, адрозную ад рускай», дадаўшы, што «культура беларускага народа можа развівацца толькі на яго роднай мове»[8]. Паміж 1918 і 1921 гадамі беларуская дзяржаўнасць абвяшчалася і аднаўлялася

---

3 Pipes R., *The Formation of the Soviet Union: Communism and Nationalism, 1917–1923: With a new preface,* Cambridge 1997, p. 75; Ігнаценка, І. М. і інш. (рэд.), *Гісторыя Беларускай ССР у пяці тамах.* — Том 3: Перамога Вялікай Кастрычніцкая рэвалюцыі і пабудова сацыялізму ў БССР (1917–1937). — Мінск, 1973. — С. 84.

4 Senn A. E., *The Emergence of Modern Lithuania,* New York 1959, p. 31–33.

5 Смалянчук, А. *Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя* // «Białoruskie zeszyty historyczne». — 2000. — № 14. — С. 114.

6 Wilson A., *Belarus: The Last European Dictatorship,* New Haven 2011, p. 92.

7 Грунтоўнае даследаванне БНР гл.: Michaluk D., *Białoruska republika ludowa 1918–1920 u podstaw białoruskiej państwowołci, Toruł* 2010.

8 Касцюк, М.П., Ігнаценка, І.М., Вышынскі, У.І. і інш., *Нарысы гісторыі Беларусі ў 2-х частках.* — Ч. 2. — Мінск, 1995. *Десятый съезд РКП(б). Март 1921 года. Стенографический отчет.* — Москва, 1963. — С. 213.

не менш за шэсць разоў[9]. Хоць большасць з гэтых няўдалых дзяржаўных праектаў у цяперашні час забытая, два з іх сталі служыць падмуркам нацыянальных міфаў. Цяперашняя ўлада лічыць сябе пераемніцай БССР, а БНР стала займаць цэнтральную ролю ў гістарычнай памяці беларускай дыяспары і вялікай часткі апазіцыі[10].

Мяккая нямецкая акупацыйная палітыка адносна падтрымкі адукацыі на мовах меншасцяў і прызнання іх нацыянальных рухаў таксама прынесла карысць іншым палітычным сілам з уласнымі ідэямі для беларускіх земляў. Калі прыйшлі Саветы, яны абвясцілі стварэнне ССРБ 1 студзеня 1919 года, пазней аб'ядналі яе з паспешліва створанай Літоўскай Савецкай Рэспублікай, а ў 1920 годзе аднавілі Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусі[11]. Нават Пілсудскі падчас польска-савецкай вайны няшчыра выкарыстоўваў ідэю беларускай культурнай аўтаноміі з мэтай прыцягнуць мясцовыя эліты на свой бок.

Вайна скончылася мірнай дамовай, якая не задавальняла ніводны з асноўных бакоў. У Польшчы Рыжская мірная дамова не адпавядала ні бачанню лагера пілсудчыкаў, дзе панавала ідэя аднаўлення межаў да першага падзелу Рэчы Паспалітай, ні чаканням нацыянал-дэмакратаў, якія выступалі за меншую, але этнічна аднародную польскую нацыянальную дзяржаву. Калі Саветы, хочучы ці не хочучы, прызналі межы, літоўцы іх не прызналі. Для беларускіх і ўкраінскіх нацыяналістаў Рыжская дамова была катастрофай. Незадаволенасць стала добрай глебай для антыпольскіх настрояў. Літоўская Тарыба стварыла ў Коўне Міністэрства беларускіх справаў і шчодра фінансавала актывістаў беларускага нацыянальнага руху ў спробе падтрымаць сярод беларусаў Другой Рэчы Паспалітай ідэю ўз'яднання Беларусі[12]. Ковенскі ўрад падтрымліваў узброеную барацьбу ў Заходняй Беларусі ў 1921–1923 гг., пасля чаго фінансаванне мясцовых паўстанцаў узялі на сябе Саветы. Да 1925 г. многія беларускія нацыяналісты зразумелі, што яны былі не ў стане змяніць межы з дапамогай сілы. У той жа час спрыяльная савецкая нацыянальная палітыка, вядомая ў Беларусі як беларусізацыя і карэнізацыя, настолькі ўразіла эміграцкую

9 Rudling P. A., *The Rise and Fall of Belarusian Nationalism, 1906–1931*, Pittsburgh (у друку), раздзел 3.

10 Kotljarchuk A., *The Tradition of Belarusian Statehood: Conflicts about the Past of Belarus // Contemporary Change in Belarus*, (=*Baltic and East European Studies* 2) (Huddinge: Baltic & East European Graduate School, Sцdertцrns hцgskola 2004), p. 53–58.

11 У 1922 г. перайменаваная ў Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (заўвага рэд.)

12 Міхнюк, У.М., Рашкевіч, У.К., Фалей, Я.С., Шарапа А.В. (рэд.), *Знешняя палітыка Беларусі: Збор дакументаў. — Том. 1 (1917–1922 гг.)*. — Мінск, 1999, С. 217; Вашкевіч А., *Грошы для партыі: фінансаванне партыйнай дзейнасці Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (1921–1939 гг.)* // Białoruskie Zeszyty Histroyczne. — 2007. — №28. — С. 73.

Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, што яна самараспусцілася ў 1925 годзе, пасля чаго многія з яе лідараў пераехалі ў Мінск[13]. Сярод беларускай меншасці ў Польшчы таксама заўважна раслі сімпатыі да Савецкага Саюзу. 1926 год быў не толькі пікам беларусізацыі ў БССР, але і годам істотных зменаў у Польшчы і Літве, дзе адбыліся дзяржаўныя перавароты, адпаведна, у траўні і ў снежні, што азначала канец парламенцкай дэмакратыі ў абедзвюх дзяржавах[14]. Першапачаткова выглядала, нібы вяртанне Пілсудскага сігналізавала пра больш прыхільнае стаўленне да нацыянальных меншасцяў у Другой Рэчы Паспалітай. Папярэдні ўрад, дзе панавалі эндэкі, настроіў супраць сябе беларускую і ўкраінскую меншасці. Таму новае кіраўніцтва шукала новыя і іншыя падыходы. На Валыні ўлады праводзілі палітыку, якая ў пэўнай ступені паўтарала нацыянальную палітыку ў Савецкай Украіне і Савецкай Беларусі. Адкрываліся новыя школы на ўкраінскай мове, была абвешчана большая культурная аўтаномія[15]. У перыяд з чэрвеня па снежань 1926 г. меў месца выбуховы рост беларускай палітычнай актыўнасці ў Польшчы, яе ачоліла група радыкальных левых нацыяналістаў, прадстаўленых у Сейме. Група, вядомая як Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, за кароткі тэрмін стала масавым рухам, колькасць сяброў якога сягала да 160 тыс., а гэта было выдатнае дасягненне. Яе лідары былі адкрыта прасавецкімі і рабілі расплывістыя заявы пра жаданне «аб'яднання» Беларусі, у тым ліку заклікаючы да простага далучэння да БССР[16].

У той жа час у БССР у самым разгары была беларусізацыя. Паўсталі беларускія ўстановы, у тым ліку Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Справаводства павінна было весціся на беларускай мове. Універсітэцкія прафесары атрымалі ўльтыматум: хутка засвоіць беларускую мову або страціць свае працоўныя месцы, і некаторыя вядомыя навукоўцы на самай справе іх страцілі праз нежаданне перайсці на беларускую мову[17].

Беларусізацыя праводзілася з імклівай хуткасцю і без вялікай увагі да настрояў у грамадстве. Натхняючы актывістаў нацыянальнага руху,

13 *Пастанова да пратаколу пасяджэння Рады Народных Міністраў Беларуская Народнай Рэспублікі 15 кастрычніка 1925 г.*, LCVA, F. 582, b. 2, ap. 61, l. 4.

14 Wołos M., *O Piłsudskim, Dmowskim i zamachu majowym: Dyplomacja wobec Polski w okresie kryzysu politycznego 1925–1926*, Krakyw 2013; Lopata R., *Die Entstehung des autoritдre Regimes in Litauen 1926: Voraussetzungen, Legitimierung, Konzeption // Autoritдre Regime in Ostmittel- und Sьdosteuropa 1919–1944* , Paderborn 2001, p. 95–142.

15 Snyder T., *Sketches from a Secret War: A Polish Artist's Mission to Liberate Soviet Ukraine,* New Haven 2005, p. 60–82.

16 *Праграма і арганізацыйны статут Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.* — Вільня, 1926. — С. 3, LCVA, f. 365, ap. 1, b. 1 , l. 1. Гл. таксама: Праект канстытуцыі Заходняй Беларусі Сымона, LCVA, f. 365, ap. 2, b. 18, l. 8.

17 НАРБ, f. 701, op. 1, g. 1931, d. 104, ll. 59–60.

яна напружвала многіх людзей на ніжэйшым сацыяльным узроўні, дзе падтрымка беларускай нацыянальнай ідэі была абмежаванай. Для большай часткі сялянства пытанні беларускай саматоеснасці і нацыянальнага будаўніцтва былі даволі абстрактнымі, вельмі далёкімі ад праблемаў іх паўсядзённага жыцця. Многія не хацелі аддаваць сваіх дзяцей у школы з беларускай мовай навучання, каб не шкодзіць магчымасцям кар'ернага росту. У студзені 1925 г. нацыянал-камуністычнае кіраўніцтва ЦК Кампартыі Беларусі нават пачало працэс беларусізацыі падраздзяленняў Чырвонай Арміі, размешчаных у БССР, замяняючы мову загадаў з рускай на беларускую. У наступным годзе дзве дывізіі Чырвонай Арміі былі вызначаныя як тэрытарыяльныя беларускія дывізіі, сфармаваныя выключна з беларусаў[18].

На працягу большай часткі 1920-х гадоў савецкая нацыянальная палітыка ў БССР характарызавалася адноснай прыхільнасцю і рэалізацыяй некаторых з ключавых мэтаў нацыяналістаў. Гэтая палітыка зыходзіла з таго, што калі савецкая дзяржава з разуменнем паставілася да нацыянальнага руху, адначасова спрабуючы стрымліваць вялікадзяржаўны рускі нацыяналізм, дык удасца выгадаваць лаяльных, прасавецкіх беларускіх нацыяналістаў. Рыхтык як садоўнік вырошчвае памідоры ў цяпліцы, савецкая «дзяржава-сад» будзе прадукаваць свайго кшталту беларускую савецкую ідэнтычнасць, нацыянальную па форме, але сацыялістычную па змесце.

Аўтарытарныя перавароты ў Польшчы і Літве ў 1926 годзе і ўмацаванне ўлады Сталіна ў наступным годзе змянілі рэгіянальную дынаміку. Ва ўсіх трох дзяржавах значна пашырыліся паўнамоцтвы органаў выканаўчай улады ды рэпрэсіўныя здольнасці апошніх. Пілсудскі, грозны супернік, цяпер вярнуўся да ўлады. З аднаго боку, у ліпені 1926 г. Пілсудскі заявіў, што ён хоча падпісаць дамову аб ненападзе з Савецкім Саюзам[19], а разам з тым ён загадаў Другому аддзелу працаваць з рознымі нацыяналістычнымі эміграцкімі рухамі, каб «раскалоць Расію на шэраг нацыянальных дзяржаваў»[20]. Недавер быў узаемны і небеспадстаўны. Сталін перасцерагаўся, каб нацыянальная палітыка, задачай якой было ўкараніць і ўмацаваць савецкую ўладу ва Украіне і Беларусі, не прывяла да ўсё большай аўтаноміі рэспубліканскіх элітаў.

18 Krushinsky S., *Byelorussian Communism and Nationalism: Personal Recollections,* New York 1953, p. 14.
19 Касцюк, М. П., Навуменка, І. Я. (рэд.) *Назаўсёды разам: Да 60-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР*. — Мінск, 1999. — С. 32.
20 Snyder T., *Sketches from a Secret War...*, p. 44.

Са свайго боку, Пілсудскі і санацыйны ўрад мелі падставы падазраваць беларускі рух у сепаратызме на карысць Саветаў.

Змена палітычнай сітуацыі ў Польшчы падкрэсліла неабходнасць стабільнага кантролю стратэгічна важных памежных рэгіёнаў. Так званая «ваенная трывога» 1927 года паказала абмежаванасць народнай падтрымкі бальшавікоў у Савецкіх Украіне і Беларусі.

У Заходняй Беларусі Пілсудскі сутыкнуўся з радыкальным прасавецкім і часткова сепаратысцкім беларускім нацыянальным рухам, які хутка ўзмацняўся. У пачатку 1927 г. польскія ўлады расправіліся над Грамадой, асудзіўшы яе лідараў да доўгіх тэрмінаў зняволення, а таксама эфектыўна ўтаймавалі мабілізацыю беларускага нацыянальнага руху. У БССР сталінская «рэвалюцыя зверху» запатрабавала іншых формаў арганізацыі грамадства.

Нацыяналізм і нацыянальная ідэнтычнасць мелі мала агульнага з паўсядзённым жыццём людзей. Настырная імклівая беларусізацыя часта сутыкалася з падазрэннем з боку мясцовых сялянаў, якія бачылі мала непасрэднай карысці ў такіх захадах. Ім — асабліва гэта тычылася насельніцтва раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, што былі перададзеныя БССР у 1924 і 1926 гадах, — падавалася, што ўсё гэта робіцца хутчэй на падставе меркаванняў даследчыкаў — «этнографаў», чым запытаў людзей[21]. Шмат хто ўхіляўся ад такой формы кантролю, не жадаў пагаджацца на новую нацыянальную ідэнтычнасць, якая шмат кім успрымалася як навязаная, як сродак сацыяльнага кантролю, а не як адказ на шматлікія просьбы. Нацыянальныя актывісты нагадвалі гульцоў у рулетку, якія гулялі толькі на адну стаўку. Стаўкі былі высокія — істотная ўлада і ўплыў, але было шмат і рызыкаў. Менш чым за дзесяцігоддзе беларускія землі пераходзілі з рук у рукі некалькі разоў паміж царскай Расіяй, бальшавікамі, Нямеччынай, Польшчай і зноў бальшавікамі. Нягледзячы на некалькі спробаў, беларускім нацыяналістам не ўдалося дамагчыся незалежнасці. Яны ўяўлялі сабой нешматлікі сегмент у пераважна сялянскім грамадстве. Яны былі слабымі, дрэнна арганізаванымі, не патрапілі скарыстацца з магчымасцяў, якія адкрыліся ў 1918–1920 гадах, і былі хутка зведзеныя да стану пешак у вялікай геапалітычнай гульні паміж варагуючымі суседзямі. У тыя часы ў рэгіёне нарасталі аўтарытарныя тэндэнцыі, і ідэя беларускага яднання ўсё часцей разглядалася як пагроза для

21 Hirsch F., *Empire of Nations: Ethnographic Knowledge and the Making of the Soviet Union*, Ithaca 2005, p. 149–155.

новых нестабільных, аўтарытарных дзяржаваў. Прайграючы ў гэтай рэгіянальнай палітычнай барацьбе за ўладу, беларускія нацыяналісты сталі яе палітычнымі ахвярамі, хоць і не бессэнсоўнымі.

Афіцыйнае чатырохмоўе аказалася непрактычным, беларусізацыя не здолела прыкметна ўмацаваць пазіцыі бальшавікоў у Беларусі. Увядзенне цэнтралізаванай каманднай эканомікі патрабавала вялікай колькасці бюракратыі, якой цяжка было кіраваць нават на адной мове. Пачынаючы з 1929–1934 гадоў беларусізацыя пачала скарачацца і згортвацца. У 1930–1931, 1933, 1937–1938 гадах па рэспубліцы пракаціліся тры хвалі тэрору, асаблівай мішэнню якіх былі палітычныя і інтэлектуальныя лідары 1920-х гадоў. Была рэпрэсаваная велізарная колькасць беларускамоўных аўтараў[22]. Беларуская нацыянальная мабілізацыя была перапыненая, ці, хутчэй, рэарганізаваная. Мадэрнізацыя працягвалася да канца савецкай эпохі, але пад савецкай эгідай і ў іншых варунках, і ўсё часцей на рускай мове. У выніку паўсталі іншая мадэрнасць і нацыянальна-дзяржаўнае ўтварэнне, якое даволі моцна адрознівалася ад ПНР, і нават ад Літоўскай ССР Антанаса Снечкуса і Украінскай ССР Пятра Шэлеста, дзе былі больш значныя дысідэнцкія рухі[23].

Нацыяналізм ёсць ворагам ці саюзнікам грамадзянскай супольнасці? Гісторыя беларускага нацыяналізму ў ХХ стагоддзі ўтрымлівае прыклады і аднаго, і другога. На постсавецкай прасторы існуе тэндэнцыя спалучаць нацыяналізм і дэмакратыю. Цяперашні ўздым Усеўкраінскага аб’яднання «Свабода» і скрайне правых ва Украіне можа быць нагодай для прыпынення і праблематызацыі такога дапушчэння. Аранжавая рэвалюцыя ў суседняй Украіне надала большы імпэт нацыяналізму, чым дэмакратыі, і падобная карціна вымалёўваецца з некаторых іншых «каляровых рэвалюцыяў» апошняга дзесяцігоддзя. Больш за тое, некаторыя з найбольш радыкальных нацыяналістычных рухаў у постсацыялістычнай Еўропе выраслі з рэвізіяніcцкіх кафедраў гісторыі; мы бачым такую карціну не толькі ва Украіне, але і ў такіх краінах, як Вугоршчына ды Харватыя.

---

22 Пра сталінскі тэрор у БССР гл.: Iwanou M., *Terror, Deportation, Genozid: Demographische Verдnderungen in WeiЯruЯland im 20. Jahrhundert // Handbuch der Geschichte WeiЯruЯlands*, Gцttingen 2001, p. 429–433; Процько, Т. *Становление тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.)* — Мінск, 2002.

23 Kavaliauskaitë J. and Ramonaitë A. (eds.), *Sŕjűdţio iđtakř beieđkant: nepaklusniřjř tinklaveikos galia,* Vilnius 2011; Risch W. J., *The Ukrainian West: Culture and the Fate of Empire in Soviet Lviv*, Cambridge 2011; Tromly B., *An Unlikely National Revival: Soviet Higher Learning and the Ukrainian ‘Sixtiers,’ 1953–65*, «The Russian Review», *No.* 68, October 2009, p. 607–622;

Можна заўважыць, што працяг інструменталізацыі Другой сусветнай вайны паводле савецкага ўзору цяперашнім рэжымам спараджае контр-наратыў у выглядзе праслаўлення ўльтраправых беларускіх нацыяналістаў часоў той вайны, такіх, як Усевалад Родзька, Міхаіл Вітушка і Барыс Рагуля, прычым усе яны вядомыя неадназначнымі дзеяннямі на службе нацысцкай Нямеччыны[24]. Гісторыкі могуць зрабіць свой сціплы ўнёсак у развіццё грамадзянскай супольнасці ў Беларусі праз крытычную гістарыяграфію, якая дэканструюе інструменталізацыю Другой сусветнай вайны з боку рэжыму, а таксама і гераізацыю ягоных нацыяналістычных апанентаў. Усведамленне траўматычнага, мультытаталітарнага мінулага патрабуе адкрытага і крытычнага даследавання, а не замены савецкага ідэалагічнага наратыву селектыўным нацыяналістычным наратывам гераізацыі і віктымізацыі. Стварэнне нацыянальных герояў не можа стацца субстытутам крытычнага даследавання; грамадзянскія супольнасці будуюцца на глебе каштоўнасцяў, прынцыпаў і інстытуцыйных пагадненняў, а не патрыятычных легендаў. Крытычна і адкрыта асэнсаваць мінулае азначае ўздымаць пытанні, што маюць вырашальнае значэнне для дэмакратычнага развіцця. Дэканструкцыя, а не пабудова міфаў вядзе да ўзмацнення грамадзянскай адказнасці і свядомасці, адкрываючы магчымасць існавання альтэрнатывы і аўтаномнага выбару.

---

24 Гл. напр.: Цялежнікаў А., *Беларускі пасляваенны антысавецкі супраціў 1944–1957*, дак. фільм Антося Цялежнікава (Мінск: Студыя ПартызанФільм, 2013), даступна анлайн http://video.arche.by/by/channel/movie/14841 — Дата доступу: 29.04.2013, на аснове кнігі С. Ёраш і С. Горбік «*Беларускі Супраціў*», якая мае на мэце асвятляць «*факты беларускай гісторыі, якія дзяржаўная прапаганда імкнецца выдаліць з публічнага дыскурсу*», і «*прысвечаная змагарам за беларускую незалежнасць*». Гл. таксама кнігі: Ёрш, С. *Усевалад Родзька: Правадыр беларускіх нацыяналістаў.* — Мінск, 2001; Яго ж: *Вяртаньне БНР: Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі.* — Мінск, 1998; Казак, П. (рэд.) *Беларускі нацыяналізм: Даведнік.* — Мінск, без даты.

# «Беларуская пастка»: адносіны Еўрапейскага саюза з Беларуссю[1]

**Андраш РАЦ[2],** Венгерскі інстытут замежных спраў

Мэтай дадзенай публікацыі з’яўляецца агляд узаемаадносінаў Еўрасаюза і Беларусі, а таксама спроба адказаць на пытанне, чаму знешняя палітыка ЕС у дачыненні да Беларусі цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў была ў цэлым неэфектыўнай. Задача, вядома, палягае не ў пошуку апраўданняў, а ў пошуку тлумачэнняў. Галоўным тэзісам дадзенай працы з’яўляецца тое, што да канца 2000-х гадоў Еўрасаюзу бракавала як інстытутаў, так і палітычных механізмаў, неабходных для правядзення эфектыўнай палітыкі ў дачыненні да Беларусі.

Што тычыцца метадалогіі, для тлумачэння прычын неэфектыўнасці знешняй палітыкі ЕС адносна Беларусі ў публікацыі выкарыстоўваецца ў асноўным інстытуцыйны падыход. Такім чынам, у артыкуле не будуць абмяркоўвацца ані часта згадваная адсутнасць сур’ёзнай палітычнай волі, ані прыярытэтнасць адносінаў з Расіяй. Засяроджуся перадусім на інстытуцыйным і палітычным кантэксце, на які ЕС можа абаперціся ў сваіх адносінах з Беларуссю.

1 Дадзеная публікацыя была напісана дзякуючы гранту ТБМОР 4.2.1. B-11/2/KMR-2011-0002 Еўрапейскага саюза і венгерскага ўраду.

2 Прадстаўленыя погляды з’яўляюцца ўласнымі думкамі аўтара, і яны ніякім чынам не з’яўляюцца афіцыйнай пазіцыяй Венгрыі або Венгерскага інстытуту замежных спраў.

У публікацыі разглядаюцца ўзаемаадносіны Еўрасаюза і Беларусі ў перыяд ад распаду Савецкага Саюза да моманту з'яўлення ініцыятывы «Усходняе партнёрства» ў 2009 годзе.

## 1. НАЯЎНАСЦЬ ЗАЦІКАЎЛЕНАГА ПАРТНЁРА, ЯКІМ БЕЛАРУСЬ НЕ БЫЛА

Перш-наперш, знешняя палітыка ЕС у адносінах да суседзяў галоўным чынам базуецца на добрай волі суседніх дзяржаваў супрацоўнічаць з ЕС і на іх гатоўнасці да больш шырокага ўзаемадзеяння. Праблемай у выпадку з Беларуссю было тое, што на працягу доўгага часу Мінск наогул не меў намеру супрацоўнічаць з ЕС.

Беларусь, якая стала незалежнай у 1991 годзе, праводзіла палітыку балансавання паміж Расіяй і Захадам. Аднак, у адрозненне ад краінаў Балтыі і Цэнтральнай Еўропы, Беларусь не выказала жадання далучыцца да Еўрапейскіх супольнасцяў/ Еўрапейскага саюза. Тым часам Мінск намагаўся праводзіць знешнюю палітыку нейтралітэту і недалучэння. Аднак яна рэзка змянілася з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, які хутка пераарыентаваў знешнюю палітыку краіны ў бок Расіі.

У выніку, адносіны паміж ЕС і Беларуссю былі ў асноўным замарожаныя, пачынаючы з 1997 года, калі ЕС прыпыніў ратыфікацыю Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве (ППС) у адказ на антыдэмакратычныя змены ў краіне (прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка замяніў свабодна абраны парламент Беларусі на Нацыянальны сход, які падлягае наўпростаму кантролю прэзідэнта). Паколькі Беларусь працягвала парушаць нормы і прынцыпы АБСЕ і Савета Еўропы, з лістапада 2002 года былі ўведзеныя візавыя санкцыі супраць прадстаўнікоў уладаў Беларусі. Аднак ні гэтыя меры, ні згортванне дапамогі ЕС не змаглі пераканаць афіцыйны Мінск выконваць асноўныя дэмакратычныя нормы і стандарты.

Прычынай было тое, што ў гэты перыяд, пачынаючы з 1995 года, беларуская знешняя палітыка была галоўным чынам скіраваная на супрацоўніцтва з Расіяй. Гэтай мэце служыла паступовае стварэнне так званай Саюзнай дзяржавы, а таксама пастаяннае паглыбленне супрацоўніцтва ў вайсковай галіне.

Выразна прарасійская палітыка мінскага кіраўніцтва змянілася толькі з прыходам да ўлады ў Расіі ў 1999 годзе Уладзіміра Пуціна. Пуцін пачаў чыніць значна мацнейшы ціск на Беларусь, чым ягоны папярэднік Барыс Ельцын. Можна прыгадаць знакамітую дэкларацыю Пуціна ў 2002 годзе, калі ён заявіў, што калі Лукашэнка настолькі заці-

каўлены ў інтэграцыі дзвюх дзяржаваў, Беларусь магла б проста ўвайсці ў склад Расіі ў якасці канчатковага вырашэння праблемы інтэграцыі[3]. Лукашэнка, вядома, катэгарычна адхіліў гэтую прапанову[4].

Ад тых часоў Беларусь увесь час спрабуе ўнесці элемент процівагі панаванню Расіі ў сваёй знешняй палітыцы. Тым не менш, адносіны з Еўрасаюзам заўсёды заставаліся абумоўленымі патрэбамі палітыкі ў дачыненні да Расіі[5].

Гэта азначае, што нават калі Беларусь часова ўдзельнічае ў працэсе збліжэння з ЕС, як гэта адбылося ў 2008 годзе, для Мінску гэта заўсёды толькі інструмент, які будзе выкарыстоўвацца ў адносінах з Расіяй як аргумент ураўнаважвання. Той факт, што Беларусь ніколі сур'ёзна не рэагавала на пытанні, узнятыя ЕС пры прыпыненні ратыфікацыі ППС, дэманструе ўсю слабасць намераў па збліжэнні.

## 2. АБМЕЖАВАНАЯ ЦІКАВАСЦЬ З БОКУ ЕС ДА ПАЧАТКУ 2000-Х ГГ.

Другая прычына неэфектыўнасці ўзаемаадносінаў Еўрасаюза і Беларусі палягае ў тым, што ў 1990-х гадах сам ЕС дэманстраваў вельмі абмежаваную цікавасць да былых постсавецкіх краінаў Усходняй Еўропы. Асноўная ўвага засяроджвалася на краінах Цэнтральнай Еўропы і Балтыі, якія адкрыта імкнуліся далучыцца да ЕС. А вось «шэрай зоне» ад Беларусі да Азербайджану надавалася вельмі мала ўвагі, асабліва пасля заканчэння ўзброенай фазы рэгіянальных канфліктаў. Грамадзянская вайна ў былой Югаславіі ў перыяд паміж 1991 і 1995 гадамі, у дадатак да канфлікту ў Косаве ў 1998–1999 гадах, яшчэ больш адцягвалі ўвагу заходнееўрапейцаў.

Змены пачаліся толькі з саміту ЕС у Капенгагене ў 2002 годзе, калі стала відавочна, што пашырэнне на Усход (а менавіта далучэнне краінаў Цэнтральнай Еўропы і Балтыі) адбудзецца ў 2004 годзе. Такім чынам, з набліжэннем пашырэння на Усход многія праблемы і выклікі постсавецкай Усходняй Еўропы сталі для Еўрапейскага саюза больш блізкімі.

Гэта прывяло да ўзнікнення ў 2003 годзе ініцыятывы «Пашыраная Еўропа»[6] і прыняцця ў 2004 годзе Стратэгічнага дакументу па еўра-

3 Nygren B., *The Rebuilding of Greater Russia: Putin's Foreign Policy Towards the CIS Countries*, London 2008, p. 71.

4 Гл. больш падрабязны аналіз тут: Eberhardt, A., *Gra Pozorów. Stosunki Rosyjsko-Białoruskie 1991–2008*, Warszawa 2008.

5 Gromadzki G., *Belarusian Foreign Polic — change or continuity?* // Fischer S., *Back from the Cold? The EU and Belarus in 2009*. Chaillot Papers, No. 119, Paris 2009, p. 93–104.

6 *Wider Europe — Neighbourhood: A New Framework for Relations with our Eastern and Southern Neighbours. Communication from the Commission,* Brussels, 11 March 2003. — Рэжым доступу: http://ec.europa.eu/world/enp/pdf/com03_104_en.pdf — Дата доступу: 25.06.2013.

пейскай палітыцы суседства (ЕПС)[7]. Аднак ніводны з дакументаў не прадугледжваў канкрэтных і эфектыўных ініцыятываў, скіраваных на паляпшэнне адносінаў з Беларуссю. Тым часам ЕС зафіксаваў паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека і дэмакратычнымі свабодамі як папярэднюю ўмову размарожвання стасункаў. Інакш кажучы, мяч застаўся на баку Беларусі. У выніку, паколькі ў Мінску па-ранейшаму не было зацікаўленасці, адносіны паміж ЕС і Беларуссю заставаліся такімі ж няўстойлівымі, як і раней.

## 3. НЕАБХОДНАСЦЬ ДЗЯРЖАВЫ ЯК ПАРТНЁРА

На працягу доўгага часу ўжо пасля ўступлення ў сілу Маастрыхцкай дамовы ЕС не здолеў развіць трывалых механізмаў для працы з недзяржаўнымі палітычнымі партнёрамі. Іншымі словамі, Еўрасаюз мог праводзіць сваю замежную палітыку толькі ва ўзаемадзеянні з дзяржаўнымі ўстановамі. Нават пасля замарожвання двухбаковых кантактаў на высокім узроўні ЕС працягваў супрацоўнічаць з урадам Беларусі па тэхнічных і гуманітарных пытаннях, напрыклад, звязаных з наступствамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і г. д. Гэта адбывалася проста таму, што не існавала ніякага інстытуцыяналізаванага механізму для працы з НДА і недзяржаўнымі палітычнымі партнёрамі.

Такім чынам, існавала відавочная супярэчнасць: пры тым, што ЕС замарозіў палітычныя адносіны з рэжымам Лукашэнкі, ён не мог развіваць якія-кольвечы істотныя кантакты з апанентамі гэтага рэжыму. Гэта, вядома, надзвычай негатыўна паўплывала на палітычную апазіцыю і грамадзянскую супольнасць у Беларусі, якія не мелі магчымасці атрымліваць значную фінансавую падтрымку ад афіцыйнага ЕС. Тым не менш, асобныя краіны ЕС, такія, як Польшча, Літва, Швецыя, Чэхія і г. д., рабілі шмат. Яны маглі таксама выкарыстоўваць сродкі ЕС для падобных мэтаў. Але ў Еўрапейскага саюза на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў не было інстытуцыяналізаваных палітычных інструментаў для супрацоўніцтва з беларускай грамадзянскай супольнасцю і апазіцыяй.

Сітуацыя пачала мяняцца толькі ў 2007 годзе ў сувязі са стварэннем Еўрапейскага інструменту садзейнічання дэмакратыі і правам чалавека (ЕІДПЧ). Яго асноўнай задачай з'яўляецца прасоўванне дэмакратыі і правоў чалавека ў рамках знешняй палітыкі ЕС. ЕІДПЧ працуе і ў тых

---

7 *European Neighbourhood Policy. Strategy Paper. Communication from the Commission*. Brussels, 12 May 2004. — Рэжым доступу: http://ec.europa.eu/world/enp/pdf/strategy/strategy_paper_en.pdf — Дата доступу: 25.06.2013.

краінах, дзе ЕС не мае прамога супрацоўніцтва з урадам[8]. Аднак важным недахопам ЕІДПЧ у выпадку Беларусі было тое, што ён разлічаны на зарэгістраваныя арганізацыі, а гэта пазбаўляе многія незарэгістраваныя ці пазбаўленыя рэгістрацыі арганізацыі грамадзянскай супольнасці магчымасці падаваць заяўкі[9]. Яшчэ адна праблема ЕІДПЧ — вельмі складаныя бюракратычныя патрабаванні і адносна нізкі памер даступнага агульнага фінансавання.

Нядаўна створаны Еўрапейскі фонд у падтрымку дэмакратыі (ЕФД)[10] мае нашмат лепш дастасаваную структуру для падтрымкі грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і беларускай грамадзянскай супольнасці за мяжой. Аднак ЕФД з'яўляецца вельмі новай арганізацыяй, асноўны дакумент якой быў зацверджаны толькі ў чэрвені 2013 года. Таму яшчэ трэба будзе спраўдзіць, ці зможа Фонд быць больш эфектыўным інструментам у адносінах ЕС з недзяржаўнымі партнёрамі ў Беларусі.

## 4. АДСУТНАСЦЬ АДВАКАТАЎ БЕЛАРУСІ Ў ЕС

Варта адзначыць яшчэ адзін цікавы момант, які ўплываў на згаданую вышэй абмежаваную цікавасць ЕС у дачыненні да Беларусі. А менавіта, да пашырэння 2004 года не было краінаў унутры ЕС, якія б актыўна прасоўвалі пытанне Беларусі ці неабходнасць для ЕС рабіць больш для паляпшэння там сітуацыі з правамі чалавека і дэмакратычнымі свабодамі.

З уступленнем у ЕС у першую чаргу Польшчы і Літвы сітуацыя, натуральна, змянілася. Як Варшава, так і Вільня актыўна выступаюць за большае ўзаемадзеянне з Беларуссю. Яны адстойваюць агульную пазіцыю, што працяг ізаляцыі шкодзіць галоўным чынам звычайным грамадзянам Беларусі і мала ўплывае на сам рэжым і што ЕС мусіць больш узаемадзейнічаць з Мінскам і праз узаемадзеянне імкнуцца да паляпшэння сітуацыі з дэмакратыяй і правамі чалавека ў Беларусі. Разам з Польшчай і Літвой іншыя новыя дзяржавы-чальцы ЕС таксама з'яўляюцца актыўнымі прыхільнікамі ідэі лібералізацыі візавага

8 European Instrument for Democracy & Human Rights (EIDHR). — Рэжым доступу: http://ec.europa.eu/europeaid/how/finance/eidhr_en.htm — Дата доступу: 25.06.2013.

9 Нават на нядаўні, чэрвеньскі 2013 г. конкурс у рамках ЕІДПЧ прымаюцца заяўкі толькі ад зарэгістраваных юрыдычных асобаў, Гл. Інструкцыі, п. 7. — Рэжым доступу: https://webgate.ec.europa.eu/europeaid/online-services/index.cfm?ADSSChck=1373351089387&do=publi.getDoc&documentId=132442&pubID=134605 — Дата доступу: 25.06.2013.

10 European Endowment for Democracy. — Рэжым доступу: http://democracyendowment.eu/ — Дата доступу: 25.06.2013.

рэжыму з Беларуссю. І краіны Вышаградскай групы, і краіны Балтыі многае робяць, каб умацаваць грамадзянскую супольнасць у Беларусі і дапамагчы ахвярам рэпрэсіяў. Само сабой зразумела, ёсць моцныя эканамічныя матывы ў гэтым заангажаванні, аднак чыннік каштоўнасцяў і супольнага гістарычнага лёсу таксама з'яўляецца вельмі моцным у выпадку і Польшчы, і Літвы[11].

Тым не менш, усё гэта адносна новая з'ява. Дзяржавы, якія актыўна прасоўваюць Беларусь, далучыліся да ЕС толькі ў 2004 годзе, і ім спатрэбілася некалькі гадоў, каб «здабыць свой голас» у ЕС, набыць досвед у справе распрацоўкі палітыкі і лабіравання ў Еўрапейскім саюзе, і г.д. Польска-шведская ініцыятыва Усходняга партнёрства, якая развіла чэшскія прапановы, з'яўляецца важным плёнам падобных высілкаў. Тым не менш, яна была запушчаная адносна позна, толькі ў 2009 годзе, і прагрэс у выпадку Беларусі ідзе вельмі павольна, калі наогул існуе.

## 5. ПРАБЛЕМА НЕПРАДАСТАЎЛЕНЫХ ВЫГАДАЎ

Іншая прычына, чаму ЕС не мог праводзіць эфектыўную знешнюю палітыку ў дачыненні да Беларусі, гэта поўная адсутнасць механізму, з дапамогай якога можна было б ажыццяўляць істотны ціск на Беларусь. Іншымі словамі, у ЕС не было бізуна ў руках, а магчымыя пернікі не ўяўлялі ніякай цікавасці для Беларусі, як гэта было паказана вышэй.

Цягам амаль пятнаццаці гадоў адзіным спосабам для ЕС накласці санкцыі на Беларусь была адмова прадставіць якія-небудзь новыя выгады для Мінску: няўвод у дзеянне ППС, адмова доступу да розных схемаў фінансавання, спыненне палітычных кантактаў, і г.д. А гэта азначала, што нават калі Беларусь не атрымлівала якойсьці новай палітычнай і/ці эканамічнай выгады, яна фактычна таксама нічога не губляла.

Гэты недахоп ЕС стаў выпраўляцца ў 2007 годзе, калі ЕС адклікаў ільготы Беларусі ў рамках Агульнай сістэмы прэферэнцыяў (АСП) у якасці рэакцыі на пастаяннае парушэнне свабоды аб'яднанняў і ключавых правоў працоўных[12]. Хоць і аказалася, што выключэнне з АСП не было настолькі эфектыўным, як меркавалася, гэта быў першы выпа-

---

11 Больш падрабязны аналіз гл.: *Identity and Solidarity in Foreign Policy: Investigating East Central European Relations with the Eastern neighbourhood,* «*Perspectives*, Special Issue», vol. 19, no. 2, 2011. — Рэжым доступу: http://www.perspectives.cz/upload/Perspectives/2011/Perspectives02_11.pdf — Дата доступу: 25.06.2013).

12 *EU will withdraw GSP trade preferences from Belarus over workers' rights violations* [ЕС пазбавіць Беларусь гандлёвых прэферэнцыяў у рамках АСП за парушэнні правоў працоўных], EUROPA — PRESS RELEASES, Reference IP/07/844. 18.06.2007. — Рэжым доступу: http://europa.eu/rapid/press-release_IP-07-844_en.htm — Дата доступу: 30.06.2013.

дак, калі Беларусь сапраўды нешта страціла з прычыны невыканання еўрапейскіх стандартаў[13].

Гэтая лінія была працягнутая шляхам пашырэння спісу неўязных, замарожвання актываў і забаронаў на гандаль, уведзеных як ЕС, так і ЗША ў другой палове 2000-х гадоў. Тым не менш, Захаду спатрэбілася больш за дзесяць гадоў, каб прызнаць патрэбу эфектыўных крокаў, каб пакараць рэжым Лукашэнкі.

## 6. АДСУТНАСЦЬ ІСТЫТУЦЫЙНЫХ ЗМЕНАЎ

ЕС бесперапынна патрабуе ад Беларусі дзейнічаць у адпаведнасці з асноўнымі еўрапейскімі стандартамі, напрыклад, праводзіць свабодныя і справядлівыя, дэмакратычныя выбары або ўстрымацца ад турэмнага зняволення людзей па палітычных матывах і гарантаваць базавыя правы чалавека і асноўныя свабоды. Такім чынам, ЕС спадзяецца дамагчыся сталай павагі да асноўных еўрапейскіх каштоўнасцяў у Беларусі.

Аднак, нават калі рэжым Лукашэнкі рэагуе станоўча, ён робіць толькі неінстытуцыйныя аднаразовыя саступкі. Пазітыўныя змены з'яўляюцца толькі часовымі, і могуць быць скасаваныя ў любы момант па волі рэжыму. Напрыклад, вызваленне палітычных зняволеных не дае ніякай гарантыі, што тых жа самых асобаў не пасадзяць зноў на наступны дзень. Прычына ў тым, што праўны кантэкст, які робіць магчымым такія дзеянні, застаецца нязменным[14].

У выніку з'яўляецца тое, што рэжым здольны выкарыстаць сітуацыю апазіцыйных арганізацыяў або палітычных зняволеных у якасці козыра ў адносінах з ЕС. У пэўны момант у якасці станоўчай рэакцыі на патрабаванні ЕС некаторыя палітзняволеныя могуць быць вызваленыя, як гэта адбылося, напрыклад, у перыяд збліжэння 2007–2008 гадоў. У такім выпадку ЕС выказвае гатоўнасць зняць некаторыя санкцыі або прадставіць пэўныя льготы. Тым не менш, на наступны дзень тыя ж самыя актывісты грамадзянскай супольнасці могуць быць арыштаваныя і кінутыя ў вязніцу зноў у выніку несправядлівых судовых разглядаў, таму што сам праўны кантэкст застаўся нязменны. Цікава, што нават

13 Hajduk K. and Silitski V., *After the GSP Withdrawal: The Case for the Revision of the EU Policy Towards Belarus*, Belarusian Institute for Strategic Studies, 07.08.2007. — Рэжым доступу: http://pdc.ceu.hu/archive/00003465/01/gspaug7en.pdf — Дата доступу: 30.06.2013.

14 Гл. больш падрабязны аналіз тут: Racz A., Unfair Trade — Political Prisoners as Bargaining Chips in the EU-Belarus Relationship?, *Analysis*. Eastern Partnership Community, 20.09.2011. — Рэжым доступу: http://www.easternpartnership.org/publication/politics/2011-09-20/unfair-trade-political-prisoners-bargaining-chips-eu-belarus-relatio — Дата доступу: 30.06.2013.

у нашы дні ЕС засяроджваецца толькі на рэальным вызваленні палітычных зняволеных, а не на патрабаванні зменаў у праўным кантэксце наагул[15].

Тое ж самае тычыцца і выбараў: хоць кандыдатам ад апазіцыі было дазволена праводзіць адносна адкрытую і справядлівую кампанію напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года, ніякага незалежнага кантролю за працэсам падліку галасоў не было, а акцыі пратэсту апазіцыі былі жорстка разагнаныя.

Увогуле, асноўная структура рэжыму засталася нязменнай ад сярэдзіны 1990-х гадоў, незалежна ад намаганняў ЕС прывесці яе ў большую адпаведнасць з еўрапейскімі стандартамі дэмакратыі. Галоўнай прычынай гэтага з'яўляецца, вядома, падтрымка з боку Расіі, што дазваляе рэжыму Лукашэнкі трываць як палітычна, так і эканамічна, нягледзячы на заходнюю ізаляцыю.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Галоўным тэзісам дадзенай публікацыі з'яўляецца тое, што пасля прыходу да ўлады ў Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў ЕС не хапае палітычных механізмаў і інструментаў, неабходных для правядзення эфектыўнай знешняй палітыкі ў дачыненні да афіцыйнага Мінску. Часткова гэта было абумоўлена адсутнасцю ўзаемнага зацікаўлення. Гэта асабліва было відавочным у перыяд да пашырэння ЕС у 2004 г., калі беларуская праблема была проста «занадта далёкай» ад ЕС і калі ўнутры Еўрасаюза не было адвакатаў беларускай справы. Акрамя таго, у ЕС не было эфектыўных спосабаў прымяніць санкцыі, і таму ён не мог ажыццяўляць ніякага ціску на Мінск. Адзінае, што ЕС мог рабіць, гэта ізаляваць Мінск; але ніякіх асаблівых выгадаў ЕС прапанаваць не мог. Гэта замоцна не пашкодзіла рэжыму, таму грэбаванне асноватворнымі каштоўнасцямі ЕС з боку Беларусі заставалася беспакараным.

Аднак у другой палове 2000-х гадоў большасць пералічаных вышэй структурных перашкодаў была належным чынам улічаная. Еўрапейскі саюз вельмі зацікаўлены ва ўмацаванні стасункаў з Беларуссю, і нават рэжым Лукашэнкі выяўляе пэўную цікавасць да пацяплення адносінаў з ЕС. Справа Беларусі мае цвёрдых прыхільнікаў сярод дзяржаваў-чальцоў ЕС, а сённяшнія кропкавыя санкцыі з'яўляюцца больш эфектыўнымі, чым палітычныя дэкларацыі і пасіўная ізаляцыя,

15 Jacek Protasziewicz: *European Union hopes for the release of political prisoners*, 27 June 2013. — Рэжым доступу: http://freeales.fidh.net/2013/06/protasiewicz-eu-hopes-releaselpolitical-prisoners/ — Дата доступу: 30.06.2013.

як гэта было да канца 2000-х гадоў. Аднак да гэтага часу ЕС не ўдалося дамагчыся якіх-небудзь трывалых інстытуцыйных зменаў у Беларусі ў сферы правоў чалавека і дэмакратычных свабодаў.

У цэлым, хоць і не быў дасягнуты значны прагрэс у адносінах ЕС–Беларусь цягам 15 гадоў, пачынаючы з прыходу да ўлады Лукашэнкі і заканчваючы запускам Усходняга партнёрства, сітуацыя паступова змяняецца. Прынамсі, неабходныя інстытуты і палітычныя механізмы ўсё часцей узнікаюць і функцыянуюць. Але ж шмат чаго яшчэ трэба зрабіць, каб нагнаць упушчаны час.

# Паміж царквой і ўладай,
## або Рэлігійная штодзённасць простага чалавека ў пасляваеннай Беларусі

**Ірына КАШТАЛЯН,** Беларускі архіў вуснай гісторыі

Рэлігійная актыўнасць беларускага насельніцтва з'яўлялася істотным накірункам штодзённага жыцця БССР. На яе моцна паўплывала вайна, у часе якой адбылася пэўная лібералізацыя афіцыйнага стаўлення на макраўзроўні Савецкага Саюза. Рэлігійнасць насельніцтва ўзрасла за ваенны час — пра гэта сведчыла павелічэнне колькасці цырымоній хросту, вяселляў і пахаванняў[1]. Аднак пасля перамогі вяртаюцца тэндэнцыі да абмежавання рэлігійнай актыўнасці.

Як ставіліся да гэтых абмежаванняў простыя людзі, мы паспрабуем коратка адлюстраваць у гэтым артыкуле, падрыхтаваным на падставе аналізу ўспамінаў сведак часу. Рэспандэнты належалі да праваслаўных, каталікоў і іудзеяў, а таксама атэістаў. Прадстаўнікі апошняй групы, у адрозненне ад вернікаў, гэту тэму мала згадвалі, што было выклікана,

---

1 Кашталян, И. С. *Политика советских властей по отношению к Русской православной церкви и повседневная жизнь в БССР в 1944–1953 гг.* // Макарьевские чтения: мат-лы четвертой междунар. конф., Горно-Алтайск, 21–22 ноября 2005 г. — Горно-Алтайск, 2005. — С. 157.

за некаторым выключэннем, унутранай незацікаўленасцю. Дзеці, выхаваныя ў атэістычнай камуністычнай сям'і, прымалі за норму адсутнасць рэлігійнага складніку ў публічнай сферы грамадства. Але гэта была не поўная ізаляцыя ад тэмы, паколькі яны маглі бачыць святыні, якія сваёй наяўнасцю нагадвалі пра веру ў Бога, часам камунікавалі з актыўнымі вернікамі.

## ПАГРОЗА ДЛЯ ЎЛАДЫ

Рэлігія заўсёды была перашкодай на шляху да стварэння ідэальнага савецкага чалавека. Прыхільнасць да яе ўспрымалася ўладай як пратэст супраць яе атэістычнай палітыкі, за які маглі пераследаваць. Нягледзячы на гэта, на працягу доўгага існавання савецкай сістэмы на беларускай зямлі заставаліся актыўныя вернікі, для якіх было важным захоўваць вернасць традыцыйным каштоўнасцям і прытрымлівацца рэлігійных канонаў. Калі адбываўся ўнутраны ці знешні канфлікт з ідэалагічнай дактрынай, навязанай у СССР, веруючы чалавек мог узбунтавацца. Божы суд для яго быў страшнейшы за рэпрэсіі, якія маглі абрынуцца на яго за нязгоду з руйнаваннем святынь, за правядзенне абрадаў хросту, шлюбу, пахавання. Зразумела, што ступень супраціўлення залежала ад глыбіні веры, закранутасці перакананняў асобы.

Улада старалася быць прысутнай у працоўнай і прыватнай сферах чалавека праз прынясце і правядзенне ў жыццё рашэнняў, прапісаных у розных юрыдычных дакументах, якія моцна ўплывалі на штодзённасць чалавека, абмяжоўвалі яго свабоду. Аднак у людзей заставалася некаторая прастора выбару. Пры гэтым рэлігійнасць істотна ўплывала на яго на карысць абрання стратэгій паводзін, якія былі не выгадныя ўладзе. Формы праяўлення рэлігійнасці адрозніваліся ў залежнасці ад асабістых уласцівасцяў чалавека, розных фактараў уплыву знешняга асяродку. З-за пагрозы рэпрэсій кожны сам выбіраў сваю ступень рызыкі. Хтосьці абмяжоўваўся схаваным святкаваннем найбольш вядомых святаў, хтосьці змагаўся за сваіх святароў, якіх пераследавалі, і святыні. У якасці аднаго з прыкладаў пасіўнай формы пратэсту было перакананне, што тыя, хто актыўна заангажаваны ў антырэлігійную палітыку, будуць пакараныя Богам[2]. Для некаторых нязгодных з палітыкай савецкай улады разуменне іншага чалавека як верніка, асабліва заход-

2 Аўдыёінтэрв'ю Генадзя Ю., 1929 г. н., 19.07.2008, в. Бязводнае Вілейскага раёна Мінскай вобласці, Беларускі архіў вуснай гісторыі (БАВГ, http://www.nashapamiac.org). 2(2)-71-218; Аўдыёінтэрв'ю Фамы К., 1913 г. н., 20.03.2009, г. Жодзіна Мінскай вобласці, БАВГ, 2(2)-73-230.

ніка, магло быць станоўчым фактарам, які сведчыў пра магчымасць большага даверу да такога чалавека, пра яго несавецкасць[3].

Улічваючы спецыфіку канфесій, традыцыйных для беларускіх тэрыторый, становіцца зразумелым, што хаця ўлада шукала пагрозлівыя для сябе антысавецкія выступленні, нават самыя радыкальныя выступы вернікаў мелі, як правіла, мірную форму. Вернікі распаўсюджвалі «святыя лісты», чуткі пра хуткі канец свету і роспуск калгасаў, хадайнічалі і пісалі скаргі наконт вяртання касцёлаў і цэркваў і г.д. Асабліва актыўнасць павялічвалася ў сувязі са святамі, якія прыцягвалі ўвагу да праблем існавання рэлігійных установаў.

У большасці выпадкаў дзеянні ўлад па вяртанні святынь былі фікцыйнымі. Маглі спецыяльна ўносіць нязгоду ў шэрагі тых, хто скардзіўся, аддаючы будынак, але не рэгіструючы святара. Такім чынам, адказнасць за ўтрыманне пагаджаліся ўзяць на сябе толькі самыя ўпартыя. Аддаленасць найбліжэйшага храма штурхала некаторых вернікаў збірацца ў групы, якія незаконна маліліся ў прыватных кватэрах[4].

Пэўныя формы такіх дзеянняў маглі бачыцца ўладамі як магчымая праява бунту. Напрыклад, такой была рэакцыя на выпадкі самаабнаўлення іконаў у 1949 г., якія ўлады расцэньвалі палітычна. Архіепіскап Мінскі і Беларускі Піцірым нават спецыяльна арганізаваў экспертную камісію, каб даказаць, што такія цуды мелі чыста рэлігійнае значэнне. У якасці доказу выкарыстоўвалася тое, што дадзенае дзіва мела месца як у дамах калгаснікаў, так і ў дамах аднаасобнікаў, а сходы па гэтым факце праходзілі стыхійна, а не арганізавана.

Спачатку такія абнаўленні былі ў Мірскім раёне Гродзенскай вобласці. За год да гэтага некаторыя жыхары пабачылі іншы цуд — абразы ў вадзе. На 3 кастрычніка 1949 года ў Стаўбцоўскім раёне Баранавіцкай вобласці было зарэгістравана 9 выпадкаў самаабнаўлення ікон. Масавыя маленні каля іх былі па 10–14 дзён. Царкоўным кіраўніцтвам было прынята рашэнне аб прынясенні такіх абноўленых ікон у цэрквы, каб спыніць «незаконныя» сходы пад адкрытым небам[5].

Заўважым, што ў першыя пасляваенныя гады Руская праваслаўная царква (РПЦ) знаходзілася ў больш прывілеяваным становішчы, чым іншыя рэлігійныя канфесіі ў БССР. У адносінах да яе ўлады прадпрымалі дзеянні, якія мелі характар не столькі строгага кантролю, а паступовага

3 Аўдыёінтэрв'ю Наталлі П., 1917 г. н., 15.03.2009, г. Мінск, БАВГ, 2(2)-84-296.
4 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 4, воп. 62, спр. 348, Аа. 59, 63, 64.
5 Тамсама, спр. 68, Аа. 486–488.

адсоўвання яе на задні план грамадска-палітычнага жыцця. Больш жорсткай была палітыка ў адносінах да іншых канфесій. Цяжкасці былі выкліканы ў тым ліку іх больш прынцыповай пазіцыяй у дачыненні да ўладаў і заангажаваннем у дзейнасць, якая магла лёгка быць расцэнена як «палітычная». Каталіцкі касцёл актыўна падтрымліваў рух супраціўлення АК, спрыяў выезду людзей у Польшчу. У афіцыйных дакументах улада тлумачыла рэпрэсіі ксяндзоў тым, што яны нібыта выступалі супраць дзяржаўнай палітыкі і наўпрост умешваліся ў працу савецкіх чыноўнікаў. Пратэстанты таксама былі падазронымі для чыноўнікаў, бо масава ўваходзілі ў незарэгістраваныя рэлігійныя арганізацыі; для іх была характэрнай адмова супрацоўнічаць не толькі з немцамі падчас акупацыі, але і з камуністычнай уладай, таксама сабатаж і зрыў савецкіх мерапрыемстваў. Былі групы, якія на самай справе сваёй дзейнасцю кідалі фактычна выклік сістэме, — не ўступалі ў калгас, не пускалі дзяцей у школу па панядзелках і суботах і г.д.[6]

З 1948 г. адбываецца карэнны пералом у агульным стаўленні ўлады да ўсіх, нават зарэгістраваных рэлігійных абшчын — уводзіцца шэраг забаронаў на правядзенне абрадаў і становіцца немагчымай рэгістрацыя новых парафій. Было прынята рашэнне пра забарону абслугоўвання духоўнымі асобамі іншых парафіяў, забарону богаслужэння пад адкрытым небам, пра тое, што духоўнікам нельга «перашкаджаць працы калгаснікаў» падчас сельскагаспадарчых работ. Такім чынам, колькасць фармальных прычын для забароны дзейнасці абшчыны ці святара была афіцыйна павялічана. Забарона ўцягваць у рэлігію непаўнагадовых зрабіла падазронымі ў вачах уладаў усе рэлігійныя мерапрыемствы, у якіх бралі ўдзел маладыя людзі, падазроным было таксама ненаведванне вучнямі школы ў дні рэлігійных святаў, неўступленне ў піянерскую арганізацыю і г.д.

Духавенства і актыўныя вернікі часта парушалі забароны, накладзеныя ўладамі. Гэта было адной з прычын рэпрэсій супраць вернікаў. Найбольш распаўсюджанымі прэтэкстамі для рэпрэсій было абвінавачванне ў «антысавецкай дзейнасці» і працы на карысць ворага. Акрамя карных мер (арышт) органы бяспекі выкарыстоўвалі і іншыя формы ўздзеяння. Паралельна з партыйным і савецкім кіраўніцтвам у справы рэлігійных абшчын умешваліся нават чыноўнікі даволі нізкага ўзроўню (фінансавыя агенты, упаўнаважаныя райвыканкамаў). Рэлігійная

6 Тамсама, спр. 348, Аа. 91, 96.

дзейнасць бацькоў часта станавілася перашкодай пры паступленні ў ВНУ, была прычынай выгнання з навучальнай установы. Савецкія ўлады фіксавалі, дзе працуюць не толькі рэлігійныя актывісты, але і іх сваякі. Яшчэ горш расцэньвалася супрацоўніцтва са святарамі.

Пры гэтым антырэлігійная прапаганда на мясцовым узроўні, якая праводзілася без асаблівага ціску ўлады, нязначна ўплывала на рэлігійную дзейнасць, асабліва ў сельскай мясцовасці. Хаты-чытальні часта не мелі свайго памяшкання, знаходзіліся ў адным памяшканні з сельсаветам, не выпісвалі газет і г.д[7]. Не спрыяла сітуацыі нявыплата заработнай платы па працаднях у калгасах. У выніку моладзь бегла з вёскі на вытворчасць у гарады, а тыя, хто заставаўся, маглі знаходзіць суцяшэнне ў царкве.

## ЗАХОДНІКІ І ЎСХОДНІКІ

Псіхалагічнай асаблівасцю жыхароў усходніх рэгіёнаў быў страх вяртання даваеннага тэрору, у тым ліку за рэлігійную актыўнасць. Дзейнасць рэлігійных супольнасцяў у заходніх абласцях была іншай. Там духавенства мела большы ўплыў на вернікаў, таму што яшчэ не было праведзена шырокага змагання з рэлігіяй. Там было больш рэлігійных суполак. Напрыклад, большасць праваслаўных абшчын на 1949 год прыпадала на гэты рэгіён — 808, у той час як на ўсходні — 219 абшчын. Каталіцкая царква дзейнічала афіцыйна толькі на тэрыторыі заходніх абласцей БССР, бо, паводле меркавання ўладаў, колькасць вернікаў-каталікоў ва ўсходніх абласцях была нязначнай. З іншага боку, істотны ўплыў на рэлігійную сітуацыю ў Заходняй Беларусі зрабілі працэсы абмену насельніцтвам з Польшчай 1944–1946 гг. Тады з беларускай тэрыторыі з'ехала шмат каталікоў, у тым ліку 304 ксяндзы, шэраг каталіцкіх парафій параcталі існаваць.

Улада меркавала, што шляхам правядзення поўнай калектывізацыі, якая пачалася ў 1949 годзе, рэлігійным супольнасцям у заходніх рэгіёнах будзе яшчэ складаней уплываць на сялянства. Сапраўды, гэта моцна паўздзейнічала на рэлігійнае жыццё рэгіёну — сяляне сталі менш актыўна наведваць царкву, бо былі абцяжараныя працай у калгасе. Але насельніцтва не заўсёды паддавалася гэтым акалічнасцям — у калгасах падчас рэлігійных святаў прыпыняліся працы, часам для рэлігійных мерапрыемстваў выкарыстоўваліся калгасныя коні. Пры гэтым святары

7 Тамсама. А. 125.

стараліся не паказваць свайго стаўлення да калектывізацыі, рэагавалі пасіўна[8]. Нягледзячы на гэта, дзейнасць царквы раздражняла ўлады і расцэньвалася як патэнцыйна накіраваная на антыкалгасную прапаганду.

Розніца паміж узроўнем рэлігійнасці ў заходняй і ўсходняй частках Беларусі была велізарнай. Жыхары недастаткова саветызаванага заходнебеларускага рэгіёну больш прытрымліваліся рэлігійных абрадаў. Гэта пацвярджаецца ўспамінамі як «заходнікаў», так і «ўсходнікаў», якія падтрымлівалі кантакт з імі. Усходнікі адзначалі незадаволенасць заходнікаў барацьбой з рэлігіяй, ініцыяванай савецкай уладай. На гэта ўплывала тое, што за польскім часам жыхары Заходняй Беларусі атрымлівалі, як правіла, рэлігійную адукацыю і мацней былі звязаныя з традыцыйнымі каштоўнасцямі. Гэта датычыла асабліва той групы заходнікаў, якія чакалі, што тэрыторыя Заходняй Беларусі зноў стане часткай польскай дзяржавы, або яны змогуць з’ехаць у Польшчу ў рамках абмену насельніцтвам, і, такім чынам, афіцыйная рэлігійная палітыка для іх зменіцца.

У той жа час на падставе ўспамінаў можна сцвярджаць, што ўсходнікі, нават маладое пакаленне, як і заходнікі, нягледзячы на слабую рэлігійную свядомасць, таксама святкавалі рэлігійныя святы і прытрымліваліся рэлігійных традыцыяў, нават калі не былі адданымі вернікамі. Як галоўныя святы адзначаліся Вялікдзень, Каляды, Тройца і Радаўніца. Найважнейшымі лічылі абрады хрышчэння і пахавання. Шлюбнага рытуалу прытрымліваліся радзей, але таксама лічылі яго важным. Тэндэнцыяй заставалася хрышчэнне дзяцей атэістаў. Звычайна гэта рабіла асоба са сваякоў або блізкіх сям’і людзей, якая прымала такое рашэнне ў адпаведнасці са сваімі рэлігійнымі перакананнямі.

Рэлігійнасць чалавека залежала ад вялікай колькасці фактараў, і не заўсёды вырашальным было месца нараджэння. Паводле ўспамінаў, няма вялікай розніцы ў рэлігійнасці рэспандэнтаў, якія нарадзіліся па-за межамі Беларусі, ад беларускіх усходнікаў, што было выклікана агульным перыядам саветызацыі тэрыторый. Новапрыбылыя маглі быць вернікамі, ведаць пра пераслед за рэлігійныя перакананні з іх мясцовасці. Калі сведка быў з сям’і, звязанай з духавенствам, рэлігійнасць магла быць нават большай, чым у прадстаўніка далучаных у 1939 годзе да БССР абласцей[9]. Тыя беларусы-заходнікі, чые бацькі былі звязаны

8 НАРБ, ф. 4, воп. 62, спр. 68, А. 33.
9 Аўдыёінтэрв’ю Валянціна Л., 1929 г. н., 11.03.2009, г. Мінск, БАВГ:2(2)-79-260-267.

з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі яшчэ падчас польскага кіравання, увогуле маглі быць няверуючымі. Але гэта не значыць, што яны былі агрэсіўнымі атэістамі, магчыма, па прычыне таго, што яны не маглі адчуваць сябе адарванымі ад лакальнай супольнасці, мелі пэўную павагу да вернікаў.

Стаўленне да адзначэння святаў у грамадстве адрознівалася ў заходнікаў і ўсходнікаў. Аб'ядноўвала іх правядзенне рэлігійных свят у той ці іншай форме, але што датычыла савецкіх, то сярод заходнікаў існавала ў той перыяд вялікая група людзей, якія не прызнавалі іх, што было звязана з непрыняццем працэсаў саветызацыі. Для малодшага пакалення менавіта рэлігійныя святы з-за іх большай разнастайнасці, у тым ліку па традыцыі рытуалу і яго практычных аспектах, пакінулі пазітыўнае ўспрыманне рэлігіі, падтрымлівалі рэлігійнасць.

## СТРАХ ПЕРАД РЭПРЭСІЯМІ І СТРАТЭГІІ ЗАХАВАННЯ РЭЛІГІЙНАСЦІ

Крыніцай інфармацыі аб рэлігійнай дзейнасці, якую амаль не згадвала афіцыйная савецкая прапаганда, былі паўсядзённыя адносіны паміж людзьмі. Нефармальны абмен паведамленнямі паміж вернікамі і іх блізкімі ў сям'і, па месцы працы або ў пэўным асяродку дапамагаў захоўваць рэлігійныя практыкі і даведвацца пра магчымасці ўдзелу ў дзейнасці рэлігійных установ. Вонкава гэтая тэма была табуяваная. Сакрэтнасць моцна характарызавала рэлігійную актыўнасць, бо існавала пагроза рэпрэсій за выкананне рэлігійных абрадаў асобамі, якія мелі пэўны сацыяльны статус (напрыклад, настаўнікамі, дактарамі), і за наведванне дзецьмі рэлігійных установ. Даносы былі звычайнай прычынай для іх пачатку.

Рэлігійнасць паасобных людзей выяўлялася двума спосабамі: у захоўванні рэлігійнай абраднасці ў штодзённым жыцці і ў наведванні святынь. Апошні быў менш папулярным і таму, што колькасць працуючых рэлігійных святынь скарачалася, і таму, што за гэта пагражалі большыя рэпрэсіі, і гэта было цяжэй хаваць. Людзі пераважна адзначалі рэлігійныя святы ўпотай у прыватных дамах.

Давер да святара мог быць адной з прычын прыняцця рашэння пра ўдзел ці няўдзел у публічных набажэнствах у святынях. Пэўная катэгорыя вернікаў баялася ўдзельнічаць у рытуалах у сувязі са страхам, што святар мог быць інфарматарам уладаў.

У агульнай сітуацыі абмежавання дзейнасці рэлігійных інстытутаў, барацьбы з рэлігіяй вернікамі менш увагі звярталася на рэлігійную прыналежнасць сужэнца, на тое, ці была хрысціянская царква праваслаўнай ці каталіцкай канфесіі, калі была патрэба памаліцца ці

знайсці дапамогу святара для выканання рэлігійных абрадаў. Калі ў сям'і муж і жонка мелі розныя веравызнанні, то маглі жыць у згодзе, узаемна адзначаючы святы адно аднаго. Змена веравызнання адным з сужэнцаў была менш распаўсюджаная. Большай праблемай для паразумення ў сям'і мог быць атэізм аднаго з самых блізкіх людзей.

З-за боязі рэпрэсій за адхіленне ад афіцыйнага курсу змяняліся паводзіны тых людзей, якія былі на адказных пасадах, у тым ліку ідэалагічных пастах, і яны былі вернікамі. Як правіла, яны падпарадкоўваліся знешнім абмежаванням рэлігійнасці ў сям'і. Як яны рэалізоўвалі іх, залежала ад сілы веры, унутранага запатрабавання захавання традыцый. Хтосьці схавана захоўваў абразы, маліўся, адзначаў святы, нехта баяўся зрабіць і гэта. Такія асобы былі часам у стане спалучаць барацьбу супраць рэлігіі з падтрыманнем асабістай рэлігійнасці: маглі забараняць хадзіць у храм, а дома адзначаць рэлігійныя святы[10]. У большасці выпадкаў такія людзі пазней падкрэслівалі, што іх змаганне з рэлігіяй было фармальным. Хаця яны маглі казаць і няпраўду, каб лепш выглядаць у вачах наступнага пакалення.

## ТРАНСЛЯЦЫЯ РЭЛІГІЙНЫХ ПЕРАКАНАННЯЎ

Пры савецкай уладзе адбывалася трансфармацыя працэсаў перадачы рэлігійных перакананняў маладому пакаленню. Прыцягненне дзяцей веруючымі бацькамі да ўдзелу ў хатнім выкананні рэлігійных абрадаў або да наведвання храмаў залежала ад узроўню страху рэпрэсій за гэта і верагоднасці перашкодаў для іх кар'еры ў будучыні. Калі бацькі праз рэлігійнае бяздзеянне ў выхаванні дзяцей падтрымлівалі афіцыйную палітыку, якая была ўведзена па месцы вучобы, то пасля рэлігійнасць моладзі была меншай. Пасля сыходу старэйшага пакалення перадача рэлігійных традыцый часта перапынялася.

Захоўванню традыцыі ў сям'і перашкаджалі розныя метады дзяржаўнай барацьбы з рэлігіяй. Часта згадваецца наступная мера: на царкоўныя святы арганізоўваліся савецкія мерапрыемствы, напрыклад, суботнікі, або ў дні посту арганізоўваліся забаўляльныя мерапрыемствы.

Іншым фактарам, які змяншаў рэлігійнасць, была пасляваенная мабільнасць насельніцтва. Маладыя вернікі часта пакідалі свой асяродак, пераязджалі ў іншы горад на працу і вучобу. Так захаванне абраднасці зніжалася, бо рэлігійныя традыцыі больш падтрымліваліся праз

10 Аўдыёінтэрв'ю Матроны Г., 1929 г. н., 01.03.2009, в. Юркавічы Лагойскага раёна Мінскай вобласці, БАВГ: 2(2)-64-185-186.

сямейныя сувязі, а таксама спецыфіку жыцця ў сельскай мясцовасці. У новым асяродку, адаптуючыся, чалавек хутчэй прымаў афіцыйныя правілы паўсядзённага жыцця. Таксама варта памятаць, што ў гарадах панавала больш атэістычная атмасфера.

* * *

Імкненне да захоўвання рэлігійных звычаяў як часткі свабодаў прыводзіла да канфлікту простага чалавека з палітыкай савецкай улады ў адкрытай ці прыхаванай форме. У гэтым імкненні асоба, у залежнасці ад абранай стратэгіі супраціўлення, мела магчымасці захавання традыцыйных каштоўнасцяў у поўным ці абмежаваным аб'ёме. Апошняе ахоўвала ад рэпрэсій, аднак у будучыні ўскладняла трансляцыю рэлігійных перакананняў наступным пакаленням, што прыводзіла да паступовай страты рэлігійнасці. Выхаваныя пры савецкай сістэме падлеткі, за рэдкім выключэннем, ужо не маглі заставацца ў такой жа меры прыхільнікамі рэлігійных практык, і гэта таксама ўплывала на здольнасць заўважыць маніпуляцыю з боку савецкай улады, рэдукавала схільнасць да пратэсту.

# Генеалогія нацыянальнай дзяржаўнасці ў гістарычнай памяці беларусаў

**Аляксей ЛАСТОЎСКІ,** Інстытут «Палітычная сфера»

У беларускай інтэлектуальнай і культурнай прасторы з канца XIX ст. канкуруюць два асноўныя гістарычныя мета-наратывы, якія даюць базіс вытлумачэння гістарычных падзей і іх сэнсу. Адмысловае месца для абодвух наратываў мае пытанне вытокаў дзяржаўнасці.

Першы з іх — нацыянальны, дзе вытокі дзяржаўнасці прасочваюцца да Полацкага княства, якое лічыцца самастойным дзяржаўным утварэннем. У якасці «залатой эпохі» вылучаецца Вялікае Княства Літоўскае, дзе беларускі народ займаў паноўнае становішча, але ў выніку інтрыгаў ваяўнічых суседзяў гэта магутная дзяржаўнасць была страчаная. Беларуская Народная Рэспубліка разглядаецца як легітымная форма аднаўлення гэтай лініі дзяржаўнасці ў мадэрную эпоху.

Другі наратыў — русацэнтрычны, дзе гісторыя беларусаў разглядаецца ў кантэксце агульнарускай дзяржаўнасці. Кіеўская Русь лічыцца той дзяржавай, дзе ўзнікла старажытнаруская народнасць, з якой пазней сфармаваліся блізкія і братнія рускі, украінскі і беларускі народы. ВКЛ вызначаецца як дзяржава літоўскіх феадалаў, дзе руская праваслаўная культура і свядомасць прыгняталіся. У якасці мадэрнага ўвасаблення дзяржаўнасці прапаноўваецца БССР. Абедзве формы разумення генеалогіі беларускай дзяржаўнасці цесна і непасрэдна завязаныя на

палітычныя праекты і візію не толькі мінулага, але таксама сучаснасці і будучыні Беларусі.

Гісторыкі, якія працавалі ў парадыгме нацыянальнай гістарыяграфіі, сталі «нацыябудаўнікамі», настолькі моцны ўплыў іх працы мелі на фармаванне мадэрнай нацыянальнай свядомасці. Але шмат хто з іх быў уцягнуты і ў непасрэдную палітычную барацьбу, асабліва гэта датычыць беларускага выпадку, практычна ўсе нацыянальныя гісторыкі пачатку XX стагоддзя былі актыўнымі ў палітычнай дзейнасці. Адпаведна, «доўгая генеалогія» беларускай дзяржаўнасці была непасрэдна звязаная з этнанацыянальным праектам, які спачатку намагаўся дасягнуць аўтаноміі, а потым і незалежнасці Беларусі. Зноў жа, уваскрашэнне гэтай гістарыяграфічнай традыцыі падчас распаду СССР было пераплеценае з грамадзянскай і палітычнай актыўнасцю, якая наноў ставіла мэтай спачатку пашырэнне самастойнасці БССР у савецкай дзяржаве, а потым — дасягненне незалежнасці Беларусі. Некаторы час этнанацыянальная версія беларускай гісторыі наўпрост атаясамлівалася з дзейнасцю БНФ, што пасля палітычнай паразы гэтага руху прывяло і да перагляду падручнікаў па гісторыі Беларусі. Але заняпад гэтага руху і замацаванне незалежнасці краіны вядзе да заканамернай эрозіі дадзенай звязкі, і, адпаведна, ствараюцца ўмовы для ўключэння элементаў нацыянальнай гістарыяграфіі ў афіцыйную гістарычную палітыку.

Пры гэтым варта зазначыць, што абодва азначаныя наратывы падтрымліваюцца інтэлектуальнымі коламі, якія працуюць на іх удакладненне, развіццё і распаўсюджванне. У той жа час нельга афіцыйную гістарычную палітыку ў Беларусі, якая вядзецца з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, наўпрост атаясамліваць ні з адным з гэтых наратываў. Хутчэй, варта казаць пра стварэнне гібрыднага культурнага канону, які засноўваецца на спалучэнні нацыянальных і савецкіх элементаў.

Варта пагадзіцца з Андрэем Фіндарам, што «*гістарыяграфічныя рэпрэзентацыі «пачаткаў нацыянальнай гісторыі» адлюстроўваюць і выяўляюць базавую палітычную канфігурацыю сваёй эпохі*». З іншага боку, застаецца актуальным, у якой ступені можна казаць пра паспяховую трансляцыю гэтых рэпрэзентацый, іх засваенне ў масавай свядомасці мэтавай публікі — у дадзеным выпадку, беларусаў. У пачатку XX ст. у беларускага нацыянальнага руху было надзвычай мала рэсурсаў і магчымасцей для распаўсюджвання сваіх поглядаў на беларускую нацыю і яе гісторыю. Як ні парадаксальна, але менавіта ў Савецкай Беларусі ў 1920-х гадах упершыню з дапамогай масавай адукацыі пачала пашырацца нацыянальная версія гісторыі сярод шырокіх слаёў

насельніцтва, што таксама магло мець свой уплыў і на замацаванне самавызначэння «беларусы», якое фіксуецца савецкімі перапісамі. Але далейшы курс гістарычнай палітыкі савецкага ўраду быў накіраваны на інтэграцыю беларускай гісторыі ў міф Кіеўскай Русі і трыадзінства рускага народу, які пераўжыў савецкую ўладу і да гэтага часу транслюецца часткай палітычнай і інтэлектуальнай эліты, выхаванай на камуністычных ідэалах, і таксама новай хваляй «заходнерусаў». Усё гэта сведчыць пра адсутнасць нейкага адзінага комплексу ведаў пра вытокі нацыянальнай дзяржаўнасці, які б стала трансляваўся праз інстытуты культурнай палітыкі. Таму само пытанне вытокаў нацыянальнай дзяржаўнасці можна смела выкарыстоўваць як для аналізу палітычных пазіцый у сучаснай Беларусі, так і для дыягназу стану гістарычнай памяці жыхароў краіны. Нічога дзіўнага, што ў апошні час яно стала выкарыстоўвацца ў сацыялагічных даследаваннях.

Натуральна, што паміж поглядамі гісторыкаў, выступамі палітыкаў і іх мэтавай аўдыторыяй — насельніцтвам краіны — ёсць адмысловая дыстанцыя. Найперш, паўстае пытанне трансляцыі, выкарыстання розных сродкаў для распаўсюджвання сярод масаў акрэсленых уяўленняў: у сучасным мадэрнізаваным грамадстве найбольш эфектыўнымі медыямі выступаюць сістэма адукацыі і сродкі масавай інфармацыі. Толькі дагэтуль застаецца спрэчным пытанне пра эфект іх уздзеяння — відавочна, што нельга казаць пра прамую і правільную інтэрпрэтацыю закладзенага паслання.

Па пытаннях вытокаў нацыянальнай дзяржаўнасці сітуацыя яшчэ больш ускладняецца не толькі зменай паноўнага наратыву ў адпаведнасці з палітычнай сітуацыяй, але і рэальнай практыкай суіснавання ў афіцыйным культурным полі супрацьлеглых і канфрантацыйных ідэалагічных пазіцый.

Таксама трэба заўважыць, што змена любых уяўленняў, у тым ліку і пра мінуўшчыну, не можа адбывацца маментальна. У сувязі з гэтым можна высунуць меркаванне, што сярод старэйшых пакаленняў беларусаў будуць распаўсюджаныя погляды, менш прыхільныя да «доўгай генеалогіі» нацыянальнай дзяржаўнасці, што адпавядала б таму канону, які трансляваўся ў савецкі час. І з гэтым звязаная гіпотэза, што з часам колькасць прыхільнікаў «доўгай генеалогіі» павінна пашырацца, але гэтыя змены не мусяць адбывацца хутка, у сувязі з хісткасцю афіцыйнай пазіцыі, што мае праявы ў разнастайнасці падручнікаў.

На гэты момант мы валодаем дадзенымі чатырох розных сацыялагічных даследаванняў, якія можна параўноўваць паміж сабой, хоць і з некаторымі абмежаваннямі: НІСЭПД (2004 г.), Інстытута сацыялогіі

НАН Беларусі (2008 г.), лабараторыі «Новак» на замову кампаніі «Будзьма» (2009 і 2012 гг.).

Вось якія вынікі мы маем з даследаванняў НІСЭПД. Фармулёўка пытання гучала наступным чынам: «Якая дзяржава, на Вашу думку, была першай у гісторыі беларускай дзяржавай?». На жаль, само пытанне было сфармулявана не дужа карэктна, паколькі ў закрытым наборы адказаў адсутнічала Полацкае княства.

З улікам гэтага размеркаванне адказаў выглядае наступным чынам:

| Дзяржава | Колькасць адказаў, % |
|---|---|
| ВКЛ | 34,6 |
| БНР | 15,1 |
| БССР | 17,0 |
| Рэспубліка Беларусь | 18,2 |
| Цяжка адказаць / Няма адказу | 15,1 |

У даследаваннях Інстытута сацыялогіі і лабараторыі «Новак» быў уведзены яшчэ адзін варыянт адказу — «Полацкае княства» (ІС) ці «Полацкае і Тураўскае княства» («Новак»).

| | Полацкае княства | ВКЛ | БНР | БССР | РБ | Цяжка адказаць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Інстытут сацыялогіі (чэрвень 2008) | 29 | 22 | 9 | 10 | 6 | 24 |
| «Новак» (лета 2009) | 18 | 38 | 5 | 12 | 9 | 18 |

Самыя свежыя дадзеныя прадстаўленыя ў даследаванні 2012 года, ажыццёўленага лабараторыяй «Новак» на замову кампаніі «Будзьма». У гэтым апытанні рэспандэнтам дазвалялася выбіраць некалькі варыянтаў адказу, і вынікі выглядаюць адпаведным чынам:

Полацкае і Тураўскае княства — 25,1%
Вялікае Княства Літоўскае — 44,8%
БНР — 9,9%
БССР — 18,2%
Рэспубліка Беларусь — 15,6%
Не ведаю / цяжка адказаць — 14,6%

Атрымліваецца, што мы маем некалькі апытанняў з блізкімі, але адрознымі фармулёўкамі, і таму наўпрост іх параўнаць складана, але некалькі агульных высноваў усё ж можна зрабіць. Найперш, паводле

ўсіх даследаванняў можна зрабіць адназначную выснову, што «доўгая генеалогія» карыстаецца большай прыхільнасцю ў масавай свядомасці беларусаў, чым «кароткая генеалогія». Іншая важная выснова — калі ўзяць у якасці зыходнай кропкі даследаванне НІСЭПД 2004 г., а ў якасці фінальнай кропкі — даследаванне «Новак» 2012 г., то таксама заўважная тэндэнцыя пашырэння колькасці прыхільнікаў «доўгай генеалогіі»: у 2004 г. мы можам заўважыць толькі невялікую перавагу ў прапорцыі 10 да 7, а ў 2012 г. перавага ўжо вызначаецца ў прапорцыі 10 да 4.

Найбольш падрабязна аналізаваліся дадзеныя даследаванняў Інстытута сацыялогіі 2009 г. і «Новак» 2012 г. Абодва даследаванні цалкам пацвердзілі першапачатковую гіпотэзу. Сапраўды, людзі, старэйшыя за 60 гадоў, больш схільныя аддаваць перавагу БССР у ролі першай беларускай дзяржавы (15,2%), чым рэспандэнты больш маладога ўзросту (5,4%). Але пры гэтым прадстаўнікі старэйшых узроставых групаў усё ж пераважна дапасоўваюць генеалогію беларускай дзяржаўнасці да перыядаў Полацкага княства ці ВКЛ, і ў гэтым пытанні істотных ліній разладу ў гістарычнай памяці жыхароў Беларусі рознага ўзросту не назіраецца. З іншых істотных фактараў, якія ўплываюць на выбар генеалогіі дзяржаўнасці, можна адзначыць вышэйшую адукацыю — адукаваныя беларусы яўна больш сімпатызуюць «доўгай генеалогіі».

Але паўстае іншая праблема: наколькі можна казаць, што жаданне беларусаў бачыць вытокі дзяржаўнасці ў часах Полацкага княства і ВКЛ сведчыць пра іх свядомую падтрымку нацыянальнага гістарычнага наратыву (з усімі звязанымі палітычнымі канатацыямі)? І цалкам сіметрычна, наколькі выбар «кароткай генеалогіі» азначае палітычна матываваную падтрымку русацэнтрызму? Відавочна, што для вырашэння гэтай праблемы патрэбна выкарыстанне дадатковых індыкатараў. І пры аналізе дадзеных даследавання лабараторыі «Новак» 2012 г. у якасці такіх індыкатараў былі выкарыстаныя: выбар нацыянальнай сімволікі (бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» ці актуальная дзяржаўная сімволіка), стаўленне да пашырэння ўжывання беларускай мовы ў розных сферах жыццядзейнасці, падтрымка савецкай ідэнтычнасці.

На матэрыяле сацыялагічных дадзеных можна вылучыць чатыры тыпы ўяўленняў пра нацыянальнае мінулае: 1) ідэалагічны выбар «доўгай генеалогіі», заснаваны на свядомым прыняцці нацыянальнага наратыву, з ім злучаюцца досыць цвёрдыя пазіцыі (выбар у якасці сімволікі бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні», прыхільнасць да максімальнага пашырэння сферы выкарыстання беларускай мовы); 2) эмпатычны выбар «доўгай генеалогіі», для якога характэрна ўмерана-пазітыўнае стаўленне ў адносінах да нацыянальнай гісторыі і беларускай мовы,

становўчае ўспрыняцце беларускасці, злучанае разам з адсутнасцю ўласнай актывісцкай пазіцыі; 3) ідэалагічны выбар «кароткай генеалогіі», для якога характэрна рэзкае непрыманне сферы пашырэння беларускай мовы і прыняцце савецкай ідэнтычнасці; 4) выбар «кароткай генеалогіі», заснаваны на вузкім гарызонце гістарычных ведаў, абмежаваных межамі штодзённасці (такая пазіцыя характарызуецца нявыяўленасцю пазіцый па праблематычных пытаннях і слабой, расплывістай ідэнтычнасцю). На падставе сацыялагічных дадзеных можна смела сцвярджаць, што пры даволі слабой укаранёнасці ў масавай свядомасці беларусаў цвёрдых ідэалагічных поглядаў у цэлым пераважае тэндэнцыя «мяккай» ухвалы «доўгай генеалогіі» нацыянальнай дзяржаўнасці. Яна паступова, але ўсё больш пашыраецца сярод насельніцтва, і калі ўлічваць, што група прыхільнікаў «кароткай дзяржаўнасці» — гэта пераважна людзі старэйшага ўзросту з невысокім узроўнем адукацыі, то ў перспектыве са зменаю пакаленняў гэты зрух да «доўгай дзяржаўнасці» будзе працягвацца.

Але прыхільнасць да выбару старажытнай версіі беларускай дзяржаўнасці не зусім адпавядае жорсткай версіі этнанацыяналізму, якая базуецца ў сваёй гістарыясофіі менавіта на такім бачанні мінуўшчыны. Сярод насельніцтва Беларусі выбар «доўгай генеалогіі» нацыянальнай дзяржаўнасці спалучаецца і з прыняццем сучаснай беларускай сімволікі, і з пасіўным стаўленнем да пашырэння ўжытку беларускай мовы. У такім выглядзе «доўгая генеалогія» з'яўляецца прыдатнай і для беларускай улады, паколькі не супярэчыць тым пазіцыям, якія распаўсюджваюцца праз праект беларускай дзяржаўнай ідэалогіі. Таму нават пры паступовым сыходзе савецкага пакалення і адсутнасці ўстойлівай базы для падтрымкі русацэнтрызму шанцы на пашырэнне радыкальнай версіі моўна-этнічнага нацыяналізму досыць абмежаваныя. Больш верагодным выглядае распаўсюджванне памяркоўнай і досыць пасіўнай версіі беларускай ідэнтычнасці.

Падагульняючы, варта заўважыць, што вынікі сацыялагічнага даследавання наўпрост пацвярджаюць тую сувязь паміж мовай, гістарычнай памяццю і ідэнтычнасцю, якую сцвярджалі нацыянальныя пракокі і якую зараз спрабуюць намацаць вучоныя. Выбар версіі беларускай мінуўшчыны, сапраўды, мае ўстойлівыя карэляцыі з выбарам нацыянальнай сімволікі, стаўленнем да савецкай ідэнтычнасці, моўнымі прыхільнасцямі.